ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

3 студзеня 1997 г. № 1 (3877) Кошт 3 000 руб.



# "...ДОМ" ЧАКАЕ ВЯСНЫ



*Алена Мазгова (Саламея)*

Тэлесерыял, — будзем рэалістамі, — у любым выпадку не шэдэўр экрана. Ён не толькі ствараецца, але і жыве на экране па сваіх, адрозных ад традыцыйнага або элітарнага кіно, законах. Мае прадугледжаныя дапушчэнні. Вызначаныя, наканаваныя недасканаласці. Але лягчэй закупіць усіх "Марый" ды "Трапіканак" свету, чым стварыць сваё і папрацаваць над ягоным продажам, рэкламаю, акупіць выдаткі.

Небяспека няскончыць першы беларускі тэлесерыял "Пракляты ўтульны дом" паўставала не адзін раз. Прыватная фірма ніколі не агорала б такой справы ў сучаснай Беларусі. Дзяржава не заўжды заахвочвала імпэт стваральнікаў, — тэлесерыял у любым выпадку не шэдэўр... І тым не менш два выдаткоўцы, два сродказдабывальшчыкі — Беларускае тэлебачанне і фірма "Белвідэакіно" (створаная, дарэчы, якраз для здымак першага серыялу) разумеліся ў галоўным — у сваіх мастацкіх запатрабаваннях. Раман Стэфана Жаромскага "Верная рака" даў спажыву для адметных сцэнарных распрацовак Уладзіміра Халіпа. Сцэнарый, упадабаны рэжысёрам Уладзімірам Арловым, дапісваўся ўжо падчас здымак, — папершапачатку меркавалі зняць пяцьдзесят дзве серыі па трыццаць хвілін. Падчас мантажу выявілася, што замест запланаваных дваццаці шасці гадзін атрымалася дваццаць восем, так што вясною на нашых экранах цітры "Пракляты ўтульны дом" з'явяцца раўнютка трыццаць тры разы.

Зрэшты, лімаўскі аповед пра першы беларускі тэлесерыял пачаўся з вытворчасці толькі таму, што мастацкі натхніцель ды галоўны здзяйсняльнік, рэжысёр Уладзімір Арлоў пра творчы бок сваёй шматсерыйнай справы распавёў хіба не кожнаму тутэйшаму выданню. А работа "лімаўца" вымагае адметнасці. Таму нашым суразмоўцам зрабілася Лілія КАВАЛЕВІЧ, дырэктар і выканаўчы прадзюсер серыялу. Адначасова ад Беларускай тэлерадыёкампаніі і ад "Белвідэакіно". Своечасова — з новымі ідэямі ды магчымасцямі павесці работу сучасна, зацікаўлена і... абаяльна.

*(Працяг на стар. 11)*





*Рабочыя моманты з Генадзем Шкуратавым і Данатасам Баніёнісам.*

*Фота Віктара ЖЫЛІНА*

# ЖЫВІЦЕ Ў ДОМЕ — І НЕ РУХНЕ ДОМ

Два гады назад, распачынаючы з сябрамі-паплечнікамі рэарганізацыю часопіса "Крыніца", я сказаў у прадмоўцы тое, пад чым магу падпісацца і цяпер:

"Адчуванне, што літаратура сталася марнай, непатрэбнай нават самой сабе, наўрад ці ў мяне аднаго. Не ў аднаго мяне асцярога, што ўжо зараз літаратурныя выданні ахопліваюць спусцелую прастору. У папярэднікаў прастора існавання звузілася да страты, у наступнікаў — да безвыходнасці. Зноў, як фантом, як міраж у пустэчы, паўстаюць гістарычныя мэты і задачы, але ўжо ведаеш, што гісторыя не мае мэты. Ёсць толькі гістарычны кантэкст, цьмянасці, шыфры і згадкі якога ўдакладняюцца найперш літаратурай. Так наканавана, гэткае ў нас светаадчуванне, стан. Можна вагацца, добра яно ці не, але мы — вярбальная нацыя, нацыя слова. Не названых нас няма. Цяпер, як і раней, мусім назваць і назвацца".

— А што называць і перад кім называцца, што казаць, калі ўсё адно ніхто і нічога не чуе? — спыталася пазней знаёмая мастачка. — Тут хіба што крычаць: "Гінем! Канаем! Знікаем! Прападаем!"

На зломах гісторыі стрэсавыя рэфлексіі інтэлігенцыі, асабліва інтэлігенцыі ў такім юначым узросце, як беларуская, гэта псіхафізічная яе адзнака. Але палітыка, якая робіцца на зломах гісторыі, зусім не абавязана гэткія тонкасці разумець. Хаця б яна ўлічвала і разумела тое, што сапраўдная інтэлігенцыя па сваёй прыродзе, па сутнасці, па прызначэнні і прызванні сваім была і будзе апазіцыйнай у адносінах да любой улады. Яна іначай арганізаваная, у яе іншы генетычны код, таму на шляху да ўлады інтэлігенцыя блыталася пад нагамі і раздражняла заўсёды і ўсіх, хто на гэты шлях ступаў і па ім крочыў.

Гэтая універсальная мадэль узаемаадносін палітыкі з інтэлігенцыяй мае ў нас свае прыкметы і асаблівасці, а таксама нечаканкі.

У нашых структурах улады і паблізу ад іх, на жаль, да гэтага часу знаходзяць пачэснае месца людзі з устойлівай пагардай да ўсяго сапраўды беларускага. Найбольшае, з чым яны маглі і могуць змірыцца, дык хіба што з этнаграфічна-фальклорнымі (цымбалы, дудкі, "Лявоніха") выявамі нашай культуры. Гэта для іх звыкла, нармальна, бо нагадвае нешта "нацыянальнае па форме". Што ж тычыцца беларускай гісторыі, філасофіі, культуралогіі — дык гэтага ў іх уяўленні проста быць не можа, таму што не можа быць. Пры такіх інтэлектуальных амбіцыях само існаванне Беларусі ўспрымаецца імі як гістарычная памылка, якую яны прызваныя выправіць.

Што ж, выпраўляць малаправільных беларусаў спрабавалі неаднойчы. Дык у чым жа тут нечаканка, калі ўсё ўжо было-перабывала, калі ўся мінуўшчына народа сведчыць пра тое, што спаконвечнае ў ім — мову, веру, сімвалы, святыні, з якіх і вынікаюць літаратура, філасофія, гісторыя, культуралогія — нельга ні забараніць, ні адмяніць, ні выправіць?

Нечаканка спасцігла нас у выніку эксперыментаў з дэмакратыяй, калі мы нарэшце займелі тое, за што нібыта змагаліся і чаго на самай справе не надта і хацелі: саміх сябе, якія ёсць. І што ж мы робім, як выглядаем у такой нечаканцы? А крычым сабе: "Гінем! Канаем! Знікаем! Прападаем!" — і крыўдуем за паражэнне нацыянальнай ідэі хто на ўладу, хто на народ. Хоць нават у найбольш спрыяльныя гады, атрымаўшы магчымасць для Адраджэння, мы не здолелі сфармуляваць, вымавіць нацыянальную ідэю так, каб яна праламала каркас палітыкі, пераадолела яе і сталася з'явай духоўнай.

Чым жа мы тады займаліся?

Палітыкай.

Эйфарыя Адраджэння засціла нам вочы, ніхто не бачыў берагоў найбліжэйшай будучыні, не ведаў, куды плыць. Адны крычалі "давай на захад!", другія — "давай на ўсход!", трэція — "кідай якар у родным балоце!" Так пакуль што на якары і стаім, — а ўжо многіх матросаў параскідвала і пазмывала.

Справа палітыкі — выбар накірунку, справа мастацтва — асэнсаванне шляху.

Палітыка ўсё хістае і хістае сцены нашага дома — і ўжо ўзнікае адчуванне, нібыта ў доме нашым ніхто і не хоча жыць. Але адчуванне гэтае пройдзе, знікне, яно часовае, бо ўсе мы ведаем, што толькі тут жытло нашае — і давядзецца ўрэшце ў ім ужывацца ўсім нам з усімі.

***Мітынговыя вуліцы, поўныя ярасцю плошчы***
***Я пакіну аднойчы і рушу да возера Прошчы,***
***Што сінее на роднай зямлі васільком на радне***
***І царкву са званіцай ашчадна хавае на дне.***

***Па збалелай дарозе***
***з камянём непазбыўнай віны***
***Я ўвайду ў тое возера і разгайдаю званы,***
***І, абланчаны Прошчай, за ўсіх,***
***каго проста люблю,***
***Памалюся, паплачу і свечку ў царкве запалю.***

***Залацістаю рыбай да берага свечка сплыве,***
***Залацістай змяёю слізне па шчаслівай траве,***
***І пчалой залатою паляціць над палямі яна,***
***Над вадой, над зямлёю, якая ва ўсіх нас адна.***

***Аднакрылую свечку***
***з царквы, што ўсплывае са дна,***
***Мне над возерам п р о ш ч ы***
***трымаць ад цямна да відна,***
***Вакол возера бераг***
***адзін,***
***і нікуды з яго,***
***Як бы мы ні штурхаліся — не спіхнуць нам***
***адзін аднаго.***

***Як бы мы ні шалелі ў натоўпах***
***ад лютых страсцей,***
***Паміж намі нямашака прышлых,***
***нязваных гасцей,***
***Толькі мы***
***паміж намі —***
***і нам не над прорваю жыць,***
***А над Прошчаю жыць.***
***Так нядоўга,***
***як свечка гарыць.***

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

ВІНШУЕМ!

# ЛАЎРЭАТЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1996 ГОДА

Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь падпісаны Указ "Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь за 1996 год". Лаўрэатамі сталі:

**У галіне літаратуры:**

***прэміі імя Якуба Коласа***

**Далідовіч** Генрых Вацлававіч, празаік, — за раман "Заходнікі";

***за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва***

**Аніскові** Уладзімір Ігнатавіч, **Карызна** Уладзімір Іванавіч, **Лукша** Валянцін Антонавіч — за Бібліятэку дзіцячай літаратуры народаў СССР у 15 тамах (16 кнігах).

**У галіне мастацтва і архітэктуры:**

***за музычныя творы буйных і малых формаў, а таксама за канцэртна-выканальніцкую дзейнасць***

**Дамарацкі** Уладзімір Аляксандравіч, кампазітар, — за Канцэрт нумар 2 для трубы і вялікага сімфанічнага аркестра;

**Фінберг** Міхаіл Якаўлевіч, мастацкі кіраўнік і дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь, — за канцэртныя праграмы 1992—1995 гадоў;

***за шырока прызнаныя работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў, мастакоў, сцэнарыстаў, кампазітараў і драматургаў, аператараў у пастаноўках тэатраў, кінастудый, на тэлебачанні і радыё***

**Елізар'еў** Валянцін Мікалаевіч, харэограф-пастаноўшчык і лібрэтыст, **Мдзівані** Андрэй Юр'евіч, кампазітар і аўтар музыкі, **Праватораў** Генадзь Панцеляймонавіч, музычны кіраўнік, **Окунеў** Вячаслаў Аляксандравіч, пастаноўшчык (сцэнаграфія), **Душкевіч** Інеса Анатольеўна, выканаўца ролі Рагнеды, **Фадзеева** Кацярына Юр'еўна, выканаўца ролі Рагнеды, **Захараў** Веніямін Міхайлавіч, выканаўца ролі князя Уладзіміра, **Далгіх** Уладзімір Вітальевіч, выканаўца ролі князя Яраполка, — за балет "Страсці" ("Рагнеда");

**Гаявая** Валянціна Іванаўна, балетмайстар, — за пастаноўкі "Па старонках "Полацкага сшытка", "Бывай, ХХ стагоддзе!";

**Тураў** Віктар Цімафеевіч, кінарэжысёр (пасмяротна), — за шматгадовы ўклад у нацыянальнае кінамастацтва;

**Марчук** Георгій Васільевіч, аўтар сцэнарыя, **Зайцаў** Дзмітрый Яўгенавіч, рэжысёр, **Спарышкоў** Уладзімір Пятровіч, аператар-пастаноўшчык, **Цітоў** Вячаслаў Аляксандравіч, выканаўца ролі Алеся Долі, — за мастацкі фільм "Кветкі правінцыі";

***за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва, дызайну***

**Савіцкі** Міхаіл Андрэевіч, мастак — за вялікі ўклад у выяўленчае мастацтва Беларусі і работы апошніх гадоў;

**Бараноўскі** Анатоль Васільевіч, мастак-жывапісец, — за цыкл жывапісных работ 1993—1995 гадоў "Далягляды Бацькаўшчыны";

**Кішчанка** Аляксандр Міхайлавіч, мастак, — за манументальны габелен "Габелен стагоддзя".

**У галіне гуманітарных і сацыяльных навук**

**Высоцкая** Надзея Фёдараўна, доктар мастацтвазнаўства, прафесар кафедры крыніцазнаўства і музеязнаўства гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, загадчык аддзела старажытнага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, — за цыкл работ "Мастацтва Беларусі XII— XVIII стст.".

**Дробаў** Леанід Ніканоравіч, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, загадчык аддзела выяўленчага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Акадэміі навук Беларусі. **Сахута** Яўген Міхайлавіч, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **Жук** Валерый Іванавіч, кандыдат мастацтвазнаўства, вучоны сакратар таго ж інстытута, **Карнач** Пётр Аляксеевіч, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута (пасмяротна), **Масленікаў** Павел Васільевіч, кандыдат мастацтвазнаўства, былы дацэнт кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў (пасмяротна), — за цыкл работ "Гісторыя беларускага мастацтва".

ІМПРЭЗЫ

# ВЫХАВАЦЬ МАСТАКА...

20 снежня ў Мінскім мастацкім ліцэі пры Беларускай акадэміі мастацтваў адбылося адкрыццё незвычайнай выставы. Не адзін раз згадвалася ў прэсе пра творчыя дынастыі. На гэты раз выстава прадстаўляла працы настаўніка і яго вучняў...

Алена Карповіч выкладае ў ліцэі ўжо дзесяць гадоў. За гэты час яна набыла вялікі аўтарытэт сярод выкладчыкаў і ліцэістаў. І ёй ёсць чым ганарыцца — дзесяць яе вучняў, чые працы прадстаўлены на выставе, цяпер студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў. Гэта Юлія Качэргіна, Вольга Марчанка, Юрась Струкаў, Насця Дунец, Алена Каламіец, Валерыя Маляўкіна, Раман Сустаў, Алена Шычко, Тамара Шэлест, Ірына Котава. Работы іх розныя па стылі выканання, творчай манеры. Але кожны з маладых мастакоў па-свойму цікавы. І нехта з іх — гэта ўжо зразумела — будзе вядомым і знакамітым, хто канкрэтна — вызначыць час, талент і працаздольнасць. Нездарма выстава называецца "Клас". Па водгуках вучняў, на занятках, якія праводзіць Алена Карповіч, ствараецца асаблівая атмасфера даверальнасці, адчуванне адзінага творчага калектыву.

На адкрыцці выставы прысутнічалі рэктар Акадэміі мастацтваў Васіль Шаранговіч, прарэктар Леанід Дзягілеў, мастак Уладзімір Стальмашонак. Цёплыя словы пра Алену Карповіч сказалі дырэктар ліцэя Зоя Паўлава, намеснік дырэктара па мастацкай частцы Яўген Саковіч, іншыя супрацоўнікі, вучні, а таксама мастак Алег Карповіч. Напрыканцы ўрачыстай часткі адкрыцця Алене ўручылі керамічны медаль "Лепшаму настаўніку школы".

Леанід Дзягілеў, прарэктар Акадэміі мастацтваў: "У гэтым годзе ліцэю споўнілася 5 гадоў. Мы даём высокую мастацкую падрыхтоўку ліцэістам, і ў той жа час з-за адсутнасці кваліфікацыі выпускнікі ліцэя, якія не паступаюць у ВНУ, маюць цяжкасці з працаўладкаваннем. У бліжэйшы час мы спадзяёмся, што з падтрымкай Міністэрства адукацыі і гарадскога ўпраўлення адукацыі наш ліцэй набудзе статус сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы. І, гледзячы на таленавітых дзяцей, чые працы прадстаўлены на сённяшняй выставе, цяжка ўявіць, што яны б не паступілі ў гэты ліцэй і іх талент згубіўся б у нейкім шэрым асяроддзі".

Зоя Паўлава, дырэктар Мінскага мастацкага ліцэя: "Алена Карповіч працуе ў нас ужо больш за дзесяць гадоў. Яна вельмі цікавы мастак. А яшчэ яна педагог, і пра гэта сведчыць факт, што амаль усе яе выхаванцы паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы па нашым профілі. Тое, што мы бачым на гэтай выставе — вынікі яе працы, вынік работы нашага ліцэя, які яшчэ раз пацвярджае, што ліцэй мае права даваць сярэднюю спецыяльную адукацыю ліцэістам.

Васіль Шаранговіч, рэктар Акадэміі мастацтваў: "Алена вучылася ў мяне на графічным аддзяленні. Гэта была таленавітая, здольная студэнтка. Яна выдатна скончыла нашу акадэмію. Менавіта акадэмічная падрыхтоўка дазваляе Алене выводзіць на творчы шлях сваіх вучняў. Другое, што дапамагае ёй, — высокія чалавечыя якасці. Гэта незвычайныя якасці характару — жорсткасць, мяккасць. Для педагога патрэбны якасці асаблівыя: уменне разумець другога чалавека і любіць яго... Спалучэнне выдатных чалавечых якасцяў і добрай прафесійнай падрыхтоўкі і дае плён, які мы бачым на сённяшняй выставе. Абсалютная большасць тых, хто вучыцца ў групах Алены Карповіч, паступае да нас у акадэмію. Так бывае рэдка. Значыць, Алена знайшла шлях да душаў вучняў. Магу засведчыць, што спалучаць педагагічную і творчую працу вельмі цяжка. Калі выкладчык, скажам, філасофіі напіша лекцыю і паўтарае яе з году ў год, выкладчык мастацкіх спецыяльнасцяў мусіць зразумець характар кожнага вучня, зразумець яго працы. У сапраўднага педагога праца не канчаецца за парогам аўдыторыі. Таму і не так многа добрых педагогаў у мастацкай школе. Не кожны выдатны мастак можа ім быць. Алена Карповіч, на мой погляд, знайшла сваё жыццёвае прызванне, калі прысвяціла сябе выхаванню юных мастакоў, і мы ўскладаем на яе вялікія надзеі. Пажадана, каб такіх педагогаў было як мага больш. Пяцьшэсць год трэба, каб зразумець, адбыўся педагог ці не. Тут педагог адбыўся..."

Сама Алена Карповіч лічыць, што галоўны прынцып яе педагогікі — пазбягаць, каб вучні малявалі "а ля Карповіч", але зразумелі, у чым асаблівасць адоранасці кожнага вучня, і пастарацца максімальна развіць яе. Сябе і сваіх вучняў, былых і цяперашніх, Алена трактуе як адну сям'ю. Да настаўніцы звяртаюцца не толькі з творчымі, але і з асабістымі праблемамі, прыязджаюць у яе маленькі пакойчык у інтэрнаце на святы...

Тут будзе дарэчы заўважыць, што і сям'я Алены — таксама творчая дынастыя. Муж, Алег Карповіч — вядомы мастак, графік, карыкатурыст; сын Паўлік — навучэнец ліцэя, магчыма, таксама будучы мастак.

Вакол такіх людзей, як Алена Карповіч, утвараецца непаўторная, вельмі добрая, творчая аўра. Раім усім жадаючым пазнаёміцца з выставай "Клас", якая дзейнічае ў актавай зале Мінскага мастацкага ліцэя (вул. Камуністычная, 11).

**Л. Р.**

# І ГЭТА НАША СПАДЧЫНА...

Даўно наспеў час "збіраць камяні"... На шчасце, як бы цяжка ні даводзілася, апошнім часам мы "збіраем" іх усё больш упэўнена і мэтанакіравана, і тым самым робяцца новыя высілкі ў імя нацыянальнага Адраджэння. Несумненна, на карысць гэтай высакароднай справе працуе і выстаўка "Спадчына, якая належыць Беларусі", арганізаваная Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі. Падставай для яе адкрыцця сталі дзве знамянальныя даты ў гісторыі нашай краіны: 115-я ўгодкі з дня нараджэння Івана Луцкевіча і 75-годдзе з дня заснавання ў Вільні Беларускага музея, што насіў імя гэтага выдатнага чалавека.

Даўно няма І. Луцкевіча — памёр ад сухотаў яшчэ ў 1919 годзе. Няма і Беларускага музея імя І. Луцкевіча. Шмат якія навалы перажыў ён, нават акупацыю Вільні гітлераўцамі, але пасля вызвалення Літвы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў яго ліквідавалі савецкія ўлады. Менавіта ліквідавалі, а не расфарміравалі, хоць і гэта было б прыкра.

У выніку ліквідацыі багацейшая калекцыя аказалася падзелена паміж тагачаснымі БССР і ЛітССР. У Мінску "драбненне" матэрыялаў працягвалася, таму, каб адкрыць гэтую выстаўку, яе стваральнікам давялося браць экспанаты не толькі з самім музеі гісторыі і культуры Беларусі, а і звяртацца па дапамогу да Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Нацыянальнага мастацкага музея, Дзяржаўнага літаратурнага музея Я. Купалы.

А ў выніку склалася экспазіцыя, якая годна прадставіла і жыццё І. Луцкевіча, і жыццё (так жыццё!) музея, што быў у свой час найбагацейшай скарбніцай, якая ўвабрала ў сябе многае з таго, што сведчыць аб таленавітасці беларускага народа, яго працалюбстве, ягонай здатнасці выжываць у самых неспрыяльных умовах. Але экспазіцыя таго, колішняга Беларускага музея імя І. Луцкевіча ўспрымаецца праз воблік самога І. Луцкевіча. Успрыманне гэтае і радаснае, — усё ж многае і многае захавалася, ды і вярнулася на Бацькаўшчыну і журботнае — "няма таго, што раньш было..."

Пра колішні музей як бы нагадваюць пустыя кніжныя паліцы, голыя рамы, якія нібыта чакаюць цеплыні унікальнейшых карцін... На ўсё гэта засяроджана, з нейкай самотай у вачах пазірае з партрэта сам І. Луцкевіч...

Менавіта так вырашаны яе стваральнікамі пачатак экспазіцыі. І гэта настройвае навёдвальнікаў на адпаведны лад. Як бы праспешвае хутчэй знаёміцца з тым, што не мае сабе цаны. Як бы перасцерагае — цяпер усё вынесена на ўсеагульны агляд, а пасля, хто ведае, калі яшчэ надарыцца падобная мажлівасць.

Паглядзець жа ёсць што. Гэта датычыцца як матэрыялаў, звязаных з жыццём і адраджэнскай дзейнасцю І. Луцкевіча, так і часткі яго калекцыі. Канечне ж, прыцягваюць увагу ўрадавыя пячаткі Беларускай Народнай Рэспублікі — дзе яшчэ будзе падобная мажлівасць убачыць іх! Хіба што на ілюстрацыйных матэрыялах, якія апошнім часам з'яўляецца ў гісторыка-краязнаўчых выданнях. Дарэчы, ёсць на выстаўцы і знаёмцы. Для прыкладу — абраз Спас Нядрэмнае вока, датаваны XVIII стагоддзем. Не так даўно ён быў змешчаны на вокладцы пятага нумара часопіса "Спадчына" за 1996 год. Праляжаў жа абраз у сховішчах больш за 50 гадоў, пакуль яго не знайшлі, падбіраючы матэрыялы для гэтай выстаўкі.

Ёсць на выстаўцы і пярсцёнкі полацкіх князёў XII стагоддзя, пячаткі шляхты XVIII—XIX стагоддзяў, асобныя творы іканапісу, музычныя інструменты, а ўсяго — 350 экспанатаў...

Як быццам і нямала. Сапраўды так, калі мець на ўвазе, што кожны з экспанатаў вельмі рэдкі. Але ж, не будзем забываць, у самім музеі імя І. Луцкевіча іх было недзе каля 15 тысяч! Праўда, разам з кнігамі.

Ды, дзякуй Богу, хоць гэта вынеслі на агляд...

**Н. К.**

# ПЕРШАЯ "ПАМЯЦЬ" НА МІНШЧЫНЕ

Сталася так, што Мінская вобласць пазней за іншыя рэгіёны Бацькаўшчыны належным чынам пастаўлена да выпуску шматтомнага выдання гісторыка-дакументальных хронік гарадоў і раёнаў Беларусі, што ствараецца паводле рашэння Урада Рэспублікі Беларусь. Тым не менш і тут відочны поспехі. Першынцам стала "Памяць" Любанскага раёна, якая пабачыла свет у выдавецтве "Ураджай". Атрымаўся ладны том, што дазваляе прасачыць гісторыю гэтага кутка Беларусі ад сівой мінуўшчыны па сённяшні дзень.

У афармленні і падачы матэрыялу вытрыманы прынцып, характэрны для згаданай серыі...

Адкрываецца кніга каляровымі рэпрадукцыямі. У дадзеным выпадку гэта краявід ракі Арэсы, мемарыяльны комплекс загінуўшым камунарам, савецкім патрыётам, воінам і партызанам у Любані; фальклорны ансамбль "Спадчына", шэраг помнікаў, выгляд вядомага на ўсю краіну пасёлка Сарачы. Тут жа, пад здымкамі, згадваюцца асноўныя даты шматгісчнай гісторыі. Адлік жа вядзецца ад IX—V тысячагоддзя да нашай эры, калі ў эпоху мезаліту адбывалася засяленне Паарэсся (стаянкі на тэрыторыі цяперашняга Любанскага раёна Азярное-1, урочышча Дубнае, возера Вячэра), а насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам.

У даўнія часы вяртаюць чытача артыкулы "Ветры гісторыі над Любаншчынай", "Сівы сведка мінуўшчыны", "У час першых княжанняў"... Поруч з агляднымі матэрыяламі ідуць публікацыі, што запыняюць увагу як на найбольш значных момантах з гісторыі краю, так і знаёмяць з выдатнымі людзьмі, жыццё якіх звязана з Любаншчынай. У прыватнасці, з нарыса "Баронячы волю і годнасць" можна даведацца, як у час паўстання пад кіраўніцтвам Касцюшкі рэйд па Міншчыне зрабіў атрад С. Грабоўскага, а апошні бой адбыўся ля берагоў Арэсы, дзе паранены генерал трапіў у палон.

Любаншчына — радзіма У. Сыракомлі, этнографа, пісьменніка, публіцыста П. Шпілеўскага... Гэтым выдатным людзям прысвечаны спецыяльныя нарысы. Да ўсяго, прыводзяцца вытрымкі з асобных прац В. Шпілеўскага, што ў свой час з'явіліся на старонках часопіса "Пантеон" і тычацца звычаяў мясцовага насельніцтва.

І, канечне, багаты на матэрыялы перыяд, пачынаючы з 1917 года. Але падыход да ўсяго, што адбывалася тады, сучасны. Не абыдзены ўвагай поспехі, аднак паказана і ўся складанасць жыцця, не забыты і драматычныя моманты — згадваюцца ахвяры сталінскіх рэпрэсій, прыводзяцца асобныя дакументы, што тычацца раскулачвання.

Згадваюцца ў "Памяці" і пісьменнікі-землякі У. Паўлаў, Н. Маеўская, І. Муравейка, Л. Савік і іншыя, знакамітая спявачка І. Шыкунова, расказваецца пра ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, багатыя культурныя традыцыі краю.

На падыходзе — чарговая "Памяць" Міншчыны: у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выходзіць "Памяць" Валожынскага раёна.

**С. НІЧЫПАРУК**

НОВАЕ

# "ВСЕМИРНАЯ ЛИТЕРАТУРА": ПАЧАТАК ШЛЯХУ

***Напярэдадні Новага года аматары прыгожага пісьменства атрымалі магчымасць пазнаёміцца яшчэ з адным літаратурна-мастацкім выданнем — часопісам "Всемирная литература", заснавальнікамі якога сталі Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку і выдавецтва "Мастацкая літаратура". Наш карэспандэнт гутарыць пра новы часопіс з яго галоўным рэдактарам, вядомай паэтэсай і празаікам Таісай Бондар.***

**— Таіса Мікалаеўна, калі ласка, пра задачы, што пастаўлены перад часопісам, рэдакцыю якога вы ўзначалілі... Чым выклікана нараджэнне "Всемирной литературы"? Выданне, выбачайце, рускамоўнае. А не будзем забываць, які вопыт мае "Иностранная литература", што выходзіць у Маскве. Ды і наш "Нёман" зарыентаваны на тое, каб не толькі друкаваць творы беларускіх аўтараў у перакладзе на рускую мову, а і шмат што з літаратуры замежнай...**

— Калі мне прапанавалі працу ў будучым часопісе — гаворкі пра пасаду галоўнага рэдактара спачатку не ішло, я, павагаўшыся, усё ж пагадзілася, бо прыйшла да высновы, што падобнае выданне патрэбна. Мы ж ведаем, які сёння кніжны рынак і колькі літаратуры, далёка не самай лепшай мастакоўскай вартасці, абрынулася сёння на чытача. У гэтым патоку згубілася тое, што ва ўсе часы складала і павінна складаць духоўную аснову жыцця чалавека, а гэта — літаратура, што прайшла выпрабаванне часам, прайшла праз стагоддзі. "Всемирная литература" і будзе адрозніваецца ад згаданай вамі "Иностранной литературы" тым, што мы не будзем абмяжоўвацца, як масквічы, выбарам толькі сучасных аўтараў, ды і, пры ўсіх набытках, ёсць у іхнім падборы аўтараў і твораў для перакладу пэўная тэндэнцыйнасць. Што ж да назвы... Калі б наш часопіс быў названы "Иностранной литературой", давялося б выключыць беларускую літаратуру. Калі ж мець на ўвазе літаратуру сусветную, сваё месца займаюць у ёй і творы нашых пісьменнікаў. І не толькі сучасных аўтараў.

**— А які, у такім разе, будзе падыход да публікацыі таго, што напісана раней?**

— Задача такая — паказаць, як шмат шэдэўраў сусветнай літаратуры было створана, як шмат з іх сённяшняму чытачу невядомы. Невядомыя і шмат якія пераклады, што рабіліся раней, але не страцілі сваіх вартасцяў па сённяшні дзень. Дарэчы, такім матэрыялам знойдзецца месца ў адной з нашых рубрык "Крама букініста". Увогуле, для публікацыі лепшых твораў сусветнай літаратуры будзем адводзіць да дзвюх трэцiх плошчы кожнага нумара.

**— Але дзе знайсці столькі перакладчыкаў? Беларуская перакладчыцкая школа хоць і мае вялікія набыткі, тым не менш пераўвасабленне твораў адбываецца толькі з некалькіх, найбольш пашыраных моў. А ў сувязі з выданнем "Всемирной литературы" цяжкасці і іншага кшталту. Не проста ж трэба перакладаць, а перакладаць на рускую мову...**

— А іх, перакладчыкаў, і не трэба асабліва шукаць... Трэба шукаць самі пераклады, чым я і тыя, хто мне дапамагае, цяпер і займаюся. Няцяжка ўпэўніцца, як шмат унікальных перакладаў. І рабілі іх з іншых моў многія знакамітыя рускія пісьменнікі іншых стагоддзяў. Дык чаму ж нам не пакарыстацца гэтым унікальным скарбам?! Чаму не данесці яго да чытача?! Што тычыцца сучаснай літаратуры, дык тут мажлівы два шляхі: выкарыстоўваць старыя пераклады і заказваць новыя. Не зважаючы на тое, адкуль перакладчык... З Мінска, ці з Масквы, Санкт-Пецярбурга, абы валодаў належным майстэрствам.

**— Часопіс мяркуецца распаўсюджваць не толькі на Беларусі?**

— Разлічваем, што ён пойдзе і за межы Беларусі, у першую чаргу ў краіны СНД.

**— Значыць, і рабіць "Всемирную литературу" трэба сумеснымі намаганнямі...**

— У нас ствараецца міжнародны рэдакцыйны савет. На цяперашні момант увайсці ў яго далі згоду Франсуа Ларан (Францыя), Рудольф Дорман (Германія), Уладзімір Макапін (Расія), Грант Матэвасян (Арменія), Юрый Мушкецік (Украіна), Юры Туулік (Эстонія), Ян Чыквін (Польшча). Мы з імі будзем раіцца, абмяркоўваць стратэгічныя задачы. Адчуванне, што ўсе мы засумавалі па ранейшых літаратурных узаемасувязях, кантактах. У гэтым можна было ўпэўніцца, звяртаючыся да тых літаратараў, каму прапаноўвалі ўвайсці ў рэдакцыйны савет. Людзям надакучыла знаходзіцца ў творчым вакууме, на ўласных задворках, не ведаючы, што робіцца ў суседзяў, што пішуць яны, што выдаюць... Створана таксама і рэдкалегія, у якую ўвайшлі, для прыкладу, Іван Шамякін, Іван Пташнікаў, Эдуард Скобелеў.

**— А які, Таіса Мікалаеўна, падыход да публікацыі твораў нашых беларускіх пісьменнікаў? Яны будуць у часопісе з'яўляцца час ад часу ці ўсё ж рэгулярна, у пэўным аб'ёме...**

— Наконт аб'ёму, дык гэтага ніхто вызначаць не збіраецца дакладна, а вось, каб змяшчаць лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на рускую мову ці не ў кожным нумары, на такой думцы сышліся і заснавальнікі. У адным нумары, відаць, будзе прадстаўлены празаік, а ў наступным — паэт, пасля зноў — празаік. Усё будзе залежаць ад наяўнасці якасных перакладаў. На жаль, тут мы асабліва пахваліцца не можам. Па сабе ведаю, калі мяне перакладалі...

**— Штат у рэдакцыі вялікі?**

— Штат будзе вызначацца з наступнага года. Галоўнае — наладзіць належныя творчыя сувязі з іншымі краінамі. На гэта, дарэчы, цяпер і ідзе асноўны мой час.

**— А цяпер, Таіса Мікалаеўна, раскажыце пра змест першага нумара...**

— Чытач атрымае магчымасць пазнаёміцца з лірыкай Р. Тагора, Н. Хікмета, апавяданнямі Ж. Морыца, пачаткам фантастычнага рамана У. Ле Гуін "Левая рука Цемры". Пад рубрыкай "Садружнасць" прапануюцца апавяданні І. Пташнікава "Львы", "Арчыбал", "Бежанка". У "Краме букініста" — А. Конан-Дойл з яго малавядомым апавяданнем "Залатое пенсне". Цікавай мае быць рубрыка "Сустрэчы і развагі". Гэтым разам у ёй "сустракаюцца" К. Льюіс з раздзелам з кнігі "Чалавек адмяняецца" і Э. Межэлайціс з роздумам пра чалавека з кнігі "Контрапункты".

**— Дзякуй, Таіса Мікалаеўна, за інфармацыю пра часопіс. А будучым чытачам "Всемирной литературы" хачу нагадаць, што першы нумар выходзіць тыражом 5 тысяч экземпляраў. Кошт — 10 тысяч рублёў.**

# "БЕЛАРУСЬ": ВЫХАД У СВЕТ

***З Новага года публіцыстычны і літаратурна-мастацкі ілюстраваны штомесячнік "Беларусь" пачынае выходзіць не толькі на беларускай, але і на рускай мовах. І прычына гэтага — не моўная сітуацыя, што склалася ў нашай краіне, калі па-ранейшаму знаходзіцца нямала працiўнікаў роднай мовы.***

***Але пра гэта лепш раскажа галоўны рэдактар часопіса "Беларусь" Аляксандр Шабалін.***

**— Аляксандр Андрэевіч, дык з чым усё ж звязаны "пераход" часопіса і на рускую мову?**

— Гэта першы наш крок па выхаду на еўрапейскі ўзровень, каб пасля выйсці і на ўзровень сусветны. У нас была даўняя мара — зрабіць усё дзеля таго, каб нас чыталі і далёка за межамі Беларусі, як гэта, дарэчы, практыкуюць аналагічныя выданні і ў іншых краінах. Пачынаем з рускай мовы... Хоць, папраўдзе кажучы, пэўны час з'яўлялася і асцярога: а ці не атрымаецца так, што рускамоўны варыянт як бы паглыне беларускамоўны...

**— Значыць, абодва варыянты будуць ідэнтычнымі?**

— Канечне... Абсалютна ідэнтычныя. Выключэнне зрабілі толькі для паэтычных твораў, якія не будуць перакладацца на рускую мову. Беларуская і руская мовы, як вядома, блізкія, таму, думаецца, рускамоўныя чытачы і так зразумеюць і па вартасцях ацэняць нашу цудоўную нацыянальную паэзію. Адбор твораў для публікацыі ў нас заўсёды быў строгі, мы патрабавальна ставіліся да мастацкага слова, тым больш цяпер...

**— Большая частка рускамоўнага тыражу і будзе накіроўвацца за межы Беларусі?**

— Так... Часопіс будзе ўключаны ў расійскі каталог, а, значыць, на яго можна будзе падпісацца і ў Расіі, і ў іншых дзяржавах СНД. Праўда, у асобных з іх, найперш у той жа Расіі, а таксама ў Літве і Казахстане ёсць нашы пастаянныя чытачы, якія "Беларусь" атрымліваюць і чытаюць даўно. Не думаю, што цяпер яны здрадзяць беларускамоўнаму варыянту. Як не думаю, што ўзнікне праблема і з распаўсюджваннем часопіса ў кіёсках Беларусі. Па-першае, рускамоўных варыянтаў у іх будзе трапляць менш, а, па-другое, тыя, хто даўно з'яўляецца прыхільнікам "Беларусі", ні пры якіх абставінах не адмовяцца чытаць яе на роднай мове.

**— Але гэта ўсё ж не значыць, што часопіс якім быў, такім і застанецца?**

— Канечне. Сама канцэпцыя выдання будзе крыху скарэкціравана. Мусім улічваць, што не заўсёды матэрыялы, якія цікавыя нам, знойдуць належны рэзананс за межамі дзяржавы. Мяняецца фармат часопіса, крыху павялічваецца яго аб'ём, больш становіцца ілюстрацыйнага матэрыялу. Але ў прынцыпе якімі мы былі, такімі і застанёмся.

**— Толькі для ўсяго гэтага, Аляксандр Андрэевіч, неабходны і сілы і сродкі...**

— Штат "Беларусі", натуральна, павялічыўся, але ў асноўным за кошт тэхнічнага персаналу. Праўда, дадаліся перакладчыкі, з'явіліся адзін-два творчыя супрацоўнікі. А што да сродкаў... Ёсць у нас планы... Магчыма, з цягам часу якія грошы і самі заробім. А пакуль фінансаванне з дзяржаўнага бюджэту. А будзе належная падтрымка, мы ажыццявім у перспектыве выданне "Беларусі" па-англійску, а пасля пачнём "асвойваць" і іншыя замежныя мовы.

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## МІНІ-ЮБІЛЕЙ "РОДЗІЧАЎ"

**21 снежня Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Санкт-Пецярбурзе адзначыла 5-ю гадавіну выхаду ў свет першага нумара Незалежнай газеты піцерскіх беларусаў "Родзічы".**

**Гэта нефармальнае выданне друкавалася на машынцы і тыражавалася потым на ксераксе. Яно не мела выгляду сапраўднай газеты, ды і наклад быў невялікі — усяго 20-30 асобнікаў, але і Скарынаўскі цэнтр у Мінску, і Расійская нацыянальная бібліятэка (С-Пб) маюць поўны камплект газеты.**

**"Родзічы" праіснавалі нядоўга: 1 нумар датаваны 21-м снежня 1991 г., а апошні (дзесяты) — 15-м студзеня 1993 г. Свежы, незаштампаваны погляд на падзеі вызначыў агульны накірунак газеты, і шмат якія пытанні, што хвалявалі тады яе чытачоў, не страцілі сваёй актуальнасці і цяпер.**

**Газета асвятляла не толькі тыя падзеі, якія адбываліся ў піцерскім асяродку беларускай дыяспары, але і на Бацькаўшчыне: у перыяд падрыхтоўкі да Сходу беларусаў блізкага замежжа, а потым і да 1 З'езда беларусаў свету знаёміла грамадскасць Беларусі з найбольш актыўнымі сябрамі піцерскай суполкі, змясціўшы не толькі на сваіх старонках, але і ў беларускім друку шэраг інтэрв'ю з гэтымі асобамі: Валянцінам Грыцкевічам, Міколам Нікалаевым, Анатолем Разумавым, а таксама з мастакамі Янкам Чэрнякевічам, Віктарам Сівухам, Юры Рудаком, з кампазітарам Ігарам Мацыеўскім.**

**Вялікую ўвагу "Родзічы" надавалі даўнім і непарыўным культурным сувязям Санкт-Пецярбурга з Беларуссю. У рубрыцы "Паэтычны вернісаж" друкаваліся вершы Аўгініі Кавалюк (С-Пб), Наталлі Арсенневай (перадрук), Ірыны Багдановіч (Мінск), Данілы Жукоўскага (пераклады).**

**Газета выдавалася на грамадскіх пачатках. Шкада, што адсутнасць фінансаў прыпыніла дзейнасць гэтага цікавага, неардынарнага выдання.**

**А. К.**

## І СВЕТ МАСТАЦТВА, ЛІТАРАТУРЫ

**не абыходзіць увагай часопіс "Беларуская думка". Дванаццаты нумар за мінулы год у гэтым сэнсе — не выключэнне.**

**"Чырвонаармейская, 9: месца сустрэчы змяніць нельга..." — так называецца артыкул вядучага бібліятэкара аддзела абслугоўвання Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі С. Ланько, прысвечаны 75-годдзю галоўнай бібліятэкі краіны. Б. Крэпак ("Самабытны талент") расказвае пра цікавага мастака Л. Марчанку, які заўчасна пайшоў з жыцця і не сказаць каб належным чынам быў ацэнены крытыкай. Ал. Марціновіч ("Спяшаючы за часам") аналізуе аповесці, апублікаваныя апошнім часам на старонках часопіса "Полымя".**

**У полі зроку аўтара такія творы, як "Без пакаяння" І. Шамякіна, "Кілавы д'ябал" В. Адамчыка, "Прахожы" В. Казько, "Касцюмерша" Л. Арабей, "Вёска" А. Федарэнкі. У. Люшцік рэцэнзуе "Русско-белорусский словарь для военных" ("Слоўнік, якога чакалі"). Як заўсёды, вострыя і актуальныя развагі У. Глушакова "Дыягназ", апублікаваныя пад рубрыкай "Роздум пісьменніка". Змешчаны нарыс П. Сабіны "Цвісці садам", герой якога — знакаміты І. Сікора.**

## "КАЛЯДНЫЯ СВЯТКІ-96"



**У Рэспубліканскім выставачным цэнтры адкрылася міжнародная калядная выстава-продаж "Калядныя Святкі-96". Тут можна набыць падарункі да свята, а таксама паглядзець паказ мадэляў фірмы "Канстанта", выставу кошак "Мурлыка".**

*На здымку: на выставе "Калядныя святкі-96".*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

ЧАСОПІСЫ

# З ВЕРАЙ І НАДЗЕЯЙ!

Як ні прыкра ад таго, што адбываецца ў нашым грамадстве, як ні цяжка на душы ад сённяшніх адносін да беларускай мовы, гісторыі і культуры, але, скажу як без пахвальбы, так і без лішняга самаўніжэння, "Маладосць" — супрацоўнікі і шматлікія нашы аўтары — у 1996 годзе працавалі годна.

Нам хораша паспрыялі ўтрымаць належны мастацкі ўзровень старэйшыя — Іван Шамякін гістарычным раманам "Вялікая княгіня" (NN 1—2), апавяданнямі Іван Навуменка (N 5), Максім Лужанін (N 6), пісьменніцкім дзённікам Вячаслаў Адамчык (N 7), п'есай Алесь Петрашкевіч (N 7), працягам "Старажытнай Беларусі" Мікола Ермаловіч (NN 4—11), успамінамі Наталля Кучкоўская (Караткевіч) пра брата Уладзіміра Сямёнавіча (NN 11—12), паэзіяй Мікола Аўрамчык, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Юрась Свірка і інш.

Але якая была б "Маладосць" без моладзі? Прыемна двойчы: па-першае, яе, у тым ліку дэбютантаў, друкавалася нямала, а па-другое, многія маладыя хораша ўзраслі: веру, што наш чытач не мог не заўважыць аповесцей "Я і Прарок-Уродка" Анатоля Казлова (N 4), "Салдат" Андрэя Федарэнкі (N 5), "Рыфма" Юры Станкевіча (N 7), апавяданняў Ніны Пракопчык (N 4) і Алеся Аляшкевіча (N 6), першых публікацый вершаў Інгі Гаравой, Наталлі Дзівінай, Яна Збажыны, Вінцэся Вашэкі... Цікавыя нарысы, эсэ, артыкулы пра сучасную моладзь змясцілі Ягор Конеў, Алесь Карлюкевіч, Уладзімір Міхно, Юра Буднеў, Ігар Валасевіч, двойчы многія нашы маладыя літаратары бралі ўдзел у анкетах наконт сучасных тэндэнцый развіцця нашага грамадства, літаратуры і культуры — "Мой настаўнік у літаратуры" (N 7), "Вартасць эксперымента ў літаратуры" (N 11). Многае з вышэйназванага, напісанага як у традыцыйнай, так і ў наватарскай манерах, надало новае дыханне часопісу (пра "Бібліятэку часопіса "Маладосць" аддзела крытыкі "ЛіМа" Людміла Рублеўская і я даволі падрабязна расказвалі ў штотыднёвіку ад 6 снежня г. г.).

Якія думкі, спадзяванні на 1997 год? Паспрабуй адказаць вось так адразу, калі ў нас такое робіцца!.. Ды як казалі нашы дзяды: памірай, а жыта сей! Працуем! І наперад! Што да рэдакцыйнага партфеля, то ён, дзякуй Богу, багаты (новыя цікавыя аповесці Івана Шамякіна, Максіма Лужаніна, Алега Лойкі і шматлікія творы тых, хто ўжо заявіў пра сябе публікацыямі і хто ідзе да гэтага першы раз). А што да фінансавай дзяржаўнай падтрымкі таго, што мы робім для духоўнасці Рэспублікі Беларусь, то верым: наша дзяржава і ў такі наш адрэзак часу не пакіне нас і нашу працу без увагі, без падмацавання: без літаратуры і культуры любы народ, любая дзяржава непаўнацэнныя. Мы, сябры, усё ж еўрапейцы і проста абавязаны не адставаць ад самых развітых! І мы, літаратары, у гэтай справе — г. зн. сапраўднай, паўнацэннай еўрапеізацыі — можам паказаць прыклад аднымі з першых. І на сваёй, роднай, мове, што, як паказаў яшчэ вялікі Скарына, і багатая, і прыгожая!

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

МЕРКАВАННЕ

# "ПАСТАВІЦЬ СЯБЕ НУМАРАМ ДРУГІМ..."

***Папулярнае ў час перабудовы слова "стагнацыя" ў нашы дні набывае выключны сэнс — такое яно глыбокае, усеабдымнае. Здаецца, што стогне нават сама атмасфера над прыгнечанымі людзьмі, занядбалаю гаспадаркай. Стогн гэты жорсткім адбіткам кладзецца на душы людскія. Аслабленне братняй любові, пачуцця абавязку, зайздрасць, здрадніцтва, недавер, падазронасць, няўдзячнасць, распуства, двурушніцтва, ненатольнасць адных і жабрацтва другіх, прыкрая помслівасць, азмрочваюць розум, выстуджваюць душы...***

На гэтым фоне шматлікіх негатыўных з'яў у грамадстве тым больш прыцягваюць увагу хрысціянскія пастулаты. Тым больш самай галоўнай уяўляецца "вертыкаль" духоўная, каб яна, як стальны стрыжань у апорным бетонным слупе, магла забяспечыць духоўную трываласць грамадства. Хай даруюць мне асобы высокага духоўнага сану, але, гаворачы пра такую мадэль "вертыкалі", я маю на ўвазе зусім не епархіяльнае кіраўніцтва і ўгодную Богу паслухмянасць усіх падначаленых. Размова перш за ўсё пра ўзровень культуры грамадства, яго духоўны патэнцыял, у аснове якога свабода сумлення. Напэўна ж, не раскавітнее характэрная для аўтарытарызму плойма падхалімаў і прыстасаванцаў розных масцей, калі будзе прысутнічаць не меркантыльны страх перад зямнымі ўладарамі, а, абмяжоўваючы грахі, страх перад Богам, калі душы людскія будуць асвечаны святлом любові Хрыстовай, прасветлены Гасподняй Прамудрасцю. "Пачатак Прамудрасці — страх Гасподзень", — узносіць услаўленне Псалтыр (Пс. 110). Страх і любоў... Наколькі атаясамліваюцца яны між сабою ў рамках культуры? Працай душы? Зацугляннем наравістага ўласнага "эга", ганарыстасці, якая ў царкве лічыцца смяротным грэхам, а грамадствам успрымаецца як невыхаванасць, бескультурнасць. Герой рамана І. Тургенева "Напярэдадні" Берсенеў выказаўся наступным чынам: "...паставіць сябе нумарам другім — усё прызначэнне нашага жыцця". Думаецца, што так разважаць можа чалавек, які ўсім сэрцам успрымае запавет Божы "Любі бліжняга свайго, як самога сябе". Самім Госпадам нашым Ісусам Хрыстом пастаўлены на службу Бога царкоўныя пастыры, якія Святым Духам асвечаны на такое служэнне. "Той, хто слухае Вас, Мяне слухае, хто ад вас адмятаецца, адмятаецца ад Мяне..." (Лукі, 10, 16). Як адбіваюцца на лёсах людскіх падобныя і адмятанне, і наяўнасць, і адсутнасць Прамудрасці-страху? Неадноўчы заўважана: чым вышэй чалавек уздымаецца, тым далей яго бачна. Таму асмелюся спаслацца на біяграфічныя факты з жыцця знакамітых слынных паліт ікаў (даруйце прастадушнай жанчыне, калі каго засмучаю).

Абвяшчаючы перабудову, Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў не быў падрыхтаваны да спасцікэння неабходнасці перабудовы ўласнага светапогляду на рэлігію. Яго апірышчам застаўся, як і быў, атэізм, няглядзячы на ўступку набожнаму Рональду Рэйгану вызваліць у Саюзе з-пад прыгнёту царкву. Яго дарадца Раіса Максімаўна сваёю навуковаю працаю сцвярджала, што Вера ў Бога — прыналежнасць цёмных неадукаваных людзей.

Барыс Мікалаевіч Ельцын павярнуўся, прытуліўся да Бога, не звяртаючы ўвагі на саркастычныя кепікі ярых бязбожнікаў.

Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, выказваючы сваё дачыненне да Бога, успамінаў, як яго заахвочвала вучыць малітвы бабуля, каталічка па веравызнанні. Мабыць, надзвычай цяжка было Станіславу Станіслававічу вызначыцца (каб не выйшла шкоды), балансуючы паміж шматлікім, пераважаючым колькасна Праваслаўем і напорыстым каталіцызмам, тым больш цяжка, што адначасова праз зацягнутае калекцыяніраванне калодаў карт улагоджваліся і ляды.

Зянон Станіслававіч Пазняк неаднаразова асуджаў Праваслаўную царкву і яе Уладыку (што лічыцца вялікім грэхам). Не тоячыся сваёй набожнасці, цвёрда трымаўся каталіцкай канфесіі, у аснове якой — цэлібат (бясшлюбнасць каталіцкага духавенства). Хто ведае, можа, і сам нейкім чынам да таго ж цэлібата прымерваўся, пражыўшы паўвека халасцяком. Аднак нечакана выпаў з ліку тых скапцоў, сярод якіх быў і сам Сын Божы на грэшнай зямлі, і святы апостал Павел, адукаванейшы чалавек свайго часу, які заклікаў быць такімі ж цнатлівымі, як ён сам (1-е Карынф., 7; 7—8, 29; 9:27). Аднаму Богу вядома, што менавіта зашкодзіла адданаму сыну Айчыны, лідэру-ізгою адраджэння рэалізавацца свой патэнцыял.

Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, які на пачатку свайго прэзідэнцтва прызнаваўся ва ўласным бязбожжы, у адным з радыёінтэрв'ю зазначыў, што сынам сваім зычыць лепш пайсці ў царкву, чым стаць на шлях злачынства ("Пад мастом грабіць ці рэзаць людзей"), потым усё ж прыняў Божую ласку праз патрыяршае благаслаўленне, стаў духоўным сынам Праваслаўнай царквы.

"Нам дана власть на земле", — у адной са сваіх пропаведзяў запальчыва зазначыў Уладыка Філарэт, благаславенне якога лічаць вернікі моцным. Трывалай і на праверку выйшла тая ўлада. У Евангеллях неаднойчы сцвярджаецца (Лукі, 9, 9; Яна 1:, 7 1 г. д.), што калі прасіць, то дадзена будзе. Але ж немалаважна, хто і як просіць. Зысці Нябесны агонь напярэдадні Пасхі на труну Гасподню прасілі і іншыя, аднак зыходзіць Ён толькі па малітвах Праваслаўнага іерарха. Нашы далёкія прашчуры, перш чым прасіць Бога аб літасці, усім мірам распачыналі пост. Самы яскравы прыклад рэзону ад гэтага — Ніневія (Кн. прарока Іовы, 3, 4—10).

Апошнім часам усё часцей можна пачуць, што ў царкве пamen шала даброт, па-царкоўнаму кажучы, благодати. З'явіліся нават людзілічыльнікі, якія вызначалі, колькі ўтрымлівае яе ў сабе той ці іншы служыцель культу, не суадносячы, між іншым, з уласнай грахоўнасцю. Кожная душа сама па сабе хрысціянка, нават і ў нехрышчонага чалавека. Калі ж яна, як перагружаны аэраплан, не можа ўзляцець, узняцца над учыненым грэхам, як жа набыць ёй даброты высокага неба? Адно з яркіх успамінаў майго дзяцінства: чужая старая жанчына на каленях умольвае свайго сынаўдаўца не жаніцца на хроснай маці сваіх дзяцей, не губіць гэткім цяжкім грэхам увесь род.

Дэмакратычную плынь у краіне царква ўспрыняла негатыўна, знічкаю знікла кароткачасовая радасць адраджэння. Шмат хто з прыхільнікаў дэмакратыі, у сваю чаргу, успрымае Праваслаўную царкву як асабістага ворага. Роднае слова, як загорнутае з галавою ў коўдру немаўлятка, сям-там азваўшыся, пагрузілася ў сон, дай Божа, каб не ў вечны, каб не выйшла ўдушша кволага сожнага дзіцяткі — роднае мовы разам з калыскай — суверэннай дзяржавай, бо як жа тады наконт выканання Божых запаветаў "Не забі" і "Не ўкрадзі". Каму многа дадзена, з таго больш і спытаецца, для таго і суд Божы будзе найбольш суровы. "Не один ли у всех нас Отец? Не один ли Бог сотворил нас? Почему же мы вероломно поступаем друг против друга, нарушая тем завет отцов наших?" (Малахія, 2, 10). Няўжо да такой ступені ўжо знясілены розум грамадства, што не ў стане вызначыць па вялікім рахунку што добра, а што дрэнна?

У адным з часопісаў нядаўна надрукаваны тры апавяданні аднаго аўтара, быццам аднаяйкавыя блізняткі аб рэаліях нашых дзён, дакладней, аб маральным падзенні на брудное дно сучаснага растлення. Наўмысна не называю ні аўтара, ні часопіса, каб не прапагандаваць тое, што яшчэ болей можа пашкодзіць няўстойлівым душам. Чамусьці адразу прыгадаўся нерафінаваны алей, які аднойчы (пры чарговым цяперашнім звычайным фінансавым стане большасці дыпламаваных сучаснікаў, тым больш небарак-пенсіянераў) мне пашэнціла танна набыць на базары. Калі ён адстаяўся, стала бачна рэзкае расслаенне на дзве амаль аднолькавыя часткі: верхнюю, з бурштынавым зіхаценнем, і ніжнюю — каламутны асадак, які надта ж жыо асацыіраваўся з каламуццю нашых дзён.

Хочацца спадзявацца, што справядлівы час суровай гісторыі будзе тым неабходным фільтрам, які так патрэбен нашаму грамадству, каб хутчэй з грэбня на дно перамясцілася несумяшчальная з чысцінёй узвышэння розная непатрэбшчына. Каб хутчэй заглянула сонца і ў акенца дэмакратыі, бо ў аснове яе — раскрыццё усё той жа даравані чалавеку Богам свабоднай волі. Волі па самым высокім прыстойным рахунку.

На заканчэнне дазвольце зарыентаваць тых, хто мае час і Адвечную кнігу жыцця Біблію, зазірнуць (прачытаць, перачытаць) кнігу Прарока Малахія, ад якой такое ўражанне, быццам гнеў Госпада Саваофа, выкрыццё ім народа, праклясце яму (у тым ліку нават і свяшчэнаслужыцелям) дасылаліся ў наш XX век. Хай словы Свяшчэннай Кнігі дапамогуць нам набыць Прамудрасць.

**Л. РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ**

ПОШТА

# ГАВАРЫЦЬ ПРА ГЭТА МНЕ ВЕЛЬМІ ЦЯЖКА АЛЕ ЯШЧЭ ЦЯЖЭЙ — МАЎЧАЦЬ

*ЛІСТ ДА ПІСЬМЕННІКАЎ І ДЗЕЯЧАЎ МАСТАЦТВА РАСІІ*

З дзіцячых гадоў падручнікам сумлення для мяне была не толькі родная беларуская, а і класічная руская літаратура, а таксама вялікае рускае мастацтва: тэатр, музыка, жывапіс. Для мяне — і для соцень тысяч іншых беларусаў, якія сёння гатовы падпісацца пад гэтым лістом. З таго часу я заўсёды глядзеў і на сучасных пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва Расіі як на тых, хто прадаўжае тварыць далей той цудоўны падручнік сумлення, падручнік жыцця. Гаворка, вядома, ідзе пра несумненна таленавітых сучасных творцаў, пра сапраўды дастойных пераемнікаў лепшых традыцый рускай мастацкай класікі. Пры гэтым неяк не даводзілася задумвацца, а якія ж палітычныя пазіцыі і перакананні гэтых несумненна таленавітых і сапраўды дастойных? Ну вядома ж, поўнасцю адпавядаюць іх высакародным творам, якія чэсна і мужна адлюстроўваюць жыццё. А як жа іначай?!

На жаль, на жаль! Жыццё, даруйце за недыпламатычную прамату, прымушае ўсумніцца ў гэтай адпаведнасці. Прымушае адчуць найгоркае расчараванне. І ўсведамляць гэта ўжо не проста сумна, а — балюча. Для душы — гэта драма. І гаварыць пра гэта мне вельмі цяжка. Але яшчэ цяжэй — маўчаць.

Што, спытаеце, здарылася, у чым рэч, чаму так трагічна?

А вось дзеля гэтага, каб сказаць вам чаму, я і ўзяўся за пяро.

Гаворка пойдзе пра ваша стаўленне да набыцця беларускім народам дзяржаўнай незалежнасці. Пра вашу галосную і негалосную падтрымку подлай, даруйце, задумы ліквідаваць суверэнную прызнаную ўсім светам дзяржаву — Рэспубліку Беларусь. Ліквідаваць шляхам аб'яднання яе з Расійскай Федэрацыяй. Дакладней — шляхам інкарпарацыі адной дзяржавы ў склад другой.

Але спачатку — некалькі слоў пра маё асабістае разуменне пытання аб узаемаадносінах двух адвечна роднасных народаў, дзвюх братніх дружалюбных дзяржаў — Расіі і Беларусі. Чатыры гады назад, у самы разгар пераўтварэння грамадскага жыцця Беларусі ў адпаведнасці з ідэаламі нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, у адным з артыкулаў я пісаў: "Думаю, мудрасць і беларусіх, і расійскіх дзяржаўных мужоў будзе ў тым, каб усебаковае супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі забяспечыць самай шчырай таварыскай атмасферай на глебе поўнага ўзаемадаверу, братняй узаемапавагі і любові. Так, так — і любові! Або, можа, хто-небудзь думае, што ў адносінах да суседа і кроўнага брата лепш распальваць нянавісць?" ("Звязда", 21. X. 92).

Падпісваюся пад гэтымі словамі і сёння. Гэта маё глыбокае перакананне, з якога я заўсёды зыходзіў і буду зыходзіць, звяртаючыся да пытання пра нашы ўзаемаадносіны. Нягледзячы на ўсе зневагі і нагаворы, якія даводзіцца трываць.

Але вось што дзіўна. І, прызнаюся, страшна. Ужо некалькі гадоў, і з кожным днём усё мацней, я, як і тысячы іншых беларусаў, адчуваю, як хтосьці вельмі імкнецца зрабіць мяне ворагам Расіі і рускіх, ну проста мэту такую паставіў — абудзіць ува мне недружалюбныя пачуцці да маіх расійскіх братоў. Хто ж ён, гэты "хтосьці", і што за нядобрая, неразумная сіла рухае ягонымі думкамі і пачуццямі? А гэта, прабачце, наш старыстары знаёмы — вялікадзяржаўны расійскі шавініст. Праімперская дзяржыморда. Гэта ён адразу ж запрацівіўся станаўленню незалежнай беларускай дзяржавы і звязанаму з гэтым працэсу духоўнага адраджэння беларусаў (адраджэння беларускай мовы, нацыянальнай школы, гістарычнай памяці народа, яго культурнай спадчыны і г.д.). Запрацівіўся таму сонечнаму святу душы, да якога наш народ — праз нечуваныя пакуты і прыніжэнні, праз незлічоныя ахвяры — ішоў некалькі стагоддзяў. Няма патрэбы людзям мастацтва тлумачыць, якое гэта вялікае і цудоўнае пачуццё — пачуццё набытай свабоды, незалежнасці, магчымасці самому быць гаспадаром свайго лёсу. Няма патрэбы, таму што менавіта гэтае пачуццё — адно з галоўных, якое сілкуе вашу творчасць і якое вы палымяна прапагандуеце. О, як горача і пераканаўча — і ў кнігах, і ў музыцы, і на сцэне, і ў кіно, і ў жывапісе — вы сцвярджаеце пачуццё свабоды і незалежнасці, якія цудоўныя ствараеце вобразы змагароў супраць рабства і няволі, супраць нацыянальнага прыгнёту! Таму натуральна, што менавіта да вас мы, беларусы, і асабліва вашы беларускія пабрацімцы па працы, чакалі разумення нашай радасці, прывітанняў і віншаванняў з выпадку ажыццяўлення адвечнай мары народа, мары самых вялікіх сыноў Беларусі — Каліноўскага, Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага...

На жаль, не дачакаліся. Ні слова, ні гуку! Хоць бы адна душа адгукнулася прывітальна! Хоць бы хто-небудзь з сяцёр і братоў нашых, што жывуць на Беларусі. З тых, што так любяць гаварыць пра Беларусь як пра сваю другую радзіму! Ніхто! Гэтак жа, як і ў Расіі. Ніхто. Не ўзрадаваліся, не падзялілі нашых святочных пачуццяў. У лепшым выпадку — прамаўчалі. Але затое!.. Але затое — як натхнёна падключыліся многія апявальнікі і сцвярджальнікі свабодалюбства да таго ганебнага хору, якім агалосіліся нарэшце прасторы Беларусі. Як прарэзаўся раптам голас, якой выразнай мовай загаварылі! Ва унісон з самымі бруднымі, з палітычнымі падваротняў, чарнасоценцамі. Загаварылі ў тым ліку і ў зале Дзяржаўнай Думы РФ, дзе ёсць і нямала прадстаўнікоў расійскай інтэлігенцыі. Даруйце, але нам, беларускім пісьменнікам, сорамна за вас, калегі. Розум і сэрца адмаўляюцца разумець вас, вашу грамадзянскую пазіцыю. У імя чаго вы падтрымліваеце бяздумнае і амаральнае імкненне пэўных палітычных сіл ліквідаваць незалежную Рэспубліку Беларусь і ўтварыць адзіную з Расіяй дзяржаву? Няўжо вы на самай справе не чуеце і не бачыце, як гэтыя сілы, спекулюючы на сацыяльных бедствах народа, на "агульных славянскіх каранях", асабліва ж — на нацыянальным нігілізме многіх беларусаў, сеюць варожасць паміж намі, узрошчваюць непрыязнасць і адчужэнне? Навошта і каму гэта патрэбна? Каму патрэбна, каб уся нацыянальна свядомая Беларусь, абражаная непавагай і цынізмам, была павернута ў адчай, які нічога добрага не абяцае? Каб тысячы маладых і зусім юных беларусаў, якія захоплена прынялі свабоду і незалежнасць, адчулі сябе ашуканымі? Вам што ж, даруйце за рэзкасць, — зямлі сваёй мала? Ці ў вас турбот на сваёй зямлі няма? Ці хочаце хоць "беларускім кавалкам" атрымаць кампенсацыю?

Але нават дапусцім, што і так, што сапраўды і "мала", і "няма", і "хочаце". Дык жа павінен быць і здаровы розум! Няўжо не разумееце, што сёння паўтарыць учыненае некалі імператрыцай Кацярынай Другой — задума не толькі ганебная, а і бессэнсоўная? Вось ужо дзвесце гадоў, як на нашай зямлі ажыццяўляецца палітыка асіміляцыі карэннага насельніцтва, русіфікацыя ўсяго і ўся. Асабліва жорстка яна праводзілася на працягу ўсяго XIX ст. І што ж? Удалося сцерці з этнічнай карты свету 10-мільённы славянскі народ? Не! На пачатку XX стагоддзя на Беларусі нястрымна разгарнулася нацыянальнае адраджэнне. Па сутнасці, яно, то згасаючы, то ўзгараючыся, доўжылася ўсе дзесяцігоддзі савецкай улады. Доўжылася, назапашваючы энергію, чакаючы свайго "зорнага часу". Час гэты прабіў у пачатку 90-х. Дык няхай будзе ён навек благаславёны — час, якім адкрылася новая, вялікая старонка ў шматпакутнай гісторыі Беларусі! Яна ж — і старонка новых, сапраўды братніх узаемаадносін паміж двума ўсходнеславянскімі народамі. Падкрэсліваю: сапраўды братніх. Гэта значыць — глыбока паважлівых, гранічна шчырых, гранічна ўзаемаабавязковых.

Дзіўна, чаму так цяжка зразумець адну бясспрэчную ісціну: чым больш у Беларусі будзе дзяржаўнай самастойнасці, суверэнітэту і незалежнасці — тым больш Расія будзе мець у Беларусі верных сяброў і братоў, тым больш надзейным і плённым будзе наша супрацоўніцтва ў эканамічнай, навуковай, культурнай і ўсіх іншых сферах, тым больш трывалай будзе наша дружба і наша да вас братняя любоў. Калі ж гэтага не разумець і стаць на падтрымку ідэі "аб'яднання нашых краін у адну дзяржаву", — будзе вельмі кепска. Братняя любоў стане меншаць. Масава. Пачне перараджацца ў пачуццё супрацьлеглае. Масава. Хвароба будзе заганяцца ўнутр. Масава. Гэта — непазбежна, бо ў "адзінай славянскай дзяржаве" — хто б што ні казаў сёння, ні абяцаў і ні прарочыў — абавязкова пачнецца тое ж самае, што ўжо было: татальная русіфікацыя ўсяго беларускага жыцця, паглыбленая асіміляцыя беларусаў як этнасу. У іншую пабудову ўзаемаадносін паміж нашымі народамі ў адзінай дзяржаве ніводны свядомы беларус не верыць. Дзвесце гадоў — тэрмін больш чым дастатковы, пераканаліся, і салодкіх баек наслухаліся па горла. Паглядзіце: яшчэ "аб'яднання" няма, яшчэ толькі тую ідэю нястомна раздзьмухаюць на ўвесь свет вялікія "патрыёты" Беларусі, а ўжо працэс пачаўся — працэс згортвання беларускага нацыянальнага адраджэння, працэс удушэння беларускай школы (за два з гакам гады колькасць першых беларускіх класаў скарацілася амаль у тры разы — ну як?), вынішчэння нацыянальна-гістарычнай памяці, забойства самой жывой душы народа — яго мовы. Працэс, які асабіста мне, у святле гістарычнага лёсу беларускага народа, здаецца пачварным па сваёй амаральнасці.

Вось і ўсё, глыбокапаважаныя пісьменнікі і дзеячы мастацтва Расіі, у тым ліку — мае даўнія знаёмыя, якіх я ўсё яшчэ лічу сваімі сябрамі.

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**народны паэт Беларусі**

КНІГАРНЯ

# З СУЗОР'Я ВЕЧНАСЦІ

Міжвыдавецкая серыя "Школьная бібліятэка" даўно вядома многім і мае сваіх пастаянных чытачоў, галоўным чынам сярод тых, каму яна ў першую чаргу і адрасуецца. Колькасць кніг, што пабачылі свет у ёй, налічвае не адну сотню і штогод папаўняецца не адным дзесяткам новых выданняў. Дарэчы, "ЛіМ" імкнецца рэгулярна паведамляць пра іх. Але, відаць, далёка не ўсе заўважылі, што ў гэтай серыі з'явілася і свайго роду "бібліятэка" ў "бібліятэцы". Хоць, па праўдзе кажучы, прыкмеціць гэта не так і проста — пры выпуску ўсіх кніг вытрымліваецца аднолькавы прынцып афармлення. Тым не менш... "бібліятэкай" у "бібліятэцы" сталі зборнікі пра нашых знакамітых землякоў.

Першынец у гэтай "серыі" — кніга "Слаўны сын Беларусі, выпушчаная выдавецтвам "Юнацтва" яшчэ ў 1994 годзе. Пра яе мы ў свой час паведамлялі, таму абмяжуюся толькі асноўнымі звесткамі. У зборнік увайшлі творы, прысвечаныя беларускаму асветніку, першадрукару, аднаму з выдатнейшых людзей свайго часу Ф. Скарыне. Пад адной вокладкай змешчаны аповесць А. Лойкі "Скарына на Градчанах", літаратурна-біяграфічны нарыс А. Клышкі "Францыск Скарына, альбо Як прыйшла да нас кніга", нарысы, эсэ, вершы М. Багдановіча, М. Гарэцкага, Я. Купалы, У. Караткевіча, А. Дудара, А. Салаўя, Ф. Янкоўскага і іншых.

Добрая справа прадоўжана кнігай пра Каліноўскага "Жыві ў свабодзе!", што выйшла летась і таксама ў выдавецтве "Юнацтва". Адкрываецца яна ўступным артыкулам "За праўду і бацькаўшчыну", напісаным слынным даследчыкам беларускай даўніны, літаратуры Г. Кісялёвым, у якім даецца ацэнка ролі К. Каліноўскага ў абуджэнні беларускага народа. У раздзеле "Да беларускага люду" прадстаўлены творы самога К. Каліноўскага. Няцяжка здагадацца, што назву яму далі аднайменныя "лісты з-пад шыбеніцы". Змешчаны таксама матэрыялы "Мужыцкай праўды", вершы "***Марыська чарнаброва, галубка мая!" і "***Бывай здаровы, мужыцкі Народзе". Творы, прысвечаныя К. Каліноўскаму, змешчаны ў раздзеле "Вядзі нас на ахвярную слуўбу". Гэта — паэмы М. Танка "Каліноўскі" і А. Куляшова "Хамуціус", верш П. Броўкі "Кастусь Каліноўскі", трагедыя У. Караткевіча "Кастусь Каліноўскі. Смерць і неўміручасць", аповесць С. Яновіча "Сярэбраны яздок", урывак з аповесці А. Мальдзіса "Восень пасярод вясны", апавяданне І. Капыловіча "Пісьмы Караліне". А завяршае зборнік артыкул С. Панізніка "Памяці Справядлівага", у якім, між іншым, зазначаецца: "На сённяшні дзень Каліноўскіяна складае вялікую анталогію празаічных і вершаваных твораў. Зборнік "Жыві ў свабодзе!" — гэта першая спроба агляду творчых здабыткаў беларускіх пісьменнікаў. Аўтар спыніецца і на тым, што ў кнігу не ўвайшло, а таксама выказвае слушнае меркаванне: "Галоўнае, што наспела тэрмінова выдаць, — гэта энцыклапедычны даведнік "Каліноўскі і яго час".

Несумненна, патрэбен такі даведнік і пра М. Багдановіча. А пакуль з'явілася "кніга пра Максіма Багдановіча", прысвечаная 105-й гадавіне з дня яго нараджэння. І яна пабачыла свет летась, але ў недзяржаўным выдавецтве "Асар". Зборнік адкрываецца артыкулам С. Панізніка "Ведай, брат малады..." У асобным раздзеле прапануюцца найбольш хрэстаматыйныя творы Максіма-Кніжніка. Постаць М. Багдановіча настолькі прыцягальная, што дзесяткі пісьменнікаў розных пакаленняў і ў розны час звярталіся да яго жыцця, творчасці. У гэтым лёгка ўпэўніцца, калі пазнаёміцца з раздзеламі "У вянок Максіму Багдановічу", "Роздум пра Максіма-Кніжніка", "Успаміны і меркаванні пра Максіма Багдановіча".

"Бібліятэка", як бачым, унікальная. А з'явілася яна дзякуючы нястомнаму рупліўцу на ніве нацыянальнага Адраджэння С. Панізніку. Гэта ён з'яўляецца складальнікам усіх трох кніг, праявіўшы пры гэтым і энцыклапедычную эрудзіраванасць, і засведчыўшы, наколькі шмат можа зрабіць нават адзін чалавек, калі захоплены добрай справай. Напярэдадні ж чакаюцца чарговыя кнігі пра слынных беларусаў. Над імі і працуе Сяргей Сцяпанавіч.

**А. М.**

УГОДКІ

# ПАПЛЕЧНІК КАЛІНОЎСКАГА

Валерый Урублеўскі ўвайшоў у гісторыю найперш як дзеяч польскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху, а ён жа нарадзіўся ў цяперашнім гарадскім пасёлку Жалудок Шчучынскага раёна. Скончыў Пецярбургскі лясны інстытут, у 1861—1863 гадах прымаў удзел у стварэнні рэвалюцыйных арганізацый у Гародні, дапамагаў К. Каліноўскаму выпускаць і распаўсюджваць "Мужыцкую праўду". Калі ж пачалося паўстанне, стаў актыўным дзеячам так званых "чырвоных", начальнікам штаба паўстанцаў. Са жніўня 1863 года камандаваў паўстанцкімі сіламі, што дзейнічалі на тэрыторыі Гродзенскай губерні, а пасля — у Люблінскім і Падляшскім ваяводствах. У пачатку 1864 года В. Урублеўскага цяжка паранілі, вымушаны быў эміграваць у Францыю. І там не застаўся ўбаку ад рэвалюцыйнай барацьбы. У 1871 годзе ў званні генерала камандаваў адной з трох армій Парыжскай камуны. Пасля паражэння Камуны зноў падаўся ў эміграцыю, гэтым разам у Лондан, дзе пасябраваў з К. Марксам і Ф. Энгельсам. Прыгавораны завочна да пакарання смерцю, В. Урублеўскі вярнуўся ў Францыю. Толькі ў 1885 годзе — праз пяць гадоў пасля таго як была аб'яўлена амністыя ўдзельнікам Парыжскай камуны.

Не стала выдатнага рэвалюцыянера 5 жніўня 1908 года. Дарэчы, В. Урублеўскі да канца сваіх дзён захаваў вернасць ідэям сацыялізму і пахаваны ля сцяны Камунараў на могільніку Пер-Лашэз у Парыжы.

Гэтымі днямі споўнілася 160 гадоў з дня нараджэння нашага выдатнага земляка. Падрабязней пра яго можна прачытаць у кнізе Г. Кісялёва "Паплечнік Каліноўскага", выпушчанай у 1976 годзе.

# БЕЛАРУСЬ СТАЛА РОДНАЙ



**У Мінскай абласной бібліятэцы адкрылася выстава самадзейнага мастака з Крупскага раёна Аляксея Іванавіча Гаміна. Нарадзіўся мастак у Саратаўскай вобласці, але вось ужо сорак гадоў са сваіх 70 жыве і працуе на Беларусі. І з гэтай зямлёй ён звязаў сябе назаўсёды. Гэтая сувязь у яго творах, дзе нельга не заўважыць любові мастака да стаўшай яму роднай Беларусі.**

**У творчым багажы Аляксея Гаміна партрэты аднасяльчане і работы, прысвечаныя вайне, стваральнай працы земляробаў, помнікі архітэктуры і серыя работ, прысвечаная Якубу Коласу. І, вядома, любімы яго жанр — пейзаж. Дзесяткі сваіх работ падарыў мастак школам, дзіцячым дамам, Дамам культуры, раённай бальніцы ў г. Крупкі.**

**На адкрыцці сваёй юбілейнай выставы, Аляксей Іванавіч падарыў некалькі сваіх работ юным наведвальнікам.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, кар. БЕЛТА**

# СЯМЕЙНАЕ СВЯТА Ў ТЭАТРЫ



**Сапраўдным сямейным святам называюць наведванне тэатра юнага гледача тыя таты і мамы, хто па суботах прыводзіць сюды сваіх дзяцей на спектакль. Перад пачаткам спектакля шчаслівых дзяцей сустракае ў фае вясёлы клоун і дорыць хлопчыкам і дзяўчынкам яркія паветраныя шарыкі, на якіх вялікімі літарамі піша іх імя. Потым шумная, вясёлая дзятва пачынае своеасаблівае падарожжа па станцыях "Маляванка", "Палянка-пагулянка", "Плошча прыгажосці", "Музыкалінка" і іншыя.**

**Дзеці гулялі ў розныя гульні, малявалі, слухалі музыку, агледзелі выставу мяккай цацкі і нават змаглі зрабіць стрыжку — у фае працаваў і дзіцячы цырульнік. Амаль гадзіну доўжылася гэтае вясёлае мерапрыемства, якое яго стваральнікі і называюць сямейным святам у тэатры.**

**А потым пачаўся спектакль "Шукай ветру ў полі".**

*На здымку: у час сямейнага свята ў ТЮГу ў мінулую суботу.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

# ДАРАГІЯ ЮНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Выдавецтва "Мастацкая літаратура" неўзабаве выпусціць у свет унікальную кнігу паэзіі "Кроў Сусвету" 12-гадовай мінчанкі Валерыі Куставай, а таксама кнігу паэзіі "И пробил час" (руская мова) 13-гадовага палачаніна Дзяніса Старавойтава-Юрчанкі. Такая з'ява ў нашай паэзіі нечаканая. Падаросламу стала вашых аднагодкаў-паэтаў хвалююць праблемы нашага сучаснага жыцця. А здзіўляе перш-наперш сам феномен іх творчасці: страсная, метафарыстычная, чуйная... Чытаеш і радуешся: аўтары — сапраўдныя вундэркінды! Няма сумнення, што яны ў сваім сярэднім школьным узросце стануць членамі Саюза беларускіх пісьменнікаў!**

**Набывайце і чытайце, выдадзеныя пад агульнай вокладкай, кнігі Валерыі Куставай і Дзяніса Старавойтава-Юрчанкі! Гэта — сапраўдная сенсацыя ў духоўным жыцці рэспублікі.**

**ВЫДАВЕЦТВА "МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА"**

***...На пачатку стагоддзя ў Англіі адбывалася дыскусія між Арнольдам Бенетам і Вірджыніяй Вулф, падставай якой было меркаванне пра перараджэнне літаратуры. У той жа прыкладна час Леў Талстой піша артыкул "Што такое мастацтва?" Зноў жа пра — перараджэнне апошняга. У 1925 годзе Хасэ Артэга-і-Гасэт у кнізе "Дэгуманізацыя мастацтва" сцвярджае, што выяўляць у мастацтве і літаратуры чалавека непатрэбна, бо адзіная рэальнасць літаратуры — мова, асноўная задача — ускладнёна-канструктыўнае маніпуляванне сюжэтамі... Сучасны расійскі крытык Дзмітрый Урноў у кнізе "Прыхільнасці і прынцыпы" зазначае: "...ідзе замена і кампенсацыя мастацка-выяўленчых, уласна-творчых здольнасцей нейкімі іншымі... Скончылася тая традыцыйная дзейнасць, якая называлася літаратурнай творчасцю, і тое, што працягвае з'яўляцца ў духу той самай дзейнасці цяпер — гістарычная інерцыя".***

***Д. Урноў робіць нават такую песімістычную выснову: літаратура па мастацкасці або не падымаецца вышэй ужо даўно засвоенага ўзроўню, або ад мастацкага шляху ўхіляецца...***

***У той час, калі ў "вялікіх" сусветных літаратурах дыскутавалася праблема "перараджэння", перад нашай літаратурай стаяла праблема выжывання.***

***"Там" літаратура перараджалася — у нас нараджалася... Канец XIX — пачатак XX стагоддзя — менавіта час станаўлення класічнай беларускай літаратуры...***

***Дык, можа, у нас і цяпер працягвае ствараццa "старая", "традыцыйная" літаратура? Не закранула яе тое "перараджэнне"? Ці пачынае закранаць? Што такое традыцыя ў беларускай літаратуры? І ці не з'яўляюцца выключэннямі, якія пацвярджаюць правіла, пісьменнікі "нетрадыцыйныя", адразу заўважныя сваёй нетрадыцыйнасцю — ад Алеся Разанава з яго "філалагемамі" да Людкі Сільновай з яе "вершарысамі"? Чаму і цяпер у нас актуальныя тыя ж тэмы і жанры, што напрыканцы мінулага стагоддзя?***

***Як мы "ўпісваемся" ў схему змены стыляў сусветнай літаратуры? Падумаць над гэтымі пытаннямі і "абгаварыць" іх было прапанавана гасцям, што сабраліся ва ўтульнай кватэры паэтэсы, рэдактара аддзела крытыкі "ЛіМа" Людмілы Рублеўскай і паэта Віктара Шніпа на зноў жа традыцыйную гарбату. А гасцямі на гэты раз былі: паэт Леанід Дранько-Майсюк, літаратуразнаўца, пісьменнік Пятро Васючэнка, малады паэт, рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Першацвет" Мікола Віч, літаратуразнаўца, загадчык кафедры славістыкі БДУ Іван Чарота і філосаф, супрацоўнік часопіса "Крыніца" і газеты "Культура", у якой вядзе літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО", Валянцін Акудовіч.***

*ЗА ГАРБАТАЙ У ШНІПОЎ*

# ПАЛЁТ ФІЛАСОФСКАГА ГОЛУБА

Першую частку сваёй гаворкі шаноўныя тэарэтыкі літаратуры прысвяцілі высвятленню пытання, не вырашанага ў папярэдніх гаворках у "гарбатні": "што такое літаратура?" Пасля дасціпных і нечаканых разумовых пабудоў, якія мы вырашылі пакінуць па-за газетным лістом, прысутныя пагадзіліся з высновай, прапанаванай Пятром Васючэнкам: "Літаратура мае вярбальную прыроду". Прасцей кажучы, складаецца са слоў. Пасля дасягнення такога "кансенсусу" гаворка працягвалася наступным чынам:

**Людміла Рублеўская.** Вам не здаецца часам, спадарства, што наша літаратарскае кола выяўляе падабенства нават біялагічнае, як людзі, што пакаленнямі жывуць у замкнёнай прасторы, падобна героям "Ста гадоў адзіноты" Маркеса? І гэта пры тым, што крытык Сяргей Кавалёў пісаў: "Самая трывалая традыцыя нашай паэзіі — бестрадыцыйнасць"?

**Леанід Дранько-Майсюк.** Замкнёнай прасторы няма. У мяне ёсць кнігі, і я магу адчуваць сваю повязь з пісьменнікамі ўсіх часоў і народаў. Паэт не ведае межаў.

**Л. Рублеўская.** Тым не менш хацелася б усвядоміць, чаму маладыя, зусім пачаткоўцы, якія нясуць свае рукапісы ў "Бібліятэку "Маладосці", "Першацвет", у большасці сваёй пішуць у той тэматыцы і ўжываюць тыя літаратурныя прыёмы, што і літаратары пачатку стагоддзя, сярэдзіны? Нават славутая "вясковая тэма", даўно раскрытыкаваная, набірае новае дыханне ў творах маладых.

**Мікола Віч.** Гэта магло быць праўдай гадоў пяць таму. Цяпер мне, напрыклад, як рэдактару аддзела паэзіі "Першацвета", у большасці трапляюцца творы эксперыментальныя. Часам я нават лічу, што гэта не вельмі добра — лепш было б аўтару пачынаць з традыцыі, асвойваць "літаратурную школу"...

**Л. Рублеўская.** Можа, тут варта весці гаворку пра рэальнасць выдавецкай прасторы — бо ўражанне складаецца ў асноўным не па тых рукапісах, якія чытае рэдактар, а па тых кніжках, што выдаюцца...

**Л. Дранько-Майсюк.** Адзін малады чалавек, які пазнаёміў мяне са сваімі вершамі, дасюль на мяне крыўдзіцца, бо я спытаў: "А ты ўвогуле ўмееш рыфмаваць?"

**Валянцін Акудовіч.** А што, хіба на пачатку стагоддзя, у пазнейшых пакаленнях беларускіх літаратараў не было эксперыментаў? Хіба традыцыя — гэта толькі вясковая тэматыка?

**Пятро Васючэнка.** У дваццатых гадах трое беларускіх літаратараў — Александровіч, Дудар і Вольны напісалі "Раман беларускага лесу"...

**В. Акудовіч**. Гэта быў постмадэрн!

**Л. Рублеўская.** Па маіх звестках, раман меў назву "Ваўчаняты" і апавядаў пра змаганне беларускіх партызан з белапалякамі. Традыцыйны твор! Можа быць, справа ў ментальнасці беларусаў, у якой "родны куток" — паняцце сакральнае, невынішчальнае. "Рэптыльная тэма", як выказаўся аднойчы Васіль Быкаў. І яна выяўляецца ў кожным з нас, нават у маладых гараджанаў. Міколу Віча ў прадмове да яго першай кніжкі Андрэй Федарэнка назваў "урбаністычным паэтам". Але прабач, Мікола, я ўспрыняла твой вобраз горада як варожы для цябе асяродак, нібы ты трактуеш яго як дзядзька Антось у "Новай зямлі", які пра горад, гараджан кажа — Яно, Нешта, увогуле злое і варожае.

**І. Чарота**. Гэта натуральна. Для беларуса горад заўсёды будзе асяродкам чужым, і ўсе, калі замілавана ўспамінаюць сваё дзяцінства, згадваюць і "родны куток".

**М. Віч.** Для мяне горад тое самае, што для "неурбаністычных" літаратараў "натуральны асяродак". Пад'езд, напрыклад, — гэта лес... Цёмны, поўны нечаканасцяў, з прытоеным злом.

**В. Акудовіч.** Для мяне родны пасёлак Свіслач — сакральны, але каб хто выправіў мяне туды цяпер жыць, дык лепш у ссылку.

**Л. Дранько-Майсюк.** Мне жыць у маім Давыд-Гарадку — як у храме. Гэта немагчыма.

**І. Чарота.** Таму што ва ўсіх нас парушаны генетычны код. Як у тых качак, што жывуць на бруднай Свіслачы, пра вырай забыўшыся. У іх няма радзімы, няма выраю — ёсць месца пракорму. Вось і мае, скажам, апраўданні. Як я буду без універсітэта, без рэдакцыі? Як без мяне будуць тыя, каго я кансультую?

**Л. Рублеўская.** Але ж нашы пісьменнікі адлюстроўвалі не столькі сакральнасць "роднага куточка", колькі ідыятызм вясковага жыцця. Успомніце Гарэцкага, класічнае апавяданне "У лазні"... Мужыкі жывуць сярод лесу і не могуць пабудаваць новую лазню... Корпаюцца ў брудзе. Вепрукоў у хаце кормяць. Калі і збудуюць новую хату — баяцца яе.

**П. Васючэнка.** І Гарэцкі зайздросціць ім, бо яны па-свойму шчаслівыя, а ён ужо такім быць не можа.

**В. Акудовіч.** Ды там у аўтара проста агіда да гэтых брудных рэчаў. А што тычыць падзелу, прапанаванага працытаваным Людмілай Дзмітрыем Урновым на літаратуру і нелітаратуру, традыцыйную і новую — гэта несур'ёзна. Смешна ў тым адрэзку, у якім дзейнічае чалавек, мысленне, слова, вызначыць межы: дагэтуль была літаратура, а пасля не стала. Пакуль будзе існаваць вярбальная дзейнасць, слова, датуль будзе і літаратура. І ў постмадэрне таксама.

**Л. Рублеўская.** Вы, Валянцін Васільевіч, сцвярджаеце, што ведаеце, што такое постмадэрнізм, які, згодна Урнову, нелітаратура. Дык назавіце канкрэтныя прыклады пісьменнікаў-постмадэрністаў у нас, не ўцякайце ад адказу. Я — постмадэрністка? Леанід Дранько-Майсюк — постмадэрніст ці не?

**П. Васючэнка.** Калі трэба, дык будзеце.

**В. Акудовіч.** Ніхто не назваў бы Умберта Эка постмадэрністам, каб ён сам не біў сябе ў грудзі на кожным скрыжаванні: "Я — постмадэрніст".

**Л. Рублеўская.** Наколькі я ведаю, аднак, прыкмета постмадэрнізму — гэта адсутнасць літаратурнага героя, асобы. З другога боку, ёсць такая з'ява, як аўтаміфалагізацыя, калі аўтар атаясамляе сябе са сваім героем, сцірае мяжу між прыватным жыццём і творчасцю.

**В. Акудовіч.** У гэтым сэнсе найлепшы прыклад постмадэрніста — Славамір Адамовіч.

**І. Чарота.** Тады варта згадаць "Не я пяю — народ Божы" Я. Лучыны і купалаўскае "Я не паэта, о крый мяне Божа". Гэта адмаўленне ад аўтарскага "я", адчуванне правідэнцыйнасці сваёй ролі.

**Л. Рублеўская.** Гэта не правідэнцыйнасць, а боязь паказаць "панства", сваю адчужанасць ад сакральнага паняцця "народ". Не паэта, але "песенькі складаю". Як вясковы лірнік. Тут гаворка пра ідэалогію. Бо правідэнцыйнасць — гэта якраз-такі прыўзніманне над натоўпам.

**М. Віч.** І ўсё ж... Анатоль Сыс пісаў: "Я паэт прыгоннае паэзіі і такім да смерці застануся". Можа, гэта і ёсць-такі сённяшняе адчуванне паэтам сваёй правідэнцыйнай ролі — у адрозненне ад купалаўскага "Я не паэта"?..

**Л. Дранько-Майсюк.** А што такое "прыгонная паэзія"?

**М. Віч.** Думаю, у Сыса "прыгонная паэзія" — гэта паэзія менавіта пад прыгнётам традыцыі, і перадусім, купалаўскай традыцыі. У тым жа яго вершы ёсць і такія словы: "колькі б нас пасля Купалы ні жыло — плюнеш — не паэты — самазваншчына"... У іншым жа — неметафарычным — сэнсе, безумоўна, можна гаварыць і пра рэальны прыгон, ва ўмовах якога знаходзілася доўгі час паэзія, — ідэалагічны прыгон...

**І. Чарота.** Паўстае пытанне, наколькі беларуская літаратура сапраўды была пад уціскам, адчувала гэты прыгон. Назавіце мне хоць аднаго беларускага пісьменніка, у якога пры Саветах у шуфлядзе заставаліся творы.

**П. Васючэнка.** Думаю, такія пісьменнікі ёсць.

**І. Чарота.** Хто? Назавіце! Хоць аднаго! Я не назаву.

**В. Акудовіч.** Дранько-Майсюк некалі ў "ЛіМе" выказаў аднолькавую думку з вамі, Іван Аляксеевіч. Тады на яго шмат хто пакрыўдзіўся. У час перабудовы з расійскіх шуфлядаў сапраўды шмат што дасталася, а з беларускіх — нічога.

**Л. Рублеўская.** Мы прывыклі існаваць падцэнзурна. Калі пачалося адраджэнне на дзяржаўным узроўні, адбылася "эпоха разгубленасці". Распаліся "Тутэйшыя", страціла сэнс прыўлашчванне іміджу барацьбіта... І гэты стан у прынцыпе працягваецца дасюль...

**В. Акудовіч.** У "ЛіМе" аднойчы быў надрукаваны мой артыкул, за які мяне многа білі. Там сцвярджалася, што беларусы ніколі не жылі вольна. І паднявольны стан для беларусаў такі ж натуральны, як ціск атмасферы. Я нават спрабаваў рэабілітаваць гэты паднявольны стан, абапіраючыся на лексіку. Беларусы не кажуць "пры немцах", "пры паляках", "пры саветах", а "за немцамі", "за палякамі", "за саветамі". Мова паза рэальнасцю спрабавала этычна ўпрыгожыць той стан, у якім была нацыя.

**П. Васючэнка.** У гэтай схеме ёсць элемент панылай статыкі. Былі перыяды, калі культура сыходзіла ў лабірынты, а

пасля з гэтых лабірынтаў выходзіла, былі ўсплёскі пасіянарнай актыўнасці, тое, што мы называем перыядычнасцю нашых беларускіх адраджэнняў.

**І. Чарота.** Да таго ж форма "за палякамі", "за немцамі" — проста паланізм.

**В. Акудовіч.** Для мяне важней літаратурны працэс, чым літаратура. Працэс ёсць, а літаратуры няма. Абсалютна няважна, будуць з'яўляцца ў беларускім прыгожым пісьменстве "Дэкамерон", "Вайна і мір", "Дон Кіхот" — гэта я магу прачытаць і ў іншых літаратурах. Літаратура — гэта спосаб быцця для пэўнай катэгорыі людзей, каб не адчуваць сябе непатрэбнымі лайдакамі, запаўненне пустаты свайго жыцця. А ніякай каштоўнасці ў гэтым няма і не будзе.

**Л. Рублеўская.** Ёсць меркаванне, што кожная літаратура базуецца на існаванні геранчнага ідэалу. Якіх герояў мае наша літаратура?

**В. Акудовіч.** У гэтую мадэль зноў фенаменальна патрапіў Славамір Адамовіч...

**Л. Рублеўская.** Вы адразу перайшлі ў іншую стылістыку. Гаворка пра літаратурнага героя, пра ідэал.

**В. Акудовіч.** Такога героя ў нас няма.

**Л. Рублеўская.** Калі ёсць традыцыйная літаратура, ёсць і герой, які запамінаецца.

**В. Акудовіч.** Калі ласка. Кожны школьнік на Беларусі ведае дзеда Талаша.

**Л. Дранько-Майсюк.** Ёсць яшчэ Міколка-Паравоз...

**І. Чарота.** Не кожная літаратура мае свой геранчны эпас. "Песню пра Нібелунгаў", "Песню пра Раланда", "Калевалу"... Беларусы не стварылі такі свой эпас.

**В. Акудовіч.** Чаму ж усе запісаліся ў героі, а беларусы не запісаліся?

**І. Чарота.** У нас свой космас, сваё светаадчуванне.

**П. Васючэнка.** Думаю, вы блытаеце героя і геразацыю. Гаворка мусіць ісці пра літаратурнага героя — выказніка ментальнасці нацыі.

**М. Віч.** Я не памятаю прозвішча, але герой "Гісторыі хваробы" Андрэя Федарэнкі можа быць такім героем. Ці ўспомнім мележаўскіх Васіля і Ганну...

**П. Васючэнка.** Нават спадар Валянцін страціць свой скепсіс, калі я таксама назаву імя героя — Машэка. Беларускі тып.

**В. Акудовіч.** Сцепаніда са "Знаку бяды" Быкава...

**Л. Рублеўская.** Папытайцеся ў людзей, хто такая Сцепаніда. Вам скажуць? А за імем героя-тыпа адразу без тлумачэнняў павінен паўставаць канкрэтны вобраз.

**Л. Дранько-Майсюк.** Усе геранчныя прыкметы прысутнічаюць у характары і паводзінах героя аповесці Юрыя Станкевіча "Збіральнік страху", надрукаванай у апошнім нумары "Крыніцы". Героя завуць Марка Валынец. Рэкамендую ўсім прачытаць.

**П. Васючэнка.** А як наконт Ігната Абдзіраловіча? Справа толькі за раскруткай.

**Л. Рублеўская.** Ну а хто "раскручваў" Рабінзона Круза? Надрукаваўся твор — і ўсе сталі ведаць.

**П. Васючэнка.** Яго "раскручвала" англійская нацыя. Безумоўна, Машэка і Абдзіраловіч — носьбіты нацыянальнай ментальнасці.

**І. Чарота.** Ідзе гаворка пра дзве свядомасці — этнічную і інтэлігенцкую. А мы спрабуем зваліць усё да купы.

**П. Васючэнка.** Згадаем Гервасія Выліваху з "Ладдзі роспачы"...

**В. Акудовіч.** Прывядзіце мне прыклады такіх герояў у іншых народаў.

**П. Васючэнка.** У англічанаў — Фальстаф, у французаў — Кала Бруньён, у іспанцаў — Дон-Кіхот і Дон-Жуан, у бельгійцаў — Тыль Уленшпігель, у рускіх — Абломаў...

**В. Акудовіч.** А што, не тып — А., якой Леанід Дранько-Майсюк прысвяціў ужо столькі вершаў?

**І. Чарота.** Шукаць увасабленне народнага тыпу трэба ў фальклоры. А мы яго выразна акрэсленага не маем.

**Л. Дранько-Майсюк.** А каваль Вярнідуб?

**І. Чарота.** Казкі кампенсавалі адсутнасць эпасу.

**Л. Рублеўская.** Перакінемся ўсё ж да сучаснай літаратуры. Ёсць у нас А., ёсць герой "Гісторыі хваробы", ёсць героі аповесці Юрыя Станкевіча. Няўжо гэта ўсё?

**П. Васючэнка.** Мы спатыкаемся на тым, што героі і геразацыя розныя рэчы. Сапраўды, паняцце геразацыі ў беларускай ментальнасці адсутнічае. Таму замест чужога нашаму літаратуразнаству слова "герой" лепей казаць "вобраз-тып-тыпаж".

**Л. Рублеўская.** Вобраз-тып-тыпаж — прыкмета традыцыйнай літаратуры. У "новай" іх няма.

**В. Акудовіч.** Хутчэй, там ёсць лялька, падобная да тых лялек-копій дырэктараў фірм, прадпрыемстваў, якія за мяжой ставяць у спецыяльных пакоях, каб супрацоўнікі маглі іх біць і такім чынам спаганяць злосць да прататыпаў. Нават калі тэарэтыкі постмадэрнізму акідаюць сваім вокам кола сучаснай літаратуры, дзе постмадэрнізм б'е гейзерамі, яны не могуць вылучыць канкрэтную фігуру...

**Л. Рублеўская.** Але я хачу зразумець, хто канкрэтна ў нас постмадэрніст.

**В. Акудовіч.** Усе "бум-бам-літаўцы" адмаўляюцца быць постмадэрністамі. Для іх гэты тэрмін гучыць, як для мяне, прабачце, "сучы сын"... Калі я кажу Мінскевічу ці Барысевічу, ці Іллі Сіну, што ён постмадэрніст, яны крыўдзяцца.

**Л. Рублеўская.** Можа, таму, што не самі гэта прыдумалі... А вось цікава запытацца Міколу Віча, якому ў "Першацвет" нясуць вершы пачаткоўцы, ці ёсць сярод іх, на ягоны погляд, постмадэрністы?

**М. Віч.** Канешне, ёсць... Але, шчыра кажучы, я не звяртаю ўвагу, постмадэрнізм гэта ці не. Галоўнае — мастацкая якасць твора. Калі знаёмлюся з "эксперыментальнымі" творамі, узнікае пытанне натуральнасці.

**П. Васючэнка.** Віктар Жыбуль, які працуе ў "Першацвеце", напэўна постмадэрніст... І ўвогуле, хаця галоўнага рэдактара "Першацвета" Алеся Герасімавіча Масарэнку лічаць традыцыяналістам, усе ТВЛаўцы, бум-бам-літаўцы, у прынцыпе, адтуль выйшлі, "адпачкаваліся"...

**Л. Рублеўская.** Тут мы закранаем зноў праблему выдавецкай прасторы.

**В. Акудовіч.** Такой спрыяльнай, ідэальнай сітуацыі з выдавецкай справай, як сёння ў нас, ні адна краіна, напэўна, не мела... Каго толькі ў нашых выданнях ні друкуюць! І бум-бам-літаўцаў, і першацветаўцаў... А новых выданняў колькі!

**Л. Дранько-Майсюк.** Мне літаратура якраз і цікавая новымі назвамі і новымі прозвішчамі.

**І. Чарота.** Тут трэба гаварыць пра тое, наколькі мы заўважаем гэтыя новыя імёны...

**М. Віч.** Гэта нам здаецца, што пачаткоўцы, якія нясуць свае творы ў рэдакцыю, думаюць, у якой стылістыцы яны пішуць. А ім галоўнае — напісаць і надрукавацца. Проста за выданнямі замацаваліся пэўныя стэрэатыпы. За "Першацветам" — што гэта традыцыяналісцкі часопіс. А калі паглядзець — зусім не так.

**І. Чарота.** Рознаструктурны часопіс кшталту "Літаратурнай вучобы".

**М. Віч.** Лічу, асабліва ўдаўся апошні. 11-ы нумар нашага часопіса. Вылучаецца аповесць Вольгі Канойкі, вершы Андрэя Гуцава.

**В. Акудовіч.** Самы лепшы з беларускіх постмадэрністаў на сёння — Юрась Барысевіч... Але і ён не хоча лічыцца постмадэрністам...

**Л. Дранько-Майсюк.** А я неамадэрніст, як сказана ў апошнім "ЛіМе".

**Л. Рублеўская.** Гэта, прабачце, мой наватвор.

**В. Акудовіч.** Галубовіч — шчыры чалавек. Ён напісаў у "Зацемках": "Я не ведаю, што такое постмадэрнізм, а Акудовіч ведае. Але зарплату нам плацяць аднолькавую".

**Л. Дранько-Майсюк.**

*Старшыні калгасныя і брыгадзіры*
*Былі палкаводцы,*
*бо палкай вадзілі*
*На подзвіг працоўны*
*прыгоннае войска.*
*Народных герояў запомніла*
*вёска.*

Напісаў Рыгор Барадулін. Гэта постмадэрнізм, ці неапостмадэрнізм?

**В. Акудовіч.** Не.

**Л. Дранько-Майсюк.** Але са слова паэт здабыў гістарычную інфармацыю, расшыфраваў яго.

**Л. Рублеўская.** Што адпавядае эстэтыцы мадэрнізму, ці там постмадэрнізму, калі слова з'яўляецца адзінай рэальнасцю і прасторай дзеяння. Не герой, не сюжэт, не вобраз.

**Л. Дранько-Майсюк.** Так не бывае.

**В. Акудовіч.** Вось вам ілюстрацыя розніцы тых стыляў. Мадэрніст Дранько-Майсюк кажа, што так не бывае... Для мадэрніста сапраўды так не бывае. А для постмадэрніста не бывае інакш...

**Л. Дранько-Майсюк.** Гэта як філасофскі голуб, якому здавалася, што паветра перашкаджае яго палёту... Слова само па сабе — палёт голуба без паветра.

**В. Акудовіч.** Герой існуе ў адным пласце эстэтычным, тыпаж — у другім, у трэцім — няма ні героя, ні тыпажу, а ёсць нешта іншае. У постмадэрновым тэксце аўтар памёр, а герой і не нараджаўся ніколі.

**Л. Рублеўская.** Мы ўспрымаем усё ў хранаметрыі. Стылі змяняюць адзін аднаго... Значыць, калі з'яўляецца нешта новае, да яго павінна ўсё прыйсці. "Апошняе слова" літаратуры — ваш постмадэрн. І мы атрымаем літаратуру без героя, без аўтара, без сюжэта... Без літаратуры?

**П. Васючэнка.** Так не стане. Постмадэрнізм завязаны на традыцыйнай літаратуры. Ён не можа без яе.

**В. Акудовіч.** Што такое традыцыя? Гэта люстэрка, у якое глядзіцца навейшая літаратура.

**Л. Рублеўская.** Пра традыцыю можна казаць куды канкрэтней і на прасцейшым узроўні. Напрыклад, пакаленне "Тутэйшых" збольшага і я ў прыватнасці выйшлі з Караткевіча, як руская літаратура з "Шынеля" Гогаля.

**В. Акудовіч.** Гэта рыторыка, за якой нічога не стаіць.

**Л. Рублеўская.** Ну як жа нічога не стаіць? Па кнігах Караткевіча я вучыла беларускую мову, ён даў настрой, тэматыку... Гэта не традыцыя?

**П. Васючэнка.** Можна было б гаварыць пра "новую" беларускую літаратуру, каб не моўная праблема. У прадмове да "Дудкі беларускай" Мацей Бурачок расставіў акцэнты адносна беларускай гісторыі і пераемнасці. Каб не гэтая праблема, развіццё беларускай літаратуры магло б ісці інакш.

**І. Чарота.** У літаратуры ёсць свая зададзенасць, свая правідэнцыйнасць. Яна можа існаваць без многіх фактараў. Напрыклад, ці можаце ўявіць, каб беларуская літаратура існавала без Багдановіча? А яна ў прынцыпе магла б быць і без яго. Як іспанская — без Сервантэса, французская — без Рамэна Ралана...

**М. Віч.** Было сёння сказана, што ў нас ёсць літаратурны працэс, але няма літаратуры. Як аналогію гэтаму выказванню я б хацеў прывесці словы Барта "Мы хочам **напісаць нешта**, і тым не менш мы проста пішам (у непераходным сэнсе гэтага слова)"... І наша гутарка таксама адлюстраванне сённяшняга літаратурнага працэсу. Мы хочам сказаць нешта, але толькі гаворым (зноўтакі ў непераносным сэнсе слова "гаворым"). І, відаць, у гэтым сэнс. І літаратурны працэс, і гэтая гутарка — самадастатковыя.

**І. Чарота.** Мне здаецца, ёсць не толькі працэс, але і літаратура. А ёсць яна такая, якой мы заслугоўваем.... І яна не ўпісваецца ў схемы іншых літаратур, мае свае ўнутраныя законы развіцця. Некаторыя з іх мы сёння акрэслілі. Пра гэта трэба гаварыць, каб урэшце вызначылася тое, што стварае адметнасць беларускай літаратуры ў параўнанні з іншымі.

**П. Васючэнка.** Яшчэ некалькі сустрэч і мы наблізімся да разумення паняцця літаратура...

**Л. Дранько-Майсюк.** Мне было прыемна слухаць, маўчаць і думаць пра тое, пра што я часта думаю. Увогуле ацэньваючы беларускую паэзію на працягу стагоддзя, бачу, што яна развівалася ў асноўным па двух шляхах: Купалаўскім і Багдановічаўскім. Першы шлях пазначаны радком з паэмы "Курган": "Паміж пустак, балот беларускай зямлі"... — шлях з Беларусі ў вялікі свет. Багдановіч нібы палемізуючы з Купалам выказаўся ў знакамітым санеце: "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі..." Тым самым сказаў, што ісці да Беларусі можна і з вялікага свету. Але стагоддзе канчаецца. З'явілася шмат новых імёнаў, новых паэтаў. Сваёй колькасцю, сваёй прысутнасцю яны, бясспрэчна, ствараюць трэці шлях. Пакуль з гэтай кагорты не вылучыўся лідэр, імя якога можна было б выкарыстаць для азначэння гэтага шляху. Але лідэр з'явіцца і праз сваю творчасць аб'яднае, сінтэзуе два папярэднія класічныя шляхі. Магчыма, гэта здарыцца на пачатку XXI стагоддзя. І што так будзе — я абсалютна ўпэўнены. А пад якім сцягам гэты шлях пракладзецца — пост-пост-мадэрну або неа-неа-мадэрну, не важна. Колькасць і тут павінна перайсці ў якасць.

**В. Акудовіч.** Адзінае месца, дзе колькасць ніколі не пераходзіла ў якасць — гэта літаратура. Бо калі б у літаратуры колькасць пераходзіла ў якасць, за дзве тысячы гадоў яе існавання, асабліва за апошнія трыста гадоў, калі кожны, хто хоць трохі ўмее крэмзаць — крэмзае, дзе ў кожным мястэчку па тры рэдакцыі, і ў кожнага спадара — па два раманы, мы мелі б такую літаратуру, перад якой Гамер быў бы як пачатковец. Калі б кожны беларус пісаў раманы па вечарах, а не глядзеў "Санту-Барбару", ад гэтага беларуская літаратура ні на ёту не стала б лепшай. І калі ад беларускай літаратуры застанецца адзін Дранько-Майсюк і яшчэ некалькі чалавек, беларуская літаратура нічога не страціць па сваім узроўні...

**Л. Рублеўская.** Ваш улюбёны Барт, здаецца, сказаў, што літаратурнай крытыкай можа займацца толькі чалавек, які лічыць літаратуру найважнейшым заняткам у свеце. Думаю, і ўсе прысутныя...

**В. Акудовіч.** Я — не, не згодзен.

**П. Васючэнка.** Ёсць такое агульнавядомае паняцце — "эрас тэксту", калі на літаратуру глядзяць як на дзяўчыну.

**І. Чарота.** На самым пачатку стагоддзя Брусаў напісаў вядомае аднарадкоўе: "О, закрой свои бледные ноги!" У 1942 ці 43-м Васіль Субоцін другое: "Окоп копаю. Может быть, могилу". У першым выпадку — запланаваная гульня, у другім — вырываецца стогн, магутная сэнсавая напоўненасць. А форма тая самая... Аднарадкоўе, якое будзе не менш знакавым, відаць, пішацца і ў канцы стагоддзя.

**П. Васючэнка.** Прапаную наступную гаворку прысвяціць новым імёнам у беларускай літаратуры.

ВІНШУЕМ!

# ВЕДАЮЧЫ ЖЫЦЦЁ...

*Івану КЛІМЯНКОВУ — 50*



Хто-хто, а Іван Клімянкоў жыццё ведае... Нарадзіўся 5 студзеня 1947 года ў вёсцы Хляўно Кармянскага раёна. Скончыў у 1965 годзе адзінаццаць класаў Ліцвінавіцкай сярэдняй школы імя П. Лепяшынскага. З 1965 па 1970 год вучыўся на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, настаўнічаў на Любаншчыне, быў сакратаром камітэта камсамола Смілавіцкага ПТВ — 23. Ды паклікалі ў 1971 годзе І. Клімянкова далёкія дарогі. Спачатку працаваў з брыгадай сезонных рабочых, а потым быў рабочым геолагаразведкі ў Пячоры, саўгаса "Заходні", шахтабуда Варкуты, леспрамгаса ў Архангельскай вобласці. З 1980 года працаваў на Беларусі — мантажнік сельгасбуда ў Касцюковічах, рабочы калгаса імя М. Гастэлы Валожынскага раёна, будаўнік у калгасах імя Валадарскага Кармянскага раёна, "Рассвет", "Камсамолец", "Перамога" — Валожынскага... У 1992 годзе стаў працаваць у выдавецтве Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Пачынаў пісаць па-руску, што засведчыла і апавяданне "Чэмпіён", апублікаванае 16 студзеня 1970 года ў газеце "Физкультурник Белоруссии". З 1976 года выступае на беларускай мове. У 1987 годзе выйшла кніга прозы І. Клімянкова "Сеанс гіпнозу".

Віншуем Івана Пракопавіча з 50-годдзем! Жадаем поспехаў у жыцці і творчасці!

# ЗВЯЗАЎ ЛЁС З АРМІЯЙ

*Кастусю ІЛЬЮШЧЫЦУ — 50*



Кастусь Ільюшчыц — з паэтаў, якія былі ў свой час адкрыты "ЛіМам", і хоць друкавацца ён пачаў у салігорскай раённай газеце "Шахцёр", тым не менш на шырокую творчую дарогу выйшаў дзякуючы нашаму штотыднёвіку: "23 лістапада 1965 года ў "ЛіМе" былі змешчаны вершы К. Ільюшчыца "У лесе", "Пара сенакосу", "Рабінавая ноч", "Першы пералёт", "Папары", "Восень", "Тапаліны пух".

А нарадзіўся К. Ільюшчыц 2 студзеня 1947 года ў мястэчку Наваельня Дзятлаўскага раёна. Праўда, маленства прайшло на радзіме бацькоў — у вёсцы Рог каля Старобіна. У 1960 годзе скончыў Рогаўскую сямігодку, пасля вучыўся ў сярэдняй школе ў в. Скаўшын. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, у 1963 годзе стаў студэнтам. Інстытут закончыў у 1968 годзе па спецыяльнасці інжынер-механік. Адразу быў прызваны ў армію, з якой і звязаў свой лёс надоўга. У 1971 годзе скончыў Усурыйскае ваеннае аўтамабільнае каманднае вучылішча. З 1980 па 1985 год знаходзіўся ў Заходняй групе войск.

Значнае месца ў творчасці К. Ільюшчыца займае армейская тэма, што, у прыватнасці, засведчылі яго кнігі паэзіі "Армейскія будні" (1977) і "Таёжны гарнізон" (1982)... Друкаваўся таксама ў перыёдыцы, зборніках "Дзень паэзіі", а ў перакладзе на рускую мову — у акруговых ваенных газетах і часопісе "Советский воин".

З днём нараджэння, шаноўны Канстанцін Міхайлавіч! Доўгіх год жыцця Вам, новых жыццёвых і творчых поспехаў!

## “БЕРАСЦЕЙСКАЕ ВОГНІШЧА” —

такое метафарычнае азначэнне росквіту культуры роднага краю, творчага гарэння пісьменніцкіх талентаў яшчэ ў 60-х гадах даў выдатны крытык і літаратуразнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Калеснік. Цяпер пад такою назваю праходзяць традыцыйныя літаратурныя святы ў Брэсце. Зусім нядаўна каля “берасцейскага вогнішча” зноў сабраліся шматлікія прыхільнікі творчасці Ніны Мацяш і Міколы Купрэева, Алеся Каско і Зінаіды Дудзюк, Міколы Пракаповіча і Васіля Сахарчука, іншых сяброў абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аддзяленне трымала творчую справаздачу перад чытачамі з нагоды свайго 15-годдзя. На працягу дзвюх з паловаю гадзін прыйшоўшыя ў залу музычнага каледжа слухалі вершы і прозу літаратараў-землякоў, песні на іхнія словы ў выкананні бардаў і папулярнага ансамбля “Мушкецёры”. Свята ўдалося дзякуючы ў немалой ступені дапамозе ўпраўлення культуры аблвыканкама, абкама прафсаюза культуры і прадзюсерскага музычнага цэнтра Анатоля Хвораста.

Н. ЗАГАРЭЎСКАЯ

## ВАБНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

Яўген Сахута — адзін з найбольш дасведчаных сучасных даследчыкаў народнага мастацтва ў нашай краіне. Невыпадкова яго кнігі карыстаюцца такой папулярнасцю. Нядаўна, поруч з іншымі навукоўцамі, што працуюць у гэтай галіне, ён удастоены Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Несумненна знойдзе свайго чытача і новая кніга Я. Сахуты “Беларускае народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва”, выпушчаная выдавецтвам “Беларусь”. Яна выдадзена як вучэбны дапаможнік і ў першую чаргу адрасуецца педагогам, выхавацелям дзіцячых садоў, кіраўнікам гурткоў і студый. Але і так званы масавы чытач сустрэне яе з цікавасцю, бо аўтар дэталёва знаёміць са спецыфікай і нацыянальнымі адметнасцямі гэтага віду мастацтва. Падаюцца асноўныя звесткі пра такія віды дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, як разьба па дрэве, ганчарства, кавальства, пляценне, роспіс, ткацтва...

## СТАЛА ПЕСНЯЙ У НАРОДЗЕ

Шмат прыхільнікаў неўміручага таленту слыннай песняркі Цёткі сабрала вечарыну ў Доме літаратара. В. Коўтун, Я. Янушкевіч, Л. Арабей, А. Разанаў, М. Купава і іншыя гаварылі пра тую, хто ў свой час марыў стаць песняй у народзе, нагадвалі, наколькі запаветы Цёткі па адраджэнні роднага краю, вернасці беларускасці актуальныя сёння.

Прысутныя змаглі пазнаёміцца і з яе лепшымі творамі, якія дэкламавала народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч. А яшчэ парадавалі сваім майстэрствам артысты тэатра “Жывое слова”, выступілі “Харошкі”.

## “ПЕРШАЦВЕТ”, N 11

Змешчаны вершы А. Мараковай, В. Корбута, Т. Ульянычавай, Н. Дзівінай, Д. Летуноўскага, А. Гуцава, Т. Копыцевай, М. Канановіча, Л. Салаўёвай, З. Вішнева. Празаічныя старонкі прадстаўлены апавяданнем І. Сцяцко “Сон”, аповесцю Л. Канойкі “Асалода”, паданнем К. Хадасевіч “Цірэй і Эйра”, “канспектам адной немачы” А. Качана “Удар”.

Пра А. Белакоза і яго адраджэнскія справы разважае ў нарысе “Храм Духу” Л. Вашко.

“Гасцёўня” прымае з вершамі Л. Паўлікаву і з апавяданнем “Травеньскі сюжэт” Д. Нічыпаровіча.

У раздзеле “Спадчына” А. Пашкевіч гаворыць слова пра П. Мядзёлку і прапануе яе паэму “Сялянская доля”.

Рэцэнзія Л. Дрыкі на кнігу В. Чаропкі “Перамога ценю” (“Змаганне з ценем, або Прага жыцця”), аналіз А. Дуброўскім кнігі прозы Я. Конева “Вартавыя” (“Сабраць пшаніцу...”), артыкул В. Гусевай “Насустрач дабрыні” (“Міфалагічныя вобразы ў творчасці Алеся Разанава”) аб'яднаны ў раздзеле “Крытыка”.

У “Жароўні” можна прачытаць вершы В. Жыбуля і празаічныя творы А. Варановіча, а ў раздзеле “Нам пішуць” — вершы Н. Кавальчук з Ганцавіцкага раёна.

Рыгор БАРАДУЛІН



## “ЯК ВОГНІШЧА, РАЗВАРУШЫ ТУГУ...”

### Тост

*Спадналуску мядзведзь,
А на воўка памоўка.
Хмельны дух даспадобы
Душы маладой.
Беларусь —
Яшчэ з градусамі жытнёўка,
Хоць разведзеная
Прыблуднай вадой.*

### Не скажа

*Загадка Гамера й Шэкспіра.
Былі яны ці не былі.
Шукаюць даследнікі шчыра
Сляды ў пракавечным быллі.*

*Хто аўтар хмурынкі ці вішні,
Хто смутку найменне знайшоў.
Не скажа тварэц Усявышні,
Каб не пасварыць спарышоў.*

### Лацьвей

*Намовіўшыся з самотай дазмоўку,
Благаючы роднае слова: “не выдай!”,
Будуе ў
Тайзе бесхаціннай дамоўку
Дубоўка —
Беларускі Авідый.*

*Лацьвей
З тугою пабрацца ізгою.
У руху
Шархебель з сякерай шчырухай.
Шуміць зімавейна
Суладна з тайгою
Паэтава барада завірухай.*

*А ўжо
Ля берага човен чакае.
Яшчэ не Харонаў.
Ду Фу з напамінаў
Адсюль недалёка
Жальбуе ў адчаі,
Што вецер
Страху чаратовую зрынуў...*

### Каб не перарос

*Глядзі, каб цень цябе не перарос,
Тады пачнеш свайму зайздросціць ценю.
І будзеш рад імгненню, як адценню,
Што адцяняе беспрытульны лёс.
Касец часовы, рупішся пра ўкос.
А цень твой дадзена скасіць здарэнню.
Карэнне ценяў верыць паўтарэнню.
Трымценне растрасае зорны воз.*

*За ўсімі ўслед бясследна цень ступае.
Цень і цябе й сябе перажыве.
На дрэве крык смалою замаўкае.
Галосіць боль расою на траве.
Змяя з сваёй кашулі выпаўзае,
Як рух рукі, што спала ў рукаве.*

### Нашчадкамі продкі жывыя

Вацлаву СТАНКЕВІЧУ

*Нашчадкі крывіцкае славы,
Якою хмялее палын,
Ускормленыя з вясла вы,
Што лашчыць хвалі часін.*

*Нашчадкі вечнага веча,
Дзе зоры вячуюць лёс,
Ускормленыя з меча,
Што вершнік Пагоні ўзнёс.*

*Нашчадкі сівога Стрыбога,
Каму падуладны туман,
Ускормленыя з нарога,
Што зрэжа абразы дзірван.*

*Хай вораг ад немачы вые,
Моц
Мужных знаходзіць сама.
Нашчадкамі продкі жывыя.
Без продкаў Айчыны няма!*

### Вера й злосць

*Свет уратуе не прыгажосць,
Свет уратуе
Вера й злосць.
Верай праз крэмень
Праб'ецца крыніца.
Зло
Толькі праведнай злосці
Скарыцца.*

### Ціха

*Гібее ў небе
Аблокаў друз,
Халоднай думкай сагрэты.
І пачынаецца землятрус —
Страсенне мозгу планеты.*

*Хто ўвогуле мае
Ад сэнсу ключы?
Куды з ласяняткам
Бяжыць ласіха?
Як розум не мае
Куды ўцячы,
Ён вар'яцее ціха...*

### Лятуць

*У вёскі і ў мястэчкі
Нашы сны
Штоноч лятуць,
Як тыя птушкі ў вырай.
У край лясны,
У прыцемак вясны,
Дзе й пер'іна
Прымроенай апірай.*

*Хоць і ад выраю
Адзін назоў
Застаўся
Усплываць са дна прадоння.
Ад першажаўрукоў
Да маразоў
Бяссонне ходзіць
З кайстраю рудою.*

*Вязе ўспамін на млын
Палын малоць,
А на хаду заснуць
Маняцца колы.
Жыццё ёсць сон,
Які прысніў Гасподзь,
А нам яго распавялі анёлы.*

### Вакх

*Ад беласнежжа ў белым свеце
Бела.
Раіцца снег,
Бруіцца снег на волі.
І дрэваў перазяблая капэла
Трымае лёгка
Цішыню ў прыполе.*

*Узважваць снег
Хапае працы бровам.
На момант знерухомей
Ад пашаны —
І станеш Вакхам
Беламармуровым,
Які з антычнасці ўцякае
П'яны...*

### Юнак і...

*Лірычны верш —
Юнак дзівоснай моцы й
Мужчына,
Што адчуў сваю бяду,
Касмічны сон
Усіх зямных эмоцый,
Табе на плаху
Галаву кладу.*

*І паўтараю за Пятраркам шчыра,
Душою загавеўшы да Каляд:
“Мілосны верш!
Пясняр знямог і ліра
Наладжана на самы сумны лад”.*

### Каб не знік...

Карласу ШЭРМАНУ

*Радзіма —
Гэта твой і матчын крык.
Айчына —
Гэта бацькава апора.
Радзіма рупіцца,
Каб род не знік.
Айчына дбае,
Каб ішла разора
Як найглыбей
Да неба ад зямлі,
Каб зерне вечнасці
Ў яе запала.
Радзіма шэпча:
Грэх свой замалі.
Айчына кажа:
Тут малення мала...*

### Акрааняменне

*Раўніва кветкі мыюцца расою.
Адломак поўні —днее маладзік.
Самота сочыць рыжаю лісою,
Як веташок лыча мяняе дзік
На маладзік туманнае надзеі.
Чакання дзік заўсёды чуйны ён.
У жарсці страх здзіўлення маладзее.
Каханне кволіць свой вясёлы плён.*

### Забываецца й помніцца

*Шануе крылы,
Хто не лётае,
Багоміць нехадок хаду.
Дні распачатаю калодаю
Змушаюць да гульні
Бяду.*

*Бяда гульню любую
Выйграе,
І гора аб'ягорыць
Ды
Свае бакі на сонцы
Выграе,
Чужыя зблытаўшы сляды.*

*У дол глыбока забіваецца
Кол,
Быццам тут
Ззялёна рос.
Цяпло адразу забываецца
І доўга помніцца мароз.*

### Калі яшчэ

*Я жыў,
Калі яшчэ наўкола
Усё жыло —
І луг і стаў.
Спеў полаза
І скогат кола
Яшчэ пачуў,
Яшчэ застаў.*

*Хоць полаз гнуты-перагнуты
Нос задзіраў,
А з кола рух,
Забыўшыся на ўсе пакуты,
Ірваўся ў рукі завірух.*

*...Калі ў пясок адыдуць вочы,
Замкнецца вечны дом цвіком,
Хай кола
Жаўруком свіргоча,
Хай полаз
Вые воўк ваўком...*

### Калядны верш

*У ноч калядную збяры
Усіх здарожаных, халодных,
Усіх забытых і галодных,
І раздары свае дары.*

*Усё, што даў табе Гасподзь,
Каб ты апошнім
Мог дзяліцца.
Бо ўдачы гладкая цяліца
Пасецца, каб аддаць стакроць.*

*Прасі на кут сваіх Дзядоў
Абнашчыцца куццёю поснай,
Каб не шукаць гадзінай познай
У небе памяці слядоў.*

*Як вогнішча, разварушы
Тугу,
Што пазірае нема.*

*І ціха зорка Віфліема
Узыдзе ў поцемках душы...*

### Радней за ўсіх

*Дзяржава нам была чужой
Ад нараджэння да сканчыны.
У межах спадчыннай Айчыны
Жылі як быццам за мяжой.*

*Мы выпалі
Ці выпаў час,
Як воз з калянай каляіны.
Хаціна цёмнай дамавіны
Радней за ўсіх сагрэе нас...*

***Здаў у часопіс "Маладосць" новую аповесць. Назваў "Крывінка". Так называе бацька, вельмі багаты <u>новы</u>, сваю любімую дачку. Рэч вострасюжэтная, што чытач зразумее па раздзелах, якія я прапаную "Літаратуры і мастацтву". Сюжэт не раскрываю. Хачу заінтрыгаваць чытачоў.***

***Чытайце "Маладосць" N 1 за 1997 год!***

**АЎТАР**

Іван ШАМЯКІН

# ВЫКРАДАННЕ



●

Галаван любіў офіс прэзідэнта фірмы — свой офіс. Гады тры назад купіў танна несамавіты абшарпаны двухпавярховы дом, у якім некалі змяшчаўся райком камсамола і яшчэ нейкая партыйна-савецкая ўстанова. Зрабіў з асабняка ляльку знешне і асабліва ўсярэдку: еўрарамонт — найлепшыя шведскія аддзелачныя матэрыялы. Расходы на рамонт пакрыў за два гады, здаючы першы паверх у арэнду іншай фірме. У сябе кіраўнічы штат трымаў вельмі эканомны: камерцыйны дырэктар, эканаміста, бухгалтары, сакратарка, шафёр. Людзі гэтыя мелі добрыя аклады, але і працавалі не так, як у дзяржаўных установах — не "перакурвалі" паўдня, калі трэба, сядзелі да паўночы.

Любіў свой невялікі, але ўтульны, з густам абстаўлены кабінет; у ім добра працавалася і добра адпачывалася.

Адрэдагаваўшы інструкцыю для аховы — калі такая інструкцыя будзе выконвацца, то ў яго ніякія зладзеі старой мятлы не ўкрадуць! — Георгій Яўменавіч устаў з крэсла, задаволена пацягнуўся, прайшоўся па кабінеце, уключыў "панасонік". Зацікаўлена спыніўся. Перадавалі адкрыццё выстаўкі мастака. Але не выстаўка зацікавіла. У ліку гасцей, што пілі шампанскае, мільгнуў каштанавы прыгажун. Гэта ажно ўсхвалявала, але пэўным чынам і ўзрадавала: Фелікс сапраўды з мастацкіх колаў: не прайдзісвет з вуліцы.

Злосці на Арыядну за яе "хуліганскую выхадку" хапілі хіба да вечара таго дня. Расказаў суседу. Іпаліт весела пасмяяўся — класны эпізод! Пашкадаваў, што на сцэне басейн не зробіш, — і развеяў бацькоўскую злосць. Ды і як можна злаваць на дачку, якую любіў да забыцця. За гэтае, можа, і любіў, што яна вось такая — гарэза. Ён сам у маладосці быў — на хаду падноскі рваў.

Перад вячэрай сам пастукаў у дзверы яе пакоя.

Адказала не адразу.

— Хто там? —

— Я, Рына.

— Прыйшоў вушы надраць? Хопіць "ляшча".

Георгій Яўменавіч засмяяўся.

— Не бойся. Вушы драць не буду, хоць трэба было б — свята сапсавала. А за аплявуху прабач — вырвалася.

Адчыніла дзверы. Стаяла ў джынсах і ў вячэрняй куртцы.

— Ты як сабралася куды?

— Сабралася. Заходзь — пакажу.

Бацька ступіў у пакой. Арыядна паказала яму тры скручаныя і звязаныя прасціны.

— Што гэта?

— Скажы дзякуй свайму характару. Каб ты не прыйшоў дацямна, я спусцілася б з акна і - ф'юць, як ты сказаў Феліксу. Пакудахталі б вы з мамай.

— Эгаістка ты аднак.

— Уся ў цябе, татунь. Люблю сябе.

— Ну, падурачылася і хопіць. Пайшлі вячэраць.

За вячэрай яны разам смяяліся з Навагодава — як ён выглядаў пасля купання.

— Як мокрая курыца.

— Не. Як індык, якога акунулі ў вар.

— Табе смех, а я магу страціць сябра і кампаньёна.

— Ты казаў — канкурэнта. А канкурэнтаў якраз трэба купаць. Ды не ў шыкоўным басейне, а ў балоце.

— У балоце! Яны ў памыйных ямах купаюць адзін аднаго, — сказаў Віталій без усмешкі.

—Змрочны ты, філосаф. І непаслядоўны. Хто каго купае? Па Марксу — у нас класавая салідарнасць. Мы цывілізаваныя людзі. Мы ж не дурні, каб з'ядаць адзін аднаго, тым больш на стадыі станаўлення. Не будзем з'яднаныя — вы, камуністы, лёгка можаце спусціць нас пад адкос. З вамі толькі зазявайся. З такімі філосафамі, як ты, вуха трэба трымаць востра. Я думаў, што ўсе вашы тэорыі абвергуты бяскроўнай рэвалюцыяй.

— Контррэвалюцыяй.

— Ажно не. Ты так спрытна прыстасоўваеш Маркса, Леніна... нават Сталіна пад нашы ўмовы — што дзіву даешся. Эквілібрысты! Канатаходцы!

— У нас ёсць тэорыя. А ў вас — ніякай навукі. Дзікае накапленне. Хто каго згроб...

— Канчай, Віця, канчай: ты што зрабіў? —рагатала развесялелая Арыядна. Спрэчкі бацькі і сына яе заўсёды забаўлялі. У той вечар асабліва. Яна лічыла, што вымусіла бацьку прасіць прабачэння за прылюдную аплявуху і адчувала сябе пераможцай.

І бацька быў задаволены, што проста і лёгка ліквідаваў канфлікт з дачкой. Ён заўсёды перажываў, калі ўлюбёнка яго дзьмулася амаль з-за дробязяў, з-за дзіцячага капрызу. Жонка магла тыдзень не размаўляць — гэта яго мала турбавала. А Віталій ніколі, з малых гадоў, не капрызнічаў, ды і бачыліся яны ў апошні час рэдка — у выхадныя, калі галодны марксіст прыязджаў на дачу, каб паесці буржуйскіх прысмакаў, жартоўна называў гэта **экспрапрыяцыяй эксплуататараў**. Крыўдныя словы гаварыў сын, але Георгій Яўменавіч звыкся і не звяртаў увагі — быў дэмакрат, выступаў за плюралізм думак.

У наступныя дні двойчы званіў Навагодаву на працу — каб памірыцца, дадому званіць не адважыўся. Васіль, пачуўшы яго голас, кідаў трубку. Узлаваўся, абразіўся.

"Ну, і чорт з табой", — і, хоць было гэта нялёгка, паставіў на трыццацігадовым сяброўстве крыж.

Клапаціла мацней за ўсё іншае адно: Рынкін новы жаніх — каштанавы атлет. Такі любую можа скарыць. А думкі, што Рына аддаецца мужчыне, пякла сардэчным болем. І не толькі гэта. Насцярожыла, як мала яна ведае пра яго. Цешыла хіба адно няведанне — дзе жыве. Але навошта ім кватэра, калі ў яе машына?

Пазваніў у Саюз мастакоў. У спісе членаў Гельбаха не было і пра такога маладога мастака не чулі. Пазваніў у Саюз прадпрымальнікаў: ці зарэгістравана рэкламная фірма, якой кіруе Фелікс Гельбах? Ёсць. Гэта супакоіла. Але ненадоўга. Мала знае нявеста — павінен усё знаць ён, бацька!

Менавіта ў той дзень, ходзячы па кабінеце, ён падумаў пра больш глыбокую разведку. Паслугамі такіх спецыялістаў яшчэ не карыстаўся. Успомніў, што імі карыстаўся камерсант Шманай. У яго ўкралі бульдозер. Куды маглі далёка ўгнаць бульдозер? Аднак міліцыя месяц шукала і не знайшла. Прыватны дэтэктыў за тры дні знайшоў.

Шманай у даведніку, які выпусціў савет, не значыўся.

Падумаў: "Наплаздзілася іх, фірмаў, больш, чым у Германіі!"

Даручыў сакратарцы знайсці ці Шманая ці дэтэктыўную фірму. А сам пазваніў міністру дзяржмаёмасці Мураў'ю.

— Іван Іванавіч, маю размову, якая можа зацікавіць і цябе.

— Прыязджай.

— Не люблю кабінетаў. Можа, мы прагуляемся за горад. Падыхаем сасновым азонам. Я сам сяду за руль: не бойся: кіроўца я надзейны.

Муравей засмяяўся.

— Любіш ты дэтэктыўныя сюжэты. Як жонка мая.

— Люблю. Але не рамантычныя, а практычныя — дзе не каханне, а дзела.

— Любоў ты не лічыш за дзела? Без такога дзела не было б роду чалавечага.

Пакуль ехалі па горадзе, гаварылі пра палітыку, пра біржавы курс. За Драздамі на ўрадавай магістралі Галаван, збавіўшы хуткасць, загаварыў пра **"дзела"**:

— Іван, прадай мне гарадок "Бужскі".

Задаволіўся, што здзівіў міністра, які мала чаму здзіўляўся — прагматык.

— Які? Той, ваенны?

— Той, які цяпер ваш — дзяржмаёмасць. Але стаіць пусты, развальваецца. Ты ведаеш, што я ўжо больш года аплачваю яго ахову. Без маіх грошай ахова МУСа ужо даўно прадала б там усё, што можна вывезці, вынесці — дзверы, вокны, метал, шкло...

— Ты такі багаты? Крэдыт. Я член праўлення банка.

— Такія аб'екты пад кантролем Самога..

— Прэзідэнта? Дзядзя Саша згодзіцца, калі прачытае мой праспект. Не дзеля забавы куплю — для арганізацыі вытворчасці.

— Якой? Што будзеш выпрабляць?

— Харч для народа. Масла. Сыры... Навокал багатыя калгасы. Адзін Бядуля заліе малаком.

— І гэтай прадукцыяй ты спадзяешся акупіць затраты?

— Будзе другі цэх — гарэлкі, лікёраў.

— Пі і закусвай, так? А вось гэтага дзядзя Саша, як ты кажаш, не прапусціць. Не любіць гарэлкі.

— Прапусціць. Такі акцыз будзе мець у бюджэт! Слухай мой план! Я пачынаю з таго, што збіраю людзей — лепшых спецыялістаў, рабочых. Чым прыманю? Жыллём. Там пяцьдзесят афіцэрскіх кватэр плюс казармы, якія лёгка перабудаваць. Хто не клюне на кватэру? Даю прыватызацыю кватэр з выплатай з зарплаты на пятнаццаць — дваццаць гадоў, што знізіць і мае цякучыя расходы на зарплату, а гэта адаб'ецца на сабекошце.

— Хочаш зрабіць людзей заложнікамі? Стварыць рэзервацыю наймітаў, неграў?

— Іван, у цябе, як у майго Віталія, не выветрываецца сталінскі дух. Не марксісцкі, Маркса мы не разумелі. Людзі будуць дзякаваць мне. Я ствару ў гарадку "сацыялістычны рай", як у кібуцах, — усю сацыяльную структуру: сталоўку, дзіцячы сад, стадыён — ён ёсць там.

Муравей засмяяўся.

— Мімволі паверыш у неабмежаваныя магчымасці прадпрымальніцтва.

— А ты ўсё яшчэ не верыў?

— Скажу шчыра: мяне насцярожвала, што нашы **новыя** зарабляюць гандлем, а не вытворчасцю. Але ж калі не вырабляць, то хутка не будзе чым гандляваць. У нас — адзін лес. Надоўга яго хопіць?

— Я буду вырабляць. Я ўжо дамовіўся з галандцамі аб пакупцы ліній: масларобчай і сыраробчай. Кампактныя машыны. Яны размесцяцца ў комплексе сталоўка — клуб, нямнога трэба будзе дабудаваць. А ў артылерыйскіх майстэрнях, у складах я размяшчу спіртзавод. На складзе ў мяне стаіць ужо ўстаноўка эко — 93 м і Эко — 94, нашы, расійскія, але такія, якіх нідзе ў свеце няма, арыгінальнейшыя. Можаш уявіць, якія "самагонныя апараты" могуць зрабіць канструктары, што рабілі лепшыя ў свеце ракеты!

Муравей зноў засмяяўся.

— Штукары.

— Хочаш папрактыкавацца ў арыфметыцы? Такая ўстаноўка дае тры тысячы бутэлек у суткі. Дзве — шэсць. На гэта трэба, знаеш, колькі жыта ці ячменю? Тры тоны збожжа — 400 літраў спірту, дзве тысячы пляшак гарэлкі. На сутачную вытворчасць устаноўкі — тры тоны. Усяго тры тоны! Тона збожжа, бяру вышэйшую цану, — паўтара мільёна, для ўпрашчэння падліку бяру два мільёны. На шэсць тысяч пляшак — тры тоны: шэсць мільёнаў. Цана гарэлкі... зноў жа для прастаты возьмем найвышэйшую — дваццаць тысяч. Можам памножыць дваццаць на шэсць? Усяго сто дваццаць мільёнаў! За дзень! Вылічым вытворчыя выдаткі. Не думаю, што яны будуць пяцьдзесят працэнтаў. Але няхай з акцызам могуць набліжацца. Чысты прыбытак — шэсцьдзесят мільёнаў у дзень. Вытворчы працэс бесперапынны... Множ на месяц, на год!

— Аднак... дзялок ты, — неяк дзіўна ўздыхнуў міністр.

— Іван, дарагі мой, ты ж — эканаміст. А эканоміка — гэта падлік і ўлік. Сталін разумеў: "Сацыялізм — гэта ўлік". Але камуністы так і не навучыліся лічыць. Безумоўна, я ствару акцыянернае таварыства. Інжынеры, рабочыя будуць акцыянеры. І свае... Блізкія мне людзі. Твой Вадзім у маім "Робаце". Мікалай і Надзя — навошта ці? — абодва могуць быць у "Дыяменце".

— Ужо і назву маеш?

— Я ўсё маю.

— Аднак купляеш ты мяне.

— Іван! Я калі-небудзь прапаноўваў табе хабар? Наяўнымі я нікому цэнта не даў. Акрамя натуры — чаркі каньяку. Што мы з табой і зробім. Заедзем у маю халупку і папросім Тоню даць прычасце. Яна ў мяне святая. Там і азонам падыхаем. Як там дыхаецца лёгка!

Муравей смачна аблізнуўся і тыльным бокам далоні выцер засмяглыя вусны.

●

Увайшла сакратарка Алена Іванаўна. Нячутна. Ніякага стуку абцасамі. Не той узрост. Сталая жанчына. Як толькі фірма дарасла да штата з сакратаром, Галаван не ўзяў на гэтую пасаду прывабную дзяўчыну — знайшоў вопытную жанчыну, інжынера-эканаміста, на такую зарплату прафесар згадзілася б.

Георгій Яўменавіч паглыблена чытаў — "Біржавыя ведамасці" — эканамічны часопіс. Пачуў сакратарку, але галаву ўзняў не адразу; яму падабалася тактоўнасць Алены Іванаўны. Глянуў — і яго што токам ударыла: жанчына збялела.

— Што з вамі?

— Тут... тут, — у адной руцэ яна трымала канверт у другой ліст паперы з кароткім у абзац машынапісным тэкстам. — Калі гэта жарт, то дурны... Хто можа так жартаваць?

Галаван, узняўшыся з крэсла, узяў пісьмо. Глянуў, выхапіў колькі слоў і ў яго пацямнела ў вачах. Баючыся чытаць уважліва, асцярожна, як хворы, апусціўся ў крэсла, палажыў ліст на стол, потым прачытаў павольна, ледзьве не па складах.

Жанчына перакаланалася, што для гаспадара гэта не жарт.

Перачытаў другі раз, трэці...

"Господин Голован, ваша дочь Ариадна находится у нас в заложницах. Пока в целости, сохранности и даже в комфорте. Если хотите увидеть её живую, здоровую, неопозоренную, готовьте мелочь — всего навсего пятьдесят тысяч долларов. Ваше обращение в милицию было бы большой глупостью. Не вздумайте это делать! Нам милиция не страшна. Но дочь вы можете не увидеть. Условия обмена девушки на баксы сообщим по телефону сегодня же. Ждите."

Баяўся ўзняць галаву, бо адчуваў, як спалатнеў. Ды Алена Іванаўна бачыла гэта па белым ілбе і жоўтых, як у нябожчыка залысінах.

— Георгій Яўменавіч, што ж гэта такое? — шэптам спытала сакратарка.

Ён адважыўся глянуць на яе, паварушыў вуснамі.

— Сі-цы-лія.

— Што? — не зразумела яна.

— Вы "Спрут" глядзелі?

— Ах, гэта!.. Божа мой! Як жа жыць з такім? Што рабіць?

— Пра пісьмо нікому ні слова.

— Хіба я не разумею! Але што вам рабіць?

— А што вы параіце? Вы — маці... У міліцыю...

— Не! Не трэба! Георгій Яўменавіч! Не трэба! Што вам паможа наша міліцыя? Яны аператыўную групу будуць два дні сабіраць. Ды нарады праводзіць... Аддайце грошы!

— Пяцьдзесят тысяч!

— Божа! Не будзеце ж вы з імі таргавацца! За роднае дзіця ўсё аддасі.

*(Працяг на стар. 14-15)*

## НА СЦЭНЕ — ДВА ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ



**Звання заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь удастоены акцёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Генадзь Шкуратаў, які аддаў сцэне два дзесяткі гадоў. За гэты час ім сыграна нямала розных роляў у спектаклях "Рамэа і Джульета", "Кароль Лір", "Касатка", "Радавыя", "І паміраючы дрэвы стаяць" і іншых.**

**Вядомы ён і як кінаакцёр. За выкананне ролі Паўла ў фільме "Хам" Шкуратаў удастоены міжнароднага "Оскара".**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## "АЎТАПАРТРЭТ ДРУГОГА"

**Выстава фатаграфіі "Аўтапартрэт Другога", што адкрылася 8 снежня, незвычайная ў двух аспектах — экспазіцыйным і праектыўным.**

**Па-першае, адкрыццё выставы супала з прэзентацыяй у Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы некамерцыйнай галерэі візуальных мастацтваў NOVA. Галерэя пакуль не мае традыцыйнай закрытай экспазіцыйнай прасторы і існуе хутчэй як культурная ініцыятыва групы фатографаў і крытыкаў, што ўсвядомілі той крызісны стан, у якім апынулася беларуская творчая фатаграфія. Незвычайным, на наш погляд, з'яўляецца тое, што галерэя ў дадзеным выпадку сталася часткай аднаго з самых традыцыйных культурных інстытутаў — бібліятэкі. Незвычайным, прынамсі, для нашай мясцовай сітуацыі, дзе яшчэ захоўваецца строгае тэрытарыяльна-культурнае размежаванне на тэатры, музеі, кавярні і г.д. Застаецца толькі спадзявацца, што экспазіцыйная расчыненасць галерэі ў прастору бібліятэкі, яе злучанасць з адной з самых старажытных форм культурнай працы прынясе пазітыўныя вынікі.**

**Акрамя таго, сама прэм'ерная выстава галерэі NOVA аказалася як бы "чыстым праектам": былі выстаўлены практычна ўсе пададзеныя каардынатарам праекта фотатворы. Адсутнасць куратарскай працы з удзельнікамі выставы прывяло да таго, што першапачатковая задума праекта "Аўтапартрэт Другога" пэўным чынам "размылася" ў эклектычнай множнасці індывідуальных падыходаў фотамастакоў. З іншага боку, эклектычнасць фотаэкспазіцыі ў сваю чаргу шмат у чым экспануе нявызначанасць і пэўную аморфнасць фатаграфічнага супольніцтва Мінска. Наколькі можна было высветліць падчас размовы з аўтарамі праекта галерэі сп. Уладзімірам Парфянком і Дзмітрыем Каралём, яны свядома абралі такую экспазіцыйную стратэгію першай выставы дзеля таго, каб выявіць праблематычнасць фатаграфічнага працэсу ў адным з прызнаных цэнтраў сучаснай фатаграфіі.**

**А. БІБЛІК**

## А ПАЧЫНАЎСЯ З ДРАМГУРТКА

**Талачынскія аматары сцэны ўрачыста адзначылі слаўны юбілей свайго народнага тэатра — 75-годдзе. Пачынаўся ён з невялікага драмгуртка, а вырас у добра вядомы ў вобласці і рэспубліцы самадзейны тэатральны калектыў, які ўжо на працягу шэрагу гадоў носіць ганаровае званне "народны". На рахунку яго шмат пастановак па творах беларускіх аўтараў. Апошняя адметная работа — спектакль па п'есе А. Дзялендзіка "Амазонкі".**

**На юбілей тэатра прыехалі госці з Мінска — драматург А. Дзялендзік і шаноўны зямляк — рэжысёр тэатра "Вольная сцэна" В. Анісенка. А прасторную залу раённага Дома культуры дарэшты запоўнілі прыхільнікі народнага самадзейнага калектыву. Былі шчырыя віншаванні, кветкі, апладысменты прысутных. Артысты тэатра паказалі ўрыўкі са сваіх лепшых работ, што яшчэ раз засведчыла іх выканаўчае майстэрства.**

**Нельга не памянуць добрым словам рэжысёра тэатра, дырэктара РДК Святлану Мікалаеўну Васільеву — у поспеху гэтага калектыву яе вялікая заслуга.**

**Алесь МАЗУР**

# ...І КРОПЛЯ РАДАСЦІ Ў ДУШЫ

ХОЦЬ У РЭДАКЦЫЯХ "тоўстых" часопісаў аўтары па-ранейшаму "выстойваюць" чаргу, каб надрукавацца, аднак колішняга напльіву рукапісаў сёння няма. Знізілася прэстыжнасць пісьменніцкай працы. Ганарары, што атрымліваюць аўтары цяпер, нават і параўнаць нельга з тымі, што былі раней. А ў выніку і сярод літаратараў аказалася нямала ахвотнікаў памяняць прафесію, падацца ў бізнес. Сярод "лаўцоў удачы", на жаль, аказаліся і сапраўдныя таленты, хто даўно ўжо заваяваў сваё месца ў літаратуры. А тыя, хто захавалі вернасць прызванню, ці, ва ўсякім разе, са сваім рамяством развітвацца не збіраюцца, найчасцей аддаюць перавагу вялікім жанрам. У прозе — раману, аповесці. А ў выніку апавяданне ў перыёдыцы сустрэнеш рэдка, яно даўно стала непрэстыжным. Тым больш усцешна, калі з'яўляецца нешта, вартае ўвагі.

Кажу гэта, маючы на ўвазе падборку апавяданняў Г. Марчука, змешчаную ў лістападаўскім нумары "Полымя". Прывабнасць ягоных апавяданняў — у жыццёвасці сітуацый, пакладзеных у аснову. Гэта вынікае са здатнасці пісьменніка надзіва ўважліва асэнсоўваць рэчаіснасць, знаходзячы факты, вартыя пільнай увагі, у, здавалася б, будзённым. А яшчэ, што таксама нельга не вітаць, Г. Марчук — вельмі лаканічны і піша па сутнасці навелы.

Гэтым разам іх чатыры. І кожная — пэўны зрэз жыцця, і ў кожнай аўтарская думка скіравана на тое, каб пераканаць, наколькі пасвятлее ў грамадстве, калі дабро стане нормай. Але шлях да духоўнага ачышчэння і маральнага ўдасканалення няпросты. А пакручасты ён таму, што часам, многага патрабуючы ад іншых, мы няздатныя па-сапраўднаму задумацца, як жа паводзім сябе самі, ці заўсёды можам належным чынам, хутка пазбавіцца ад выпадковага, каб засталося тое, што робіць чалавека чалавекам. У гэтым жа ачышчэнні — шлях да ісціны, якой так не хапае ў сённяшнім тлумным свеце.

Падобны шлях праходзіць і герой апавядання "Кома" інжынер-камп'ютэршчык Дзяніс Бранцэвіч. Ён і раней не надта хапаў зоркі з неба, але меў талент, а значыць — і перспектыву. Цяпер жа, як вядома, становішча іншае. І калі ўсім цяжка, дык людзям сумленным, няздатным ісці насуперак сумленню, куды цяжэй: "Бранцэвіч быў даўно злы на ўвесь белы свет, з тых часоў, як рэформы пачаліся. Не змог упісацца ён адразу ў новыя формы адносін "тавар—тавар—тавар", усё прыцэльваўся, няведама на што спадзеючыся". Ды, нарэшце, і спадзяванням, няхай і мройным, бо яны не мелі пад сабой рэальнай асновы, прыйшоў канец. Давялося Бранцэвічу развітацца з працай, падпаў пад скарачэнне. Пасля гэтага, зразумела, настрой у яго стаў яшчэ больш гнятлівы. Зусім чалавек месца не знаходзіў, "ненавідзеў людзей, ненавідзеў краіну сваю, у якой ён, таленавіты, сумленны, не злодзей, а нешчаслівы, ненавідзеў "власть предержащих".

Стан, якому не пазайздросціш. І ў такой няверы ва ўсё лепшае, хто ведае, да чаго можа дайсці чалавек. Магчыма, так здарылася б і з Бранцэвічам, калі б не трапілася яму неяк на вочы газета "Царкоўнае слова". Прачытаў яе і неяк пасвятлела на душы.

Прадчуваю, што ў гэты момант знойдуцца ахвотнікі ўсміхнуцца, маўляў, не можа чалавек так хутка, раптоўна перайначыцца. Ды як сказаць! Прыгадайма душэўны стан Бранцэвіча пасля звальнення. Успомнім, як не хапала яму спагады. Задумаемся, а як патрэбна чалавеку адысці ад усяго звыклага ў крытычны момант. Тады адразу стане зразумелым, што інакш з героем твора і быць не магло.

Г. Марчук, дзякуючы сваёй псіхалагічнай чуйнасці, здолеў уважліва "прачытаць" душу Бранцэвіча, калі лёгка (безумоўна, пры належным уменні) зразумець, што чалавека хвалюе і чаго яму так не стае. А не ставала Бранцэвічу аддушыны, у якой акумулююцца дабро, спагада, шчырасць. Нельга сказаць, што пасля знаёмства з газетай ён знайшоў адказ на ўсе пытанні. Але і нельга не сказаць таго, што Бранцэвіч стаў іншым. З'явілася разуменне, што яшчэ не ўсё страчана. Пакуль яно прыйшло для аднаго Бранцэвіча, блізкія пра гэта не здагадваюцца. А сам ён — сам ён не можа заставацца ранейшым: "Жонка, баючыся зачапіць мужа, разагрэла боршч, запраўлены салам, якое перадала ёй з вёскі сястра. Запрасіла вячэраць. У душы ён і жонку пашкадаваў. "І чаго я яе забіць хацеў разам з сабою? Дурны. І без таго жыццё кароткае. Пазваню заўтра былым сябрам. Не можа быць, каб усе спаганіліся, азвярэлі. Знайду работу. Каб дзяцей на ногі паставіць... І ўсё..." Упершыню ён і на неба, якое развітвалася з апошнімі сонечнымі промнямі, глянуў з замілаваннем".

У Бранцэвіча на душы пасвятлела, нават пасвяжэла, але колькі яшчэ зла наўкола?! І як шмат ахвочых яго рабіць... Ды і нямала такіх, з чыёй маўклівай згоды яно пускае парасткі. А часта жаданне старонніх людзей не ўмешвацца, застацца ўбаку і да бяды прыводзіць. Як у апавяданні "Крыніца" — творы, напачатку нейкім шчымліва-зачараджаным, не пазбаўленым лірычнасці, а ў канцы самотліва-журботным.

Жыла ў правінцыйным гарадку простая дзяўчына Оля, была з тых, пра каго звычайна кажуць, што яны з няпоўных сем'яў. "Бацька яе паехаў гадоў дзесяць таму на Сахалін у заробкі, так і не вярнуўся. Ведаючы круты нораў свайго чалавека, Оліна маці ўсё чакала, баялася другі раз замуж выходзіць, а раптам без папярэджвання накінецца дахаты, ды заб'е яшчэ", а Оля гадавалася неяк абасоблена, "усё на вуліцы, і ў школе, і ў паліклініцы лічылі Олю трохі як бы не пры сваім розуме, не так, праўда, каб запісаць яе ў зусім ненармальныя, але ж не сумняваліся, што яна з "закідонамі". Ды пра такіх яшчэ і інакш кажуць — хоць і з "закідонамі", але "ціхія". Ва ўсякім разе дзівацтвы Олі хоць і кідаліся ў вочы, але былі не такія, што прымушаюць адварочвацца ад чалавека. Прынамсі, Оля вельмі любіла хадзіць па ваду да крыніцы, хоць і паставілі на вуліцы калонку з помпай. І не проста хадзіла, а кожным разам пераапраналася ў святочную сукенку. І, увогуле, гэта быў для яе быццам нейкі, адной ёй вядомы, рытуал: "Па дарозе Оля ніколі не забывала першай ветліва прывітаць усіх, хто трапляўся насустрач. Часта ў хатах, у якіх за мітуснёю забывалі пра кніжку, пра Бога, нехта раптам выгукаваў: "Вунь Оля па ваду пайшла". І ўсе, як па камандзе, ліплі да вокнаў, усім на нейкі момант рабілася спакайней і прыемней на душы".

Так і доўжылася для яе свята, што ў пэўнай ступені кранала і іншых. І хто ведае, як бы доўга яшчэ адбывалася гэта, калі б не вярнуўся ў маі "з турмы завадатар хуліганаў усяго чыгуначнага квартала Сцёпа, якога ўсе больш ведалі, як Сцёпка Шпала". Нікому праходу не даваў, усе яго баяліся. А Оля даверылася, калі прапанаваў разам прайсціся да крыніцы. І паплацілася — Сцёпка згвалціў дзяўчыну. І ў далейшым зло не было пакарана. Напалоханыя бацькі насільніка "прыйшлі да Олінай маці і грашыма далі адкупную, каб не падавала на суд. І маці, праплакаўшы ноч, згадзілася з іх прапановаю".

Завяршаецца твор на шчымліва-балючай ноце. І таму, што пасля ўсяго, што здарылася, Оля "перастала апранацца ў сваю святочную, просценькую, але па-моднаму пашытую сукенку" і ўжо не хадзіла па ваду да крыніцы, а толькі да калонкі. І таму, што гэтае здарэнне наклала адбітак на ўсё жыццё... — "Сама вуліца выгляд мела шэры, сумны... і людзі на ёй адчувалі сябе затурканымі, нікчэмнымі, забытымі Богам".

Калі у Г. Марчука традыцыйнае вырашэнне жыццёвых сітуацый, дык Р. Баравікова ў апавяданні "Ля берагоў Аўстраліі", таксама змешчаным у "Полымі", дае свабоду фантазіі. Твор чытаецца лёгка, інтрыгуюча, характар галоўнага героя выпісаны з тым дабротным псіхалагізмам, калі ўзнікае адчуванне, быццам чалавека даўно ведаеш.... Разам з тым усё, пра што расказваецца, знаходзіцца ў свеце немагчымага. Але якраз фантастычныя моманты і надаюць апавяданню арыгінальнасць. Тыя, хто ўважліва сочыць за творчасцю Р. Баравіковай, ведаюць, што гэта не першы зварот слыннай паэтэсы да жанру прозы. Што ж, і ў апавяданні Р. Баравікова таксама адчувае сябе ўпэўнена, як і ўменню валодаць сюжэтам, псіхалагізму могуць павучыцца і асобныя з тых, хто даўно піша апавяданні. Прывабнасць напісанага Р. Баравіковай яшчэ і ў тым, што гэта новы падыход да матэрыялу, новы погляд на жыццё. А такая якасць для творцы заўсёды патрэбная.

Дарэчы, гэта і меў на ўвазе М. Танк, калі 25 ліпеня 1963 года зрабіў у сваім дзённіку такі запіс: "Я баюся страціць здольнасць па-новаму глядзець на ўсё, што робіцца на свеце, бо ведаю, як лёгка прывыкаюць ногі да старых ботаў, вочы — да вобразаў, вушы — да песень, і чалавек пачынае старэць, не разумець тых змен, якія адбываюцца навакол яго".

І таксама ў "Полымі" — даволі ладная падборка з кнігі Я. Пфляўмбаўм "Зімовае сонца", з кнігі, што так і не выйшла пры жыцці паэтэсы. А ў гэтай падборцы і такі безыменны верш, які, дарэчы, і завяршае яе:

*Яшчэ ты не знаеш, бялюткі лісток,*
*Якім будзе слова з туманных аблок,*
*Што тут адаб'еццa ў тваёй чысціні,*
*Запаліць яно ці пагасіць агні,*
*А можа, само, не зазнаўшы глыбінь,*
*Само, не пачуўшы, як звоніць Хатынь,*
*Як стогне душа, там дзе пусткі дымяць,*
*Сябе яно, можа, запрагне суняць.*
*Як трэба нам змоўчваць, калі мы крычым*
*І сэрцам і думкай —*
*найбольш уначы.*

Чытаеш гэты твор і іншыя — і каторы раз здзіўляешся, якая ўсё ж загадка яго вялікасць талент. Я. Пфляўмбаўм, як вядома, выступіўшы ў 1926 годзе разам з Н. Вішнеўскай і З. Бандарынай у калектыўным зборніку "Вершы", надоўга як бы адышла ад літаратуры. Другое яе творчае нараджэнне стала магчыма толькі ў 1989 годзе, калі выйшла кніга "Сувой жыцця". І гэта стала адкрыццём таленавіцейшага паэта. Якое шчасце, што адна кніга Я. Пфляўмбаўм яшчэ наперадзе. Верыцца, як цяжка ні даводзіцца сёння кнігавыдаўцам, а яна ўсё ж пабачыць свет.

А яшчэ ў "Полымі" — вершы М. Мятліцкага, якімі, дарэчы, нумар і адкрываецца. Не сказаў пра іх напачатку, бо маю намер неўзабаве прарэцэнзаваць яго кнігу "Бабчын". У яе ўваходзяць і згаданыя творы. А кніга гэтая — і свайго роду працяг папярэдняга зборніка паэта "Палескі смутак". Але гэта і якасна новае асэнсаванне чарнобыльскай тэмы. І тое слова пра землякоў, на якое здатны толькі творцы, якія не на словах, а на справе зніатаваны са сваімі землякамі. Пішучы кнігу "Бабчын", М. Мятліцкі як бы будуе вёску... Бабчын. Не адбудоўвае тую, якая ўжо больш як дзесяць гадоў назад пакінута яе жыхарамі, а "будуе" ў літаратуры. І гэта не менш цяжка, чым у сапраўднасці. Ды талент дазваляе паэту здзейсніць падобную задачу, якая па сіле далёка не кожнаму.

...З-за розных выдавецкіх і паліграфічных няўвязак цяпер рэдка надараецца які месяц, каб усе чарговыя нумары часопісаў своечасова пабачылі свет. Лістапад быў прыемным выключэннем. Не запазнілася і "Маладосць", у якой багаты як "паэтычны сшытак" (М. Ляшчун, С. Басуматрава, М. Віняцкі, К. Камейша, А. Дуброўскі), так і "празаічны" — В. Какорыч, А. Кудлаты, В. Ткачоў, У. Міхно, М. Капыловіч. Але "матэрыял нумара" — гэта вяртанне да У. Караткевіча. Н. Кучкоўская-Караткевіч і Г. Шаблінская ("З табой мы адны перад Богам...") расказваюць пра маленства Уладзіміра Сямёнавіча. У наступным нумары працяг матэрыялу.

І, канечне ж, зацікаўленага чытача знойдуць адказы на анкету "Вартасць эксперымента ў літаратуры", падрыхтаваныя Ю. Станкевічам. З усіх адказаў, несумненна, вылучаецца адказ А. Федарэнкі. Сапраўды ўжо, калі маеш талент, дык і здатны сур'ёзна, аб'ектыўна разабрацца ў самых розных рэаліях творчага жыцця. І няма ніякай патрэбы абвінавачваць крытыку, што яна цябе не заўважае ці не разумее. Пішы належным чынам і — напісанае застаецца. Пры адной умове, праўда, — калі яно таленавітае, а не звычайная спроба падацца арыгінальным, якая найчасцей мае месца там, дзе няма звычайнага мастакоўскага дару.

Шмат цікавых матэрыялаў у "Беларусі" (вершы С. Басуматравай, гутарка М. Тычыны з А. Вярцінскім "Дыялог пра паэзію на фоне "палітычнага шэсця", размова Б. Крэпака з Г. Паплаўскім "Жыццё — гэта бясконцыя дарогі, сустрэчы..." і іншыя), у "Нёмане" (найперш пачатак публікацыі апошняга рамана І. Чыгрынава ў перакладзе У. Жыжэнкі на рускую мову з уступным словам А. Кудраўца, у якім некалькімі словамі так шмат і вычарпальна сказана пра гэтага выдатнейшага сучаснага беларускага пісьменніка, а таксама артыкул У. Снапкоўскага "Лідэры", раздзелы з кнігі І. фон Ланга "Марцін Борман: чалавек, які камандаваў Гітлерам" у перакладзе В. Тараса)...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## ПРАЗАІК, ДРАМАТУРГ, ВЫДАВЕЦ

Анатолю КУДРАЎЦАВУ—50



**Літаратурнай працай Анатоль Кудраўцаў займаецца з 1965 года, піша па-руску і па-беларуску. Аўтар зборніка "Минск и минчане" (1973), выдаў кнігу апавяданняў і аповесцяў "Бессонница" (1990). Шырокую вядомасць набыў дзякуючы сваёй драматургічнай творчасці: аўтар п'ес "Иван" (1985, пад назвай "Иван и Мадонна" апублікавана ў зборніку п'ес "Вдоль деревни", Москва, 1986: пастаўлена ў 1986 годзе), "Мар'я" (пастаўлена ў 1986 годзе), "Как цари жили" (1988, пастаўлена ў 1989 годзе), "Суд" (1989, пастаўлена ў 1990), "Донати промазала" (1990), сцэнарыяў мастацкіх фільмаў "Зачем человеку крылья" (1984), "Затянувшийся экзамен" (1985), "Іван" (1982), "З юбілеем пачакаем" (1985), "Чалавек, які браў інтэрв'ю" (1986) і некалькіх дакументальных стужак.**

**А нарадзіўся А. Кудраўцаў у вёсцы Вусць-Дзёміна Ельнінскага раёна Смаленскай вобласці (Расія). Скончыў Мархоткінскую сярэднюю школу, настаўнічаў, быў інструктарам Ельнінскага райкама камсамола, карэспандэнтам раённай газеты "Знамя". У 1965—1971 гадах вучыўся на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, адначасова працаваў спецыяльным карэспандэнтам смаленскай абласной маладзёжнай газеты "Смена" (1967—1968), літсупрацоўнікам газеты "Вячэрні Мінск" (1968—1972). З 1972 года — адказны сакратар "Вячэрняга Мінска", з 1977-га — галоўны рэдактар творчага аб'яднання "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм". У 1982—1985 гадах быў членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі "Беларусьфільма".**

**Цяпер працуе прэзідэнтам фірмы "Інтэрдайджэст".**

**Віншуем Анатоля Іванавіча з 50-годдзем!**

**Жадаем яму плёну ў жыцці, творчасці і выдавецкай дзейнасці!**

## "СМЕРЦЬ ПІЯНЕРА-3"



**— так называецца выстаўка канцэптуальнага мастацтва, якая праходзіць у гэтыя дні ў галерэі "Шостая лінія".**

**Мастак Артур Кліноў прадставіў на суд гледачоў калекцыю рытуальнай мэблі. У асноўным гэта катафалкі. Зроблены яны аўтарам уласнаручна з самых разнастайных матэрыялаў.**

*На здымку: аўтар выстаўкі Артур Кліноў.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

ЗГАДКІ

# "УСЁ Ў КРАЮ ТЫМ СЭРЦУ МІЛА..."

Увесь яе жыццёвы і творчы шлях — гісторыя, вартая многіх раманаў. Першыя вершы Канстанцыі Буйло былі надрукаваны ў 1909 годзе ў газеце "Наша Ніва". У 1914 годзе выйшла першая яе кніга "Курганная кветка", адрэдагаваная Янкам Купалам. З 1923 года жыла ў Маскве, была хатняй гаспадыняй. Памерла ў 1986 годзе. Як быццам, нічога звышардынарнага. Калі б не паэзія, якая — лёс яе, жыццё яе, бяда і радасць яе. Жыць у Маскве — і бачыць у снах Беларусь, жыць у Маскве — і не забыцца на роднае слова... Мусіць, адны лекі даюць падставы на такую трываласць — любоў да роднага краю. Вось і верш яе з той першай кнігі называецца: "Любоў..."

***Люблю наш край, старонку гэту,***
***Дзе я радзілася, расла,***
***Дзе першы раз пазнала шчасце.***
***Слязу нядолі праліла.***

Радкі гэтыя вядомы ўсім. У вершы тым, што даў нараджэнне песні, ёсць і такія словы:

***Усё ў краю тым сэрцу міла,***
***Бо я люблю край родны мой,***
***Дзе з шчасцем першым я спазналася***
***І з гора першаю слязой.***

Як мне падаецца, у жыцці, характары, творчасці Канстанцыі Буйло выразна заўжды выяўлялася суперажыванне з людзьмі, з народам. Таму, мажліва, гэтак цёпла і ставілася Канстанцыя Антонаўна да кожнага са сваіх знаёмых.

У першым томе біябібліяграфічнага даведніка "Беларускія пісьменнікі" ў артыкуле пра К. Буйло чытаем: "Сябравала з У. Луцэвіч, перапісвалася з ёю". Факт вядомы. Увогуле, дзякуючы руплівай даследчыцкай працы Дзіяны Цімафееўны Чаркасавай, многія акалічнасці жыцця К. Буйло, яе повязяў з Беларуссю добра вядомыя сёння. Адно шкада, што ўсяго адну кніжку маем мы пра славутую паэтку, якая ў іншай літаратуры была б нацыянальнай легендай. І зноў жа — кніга гэтая належыць пяру Д. Чаркасавай ("Люблю", Мінск, 1978).

Але, калі не памыляюся, нідзе не згадваецца імя Настассі Пятроўны Дзятлоўскай. Вось і давайце зробім невялікі экскурс па старонках лістоў і паштовак, што былі адрасаваны К. Буйло сваёй мінскай карэспандэнтцы, сяброўцы. Зараз уся гэтая карэспандэнцыя захоўваецца ў сыноў Настассі Пятроўны — вучоных-фізікаў Леаніда і Уладзіміра Пікулікаў.

Відавочна, што з Канстанцыяй Антонаўнай Дзятлоўская пазнаёмілася ў час вайны, калі знаходзілася ў Маскве ў эвакуацыі як работнік беларускага ўрада. Пазнаёмілася, дзякуючы Уладзіславе Францаўне. А як вярнуліся на вызваленую Беларусь, у Мінск, пачалося актыўнае ліставанне.

Пра што сведчаць многія і многія лісты? Безумоўна, калі б можна было прачытаць пісьмы ад Настассі Пятроўны, карціна атрымалася б больш поўная. І ўсё ж... У меншай ступені Канстанцыя Антонаўна вядзе размову пра мову, пра творчыя клопаты. Піша ў асноўным пра жыццё, побыт.

Часта К. Буйло пісала пра адносіны з сынам, нявесткаю. І ў яе — паэткі вялікага гарту — усё як у звычайных смяротных: "Сейчас у меня часто бывает мой чудесный, красивый, умный внук. Он проходит практику в ин-те Курчатова, а теперь оставлен здесь на год для работы над темой, заданной И-том на предмет защиты диплома. С отцом — да и со мной он встречается как приветливый гость. Конечно — он не привык к нам и это понятно. Он уже получил предложение после защиты диплома — остаться в университете при том же И-те. Это огромный успех. С ним на практику приезжала и девушка, кот. является

# ВЫКРАДАННЕ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

— За дзіця аддасі... — згадзіўся Галаван. — За Рыначку... Вы ж знаеце, як я яе люблю.

— Я знаю.

— Не пускайце да мяне нікога. Мяне няма. Я буду чакаць іх званка.

Застаўшыся адзін, Галаван, не давяраючы сакратарцы, зачыніў дзверы на замок і хадзіў па кабінеце, па мяккім ліноліуме, які глушыў крокі. Але ён хадзіў што па мінным полі, не падымаючы ногі, — баяўся, што не пачуе тэлефоннага званка. Яго апанаваў панічны страх. Нават не за дачку, Рыну ён выкупіць, — за сваю неабароненасць і бездапаможнасць. Думаў:

"Што ж гэта за грамадства? А я яго слаўлю. Суцэльны бандытызм у самых неверагодных відах. З дагістарычных часоў чалавецтва не знала нічога падобнага". Але розум шукаў суцяшэння. "А калі гэта розыгрыш? — і бадай узрадаваўся. Можа быць розыгрышам. Вельмі можа быць, — хапаўся што тапелец за саломінку. — Але хто здатны на такое?

— Толькі сама Рына.

Пазваніў на дачу Антаніне.

— Дзе Рына?

— З раніцы паехала ў горад.

— На машыне?

— На машыне. А што? Што здарылася?

— Не, нічога. Мне трэба яе машына.

Першы званок — што гарматны стрэл. Бухнуў снарад — і... не разарваўся. І ён баяўся дакрануцца да яго — да трубкі. Не, Дзіюк — з падатковай інспекцыі. Выявілі, што на адной з яго бензакалонак ажно ў Смаргоні недзе няма дагэтуль касавага апарата.

— Я не закрыў калонку. Але прашу цябе.. каб рапартаў больш не паступала. Тыдня хопіць? Ёсць жа яны, апараты.

— Дзякуй, Яўген Васільевіч.

Ён павінен займацца апаратамі! Трэба даць наганяй памочнікам. Але не да таго. Падумаў, праўда пра тое, пра што думаў раней: даў маху з набыццём калонак на трасе Вільнюс-Мінск. Захірэла траса. Але магістраль Брэст—Орша паспелі захапіць большыя акулы. Адагнаў прэч думкі пра справу. "Рына! Арыя! Ах, Арыя! Так я дрыжэў над табой, малой. Маме смешна было! Каб толькі не ўчынілі бандзюгі здзек над табой, малышка мая. Калі што — з-пад зямлі дастану звяроў гэтых!" — падумаў, хоць добра усведамляў, што нічога ім не зробіць: з мафіей не паваюеш, яна да цябе хутчэй дабярэцца.

Зноў званок. Ажно з Прагі. Партнёр. Калі ён прыедзе?

— Калі я прыеду? Янаш! Я дам заўтра факс. Заўтра!

— У цябе нарада?

— У мяне нарада.

— Любіце вы, рускія, засядаць, — смяяўся чэшскі партнёр.

— Мы — не рускія, мы — беларусы, а яны — яшчэ больш любяць пагаварыць.

Чаканне страшнага званка і званкі, якія стрэлам аддаваліся ў акрываўленым бацькоўскім сэрцы, — ператварыліся ў пакуту. Георгій Яўменавіч ледзьве не млеў. Хацеў было ўжо паклікаць Алену Іванаўну, можа, у даверлівай размове з ёй, лягчэй было б чакаць. Але... Нарэшце... Здагадаўся па званку — нейкі ненатуральны, падобныя бываюць міжгароднія раённыя — з той жа калонкі ў Смаргоні, той, што пазваніў, не адразу адгукнуўся, хоць Галаван алёкаў.

Кароткае пытанне:

— Ты?

— Я. Галаван.

— Слухай. Заўтра ў адзінаццаць. На дарозе Заслаўль — Дзяржынск, пры павароце на Валоўшчыну напроціў бункера. Стары чырвоны "жыгуль". Ты адзін. "На сваім "мерсі" спынішся ў прыцірку. Убачыш яе. Перадаеш нам кейс. На ключ не зачыняць! Мы правяраем. Выпускаем яе. Ты прынімаеш свой скарб. І мы раз'язджаемся. Любы іншы манеўр можа дорага каштаваць. Усёк?

— Ёсць нюанс. Я не паспею зняць паперкі. Сёння ўжо зачынены. А яшчэ дарога. Прашу на дванаццаць.

— Не цямніш?

— Я вас не ведаю, вы мяне ведаеце.

У трубцы зашуршала: яе заціснулі далоняй. Перамаўляюцца. Не адзін, значыцца. Безумоўна, адзін на такое не пойдзе.

— Згода. Але — засячы на носе.

— Засёк.

— Гуд бай.

Як бы і палёгка: зваліўся самы цяжкі камень — Рына будзе ўратавана!

Узбуджана хадзіў па пакоі. І раптам... не помніў пасля, у спалучэнні якіх думак, упершыню за дзве пакутныя гадзіны успомніў жаніха — Фелікса. Абпякла думка:

"А ці не ты, каштанавы авантурыст?"

Наняты тыдзень назад дэтэктыў нямнога выведаў з біяграфіі Гельбаха — дзе нарадзіўся, хто бацькі, дзе вучыўся. Але пра агенцтва яго даведаўся ўсё: адрас, колькасць работнікаў — двое мастакоў, акрамя гаспадара, віды работ, фінансавае становішча рахунку ў банку больш чым нікчэмнае. Галяк! Хоць на рэкламе можна добра зарабіць.

"Ці не за мой кошт ён хоча паправіць сваё становішча?" Дык я цябе выведу на чыстую ваду! Жаніх! Ведаем мы такіх жаніхоў!" Шчоўкнуў замком — і ту жа ўвайшла Алена Іванаўна, як ля дзвярэй стаяла.

Спытала шэптам:

— Званілі?

— Званілі.

— І што?

— Заўтра я павязу ім грошы. Няхай падавяцца.

— Разумны вы чалавек, Георгій Яўменавіч.

— Дзякуй. А цяпер я наведаюся да аднаго чалавека.

Агенцтва Гельбаха было ў мікрараёне ў звычайнай кватэры на чацвёртым паверсе.

Невысока, а задыхаўся — ад хвалявання.

Дзверы адчыніў хлапчына ў чорным халаце з пэндзлем у руках. Калідорчык быў застаўлены рэкламнымі плакатамі. Моцна пахла фарбай.

— Гаспадар дома? — спытаў Галаван, можа, залішне ўзбуджана.

— Фелікс? — і крыкнуў — Данатавіч! Да цябе!

Выйшаў Гельбах адзеты як пад вянец — чорная пара, чырвоны гальштук.

Галавану здалося, што, убачыўшы яго, Фелікс спалохаўся, і узбуджанасць узнялася да ліхаманкавага стану, бадай ніколі ў жыцці так не ўзбуджаўся.

Як толькі хлапчына пайшоў у пакой, які, мяркуючы па беспарадку ў ім, служыў майстэрняй, Галаван наблізіўся да мастака твар у твар.

— Дзе Рына?

Фелікс апасліва адступіў і збялеў.

— А што? Што з ёй? Дзе яна?

— Я ў цябе пытаюся, дзе яна?

— Я не знаю.

— Не знаеш? — Галаван схапіў яго за лацкан пінжака, скамячыў яго. — Слухай! Калі ты маеш да гэтага дачыненне, я размажу цябе па гэтай сцяне.

— Да чаго? Што вы, бацька?

— Я табе не бацька! І бацькам ніколі не буду! Рыну ўкралі.

— Укралі? — Фелікс шчыра здзівіўся і, здалося, пабялеў натуральна. — Хто?

— Хто — хто... — зарад гневу, узбуджанасці, выстраліў халастой пітардай; паверыў, што каштанавы жаніх не мае да страшнай авантуры дачынення. Павярнуўся да выйсця.

— Вы хоць растлумачце толкам, што здарылася. Я не чужы ёй чалавек.

Гэтае "не чужы" зноў завяло, настроіла супраць "жаніха". Галаван мацюкнуўся:

— Сваячкі, такую вашу! Прыліпалы! — і ляпнуў дзвярамі.

Праехаўшы паварот, Галаван здалёк убачыў чырвоны "жыгуль". Машына не з'ехала на ўзбочыну, стаяла амаль жа пасярэдзіне вузкай шашы. Нага сама скінула газ, бо раптам апанаваў страх, і ён як бы вымушаў адцягнуць хвіліну сустрэчы. З Мінска гнаў "мерседэс" з

его невестой. Но ее не оставили — она уехала обратно. А невестки наши еще, ко всему прочему, и ревнуют наших сыновей к нам. В этом тоже причина всяких осложнений..." (гэта з ліста ад 20 красавіка 1964 года).

Ёсць і яшчэ больш горкія, больш балючыя старонкі-прызнанні. Ды такое, відаць, няпростае і нялёгкае жыццё. І ў Канстанцыі Антонаўны, і ў Настасіі Пятроўны. Мабыць, цяжкасці, здольнасці суперажываць, адгукацца на боль, здавалася б, чужога чалавека, — якраз гэта аб'яднала паэтку з Дзятлоўскай.

Трымаю ў руках лісты, пазначаныя 1945 годам. Толькі закончылася вайна. Дзятлоўская ўжо — у Мінску, працуе ў беларускім урадзе. Канстанцыя Буйло піша сваёй сяброўцы: "Родненькая мая Настачка!Вось давялося звярнуцца да цябе як да афіцыйнага ліца. Пасылаю табе вось лісты, адрасаваныя розным установам, да якіх маёр Безін, узяўшы да сябе беларускага хлапчука, не раз звяртаўся, і ні разу не атрымаў адказу. Было б добра — каб яны пашлі з Вашымі даручэннямі даць патрэбныя пасведчанні — без чаго хлапчук не можа ні атрымаць прадуктовыя карткі, ні паступіць у школу. Маёр Безін быў у мяне з гэтым хлапчуком. Разумны, скромны, але з цвёрдым характарам узрослага чалавека — і ўсё ж такі з выдатнымі праявамі нашага беларускага адбітнага зусім характару — трохі сумнага, трохі лагоднага — гэты хлапчук зрабіў вялікае ўражанне. Таму і прашу цябе, Настачка, зрабіць так, каб ён найхутчэй атрымаў патрэбныя яму дакументы, а то і весці, дзе яго маці. Думаю, што ты зробіш што трэба. Прашу цябе напісаць мне найхутчэй. Ён будзе прыходзіць да мяне наведвацца, які будзе адказ..."

Канстанцыі Антонаўне баліць за ўсіх. Душа прымушае яе трывожыцца, непакоіцца і за незнаёмага хлопчыка. У тым жа лісце Буйло цікавіцца, як там маецца Уладзіслава Францаўна. І пісьмо заканчвае наступным чынам: "...Як вы там жывяце? Даўно ад вас няма нічога. Не зусім добра памятаю адрас Алесі (маецца на ўвазе Алеся Александровіч. — **А. К.**). Толькі абавязкова напішы мне найхутчэй усё аб сабе, Алесі, Владцы. Сумна мне тут без вас..."

Настасся Пятроўна адгукалася на ўсе просьбы, запыты К. Буйло. Хадзіла па яе пытаннях у Саюз пісьменнікаў, у Літфонд. Ёсць нават заявы К. Буйло з просьбай перадаць ці то пуцёўку ці членскі білет праз Настассю Пятроўну.

Дзятлоўская садзейнічала і атрыманню Канстацыяй Антонаўнай пенсіі. Пра гэта можна меркаваць з ліста К. Буйло ад 10 ліпеня 1961 года: "Дорогая моя Настенька! Сегодня получила от Н. Г. Ткачева следующее письмо: "Для оформления пенсионного дела вам необходимо выслать в наш адрес следующие документы:

1. Личный листок отдела кадров.
2. Автобиографию.
3. Справку о получении гонорара за последний год, по месяцам.
4. Медицинское заключение..."

Я помню, что ты говорила мне, что ни справки о заработке, ни мед. свидетельства не надо. Так ли это..." І далей — з таго ж ліста: "Уточни, родная, что мне надо ему выслать".

А пасля, як атрымала пенсію, горача дзякавала Дзятлоўскай за падтрымку.

Адчуваецца, што свайго роду з'ядноўваючым звяном у гэтых зносінах выступала Уладзіслава Францаўна, удава Янкі Купалы. Вось — вытрымка з ліста ад 20 красавіка 1959 г.: "Два дня тому назад получила письмо от Владки... Собирается Владка в Москву после того, как ты вернешься домой из Крыма. Может быть, это и хорошо, ёй следует переменить обстановку, немножко встряхнуться. Я помню, как съезд писателей взбодрил ее. Она чувствовала себя лучше. Вчера мы с Борей ездили в крематорий на могилу Янки. Поставили цветы, от Владки, чтобы могила к 1 мая была нарядной. Сегодня подробно описала все Владке. Написала, что жду ее к себе, что пусть привезет все анализы и мы обратимся к самым высоким медицинским светилам — Лурье, Виноградову..."

І з ліста ў ліст — самая высокая павага, любоў да Уладзіславы Францаўны. Жанчын гэтых — Буйло і цётку Уладзю — яднала, зблізала многае. І, канешне ж, даўняе знаёмства. Таму і зразумелыя наступныя словы ў лісце К. Буйло да Дзятлоўскай у красавіку 1959 г. (нагадаем: незадоўга перад смерцю цёці Уладзі, памерла ж яна ў 1960 г.): "Очень хочу ее видеть и сердце болит за нее ужасно. Но что надо сделать, чтобы все было хорошо? Настулька моя хорошая, я ей не пишу, что получила от тебя письмо — и о чем оно. Боюсь ревности. Думаю, что лучше не говорить ей, что я тебе пишу, а то скажет: "Ты всем пишешь одинаково" — как это было однажды. Я принадлежу ей одной — так это быть должно. Слишком много вместе пережито, слишком тесно переплелись наши судьбы. Ее я люблю как мать, как сестру, как самого близкого мне человека. А теперь люблю в тысячу раз больше — такую слабенькую, беспомощную, и такую близкую мне, мою родную Владку... совсем не знаю, как и что делать, чтобы ей помочь. Уж там ты и Мария Борисовна самые близкие ей люди, любите ее, навещайте и берегите за меня".

Балюча ўспрыняла Канстанцыя Антонаўна смерць цёці Уладзі. І пра гэта ёсць у пісьмах да Дзятлоўскай.

З цікавасцю чытаюцца тыя старонкі, дзе Канстанцыя Антонаўна піша пра сына Яўгена. Піша з высокім пачуццём матчынай радасці. З ліста ад 13 красавіка 1962 года: "С Женей очень дружим. Он читает мне свой труд о логике. Я собираюсь послать этот труд, когда он будет закончен, в одном экземпляре и Кириллу Трофимовичу. Пусть познакомится, до чего додумался сын Кон. Буйло. А нового там много и важного также. Так говорят авторитетные лица... Один из этих томов лежит у меня на столе с заглавием: "Об основах материалистической теории познания. Путь от незнания к знанию". Посмотрим, что выйдет из этого. Женя говорит, что этим трудом хочет выполнить завет отца. Отец говорил сыну: "Человек, не знающий логики, не может быть культурным человеком". Так говорил отец мальчику, а теперь сын-мужчина пишет большой труд о логике. И пишет уже давно. Работает он над ним уже 20 лет..."

Настасся Пятроўна Дзятлоўская памерла шмат раней, чым яе старэйшая сяброўка. К. Буйло выказала словы глыбокага жалю, спачування дзецям Настассі Пятроўны. Браты Пікулікі і сёння трымаюць у памяці вобраз вялікай беларускай паэткі, не абыходзяць увагай ніводную згадку пра яе ў друку. І беражліва захоўваюць дзесяткі пісьмаў К. Буйло, якая адрасавала свае гарачыя, цёплыя лісты іх высакароднай маці.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

---

недазволенай хуткасцю, робячы рызыкоўныя абгоны. Лабавое шкло ў "жыгулях" як бы затаніравана: не відаць ні постаці шафёра, ні пасажыра. Не, вадзіцель сядзіць; убачыў яго, калі пад'ехаў упрытык, пачаў тармазіць, — малады, бялявы хлапец, з выгляду — сама наіўнасць, юнацтва.

"І такія ўжо бандыты."

Спыніўся бадай жа ўпрыцірку, на адлегласці працягнутай рукі. І тут жа пачуў голас Арыядны:

— Тата! Татачка!

Убачыў яе на заднім сядзенні побач з бамбізай з бандыцкай мордай, які спалохаў.

Працягнуў шафёру не дыпламат — папку, у якой ляжалі зялёныя — пяць банкаўскіх пачак па дзесяць тысяч. Вадзіцель расшпіліў папку, зазірнуў, перадаў бамбізе.

— Усё ў парадку, — сказаў той і выскачыў з машыны, выпусціў Арыядну. Тая стрымгалоў кінулася ў бацькаў "мерседэс".

Георгій Яўменавіч уміг уключыў перадачу, рвануў і за хвіліну набраў гранічную хуткасць. Ляцеў куляй, як баяўся, што бандыты гоняцца.

За спіной яго Арыядна гучна заплакала. Плач яе разануў сэрца.

— Яны здзекаваліся з цябе?

— Не. Не здзекаваліся.

Адлягло.

— А не здзекаваліся — дык няма чаго раўці! — сказаў сярдзіта.

— Няма чаго... Лёгка табе казаць.

— Мне лёгка. Мне ўсё лёгка. Лёгка пяцьдзесят тысяч выкінуць...

— Табе шкада грошай?

— Рыначка, дзіця маё. За цябе я жыцця не пашкадую.

— Дзякуй, тата.

Толькі на развязцы пры выездзе на гродненскую магістраль, скінуў хуткасць — апамятаўся: пасля такога стрэсу — і цяпер рукі калоцяцца — нядоўга і да аварыі, сам можаш угробіць роднае дзіця. Па кальцавой ехаў з асцярожнасцю навічка.

Антаніна абняла дачку і голасна заплакала. І таксама спытала:

— Яны здзекаваліся з цябе, Арыначка?

— Калі вы хочаце спытаць, ці згвалцілі яны мяне, то кажу вам: не! не! не! — адказала Арыядна чамусьці раздражнёна, злосна.

Антаніна Прохараўна спалохана азірнулася: ці не чуюць суседзі. Антаніна Прохараўна, якая па характары сваім не вызначалася асаблівай пяшчотнасцю, лашчыла "няшчасную палонніцу", як магчыма не лашчыла і ў маленстве... А бацька, які сапраўды такі лашчыў любіміцу сваю, быў, як ніколі стрыманы, бадай суровы і раздражнёны, што самога здзіўляла і засмучала. З-за чаго? З-за зялёных? Але хіба дзіця не даражэй?

— Дзе цябе ўзялі?

— Я перабегла праспект ад "Бярозкі" на пляцоўку каля палаца спорту, дзе пакінула машыну, на праспекце нідзе ж і спыніцца нельга... Нарабілі забарон. Нідзе ў свеце няма. Паланезія! Яны падышлі двое, адзін у форме. "Прайдзіце з намі". Я падумала, што перайшла там, дзе нельга. "Я заплачу штраф", — сказала я ім. Але яны сілком упіхнулі мяне ў сваю машыну...

— А твая машына? Там і засталася?

— Можа, стаіць?

— Можа і стаіць, калі не прычапілі ёй пятае кола.

Галаван тут жа пазваніў у офіс Алене Іванаўне, каб знайшла Якава Кузьміча, шафёра, і каб той паглядзеў, ці не стаіць каля палаца спорту Арыядніна "таёта". Той праз паўгадзіны з'явіўся на дачу. Машына стаіць на месцы, трое сутак прастаяла, як пад аховай.

Георгій Яўменавіч палагаднеў: цэла машына.

— Дзе ключ?

Ці забіралі тэрарысты ў яе ключ — Арыядна не помніла. Не да ключа было. Долары, пяцьдзесят было, з сумачкі вытраслі. Але пярсцёнка і завушніц залатых не зачапалі. Ухмыльнулася дзіўна:

— Культурныя. Хацелі, каб я засталася прыгожая.

Бацьку не спадабалася, што яна пасля такога стрэсу здольная жартаваць.

— Ты ячшэ смяешся?

— А я і там не плакала. Яны перада мной на насочках хадзілі.

— Дзе яны цябе трымалі?

— Не разабрала я, які мікрараён. Сёння яны мне завязалі вочы і вывелі пад цёмным вуалем, толькі на шашы развязалі.

Галаван паехаў на гарадскую кватэру шукаць запасныя ключы. Знайшоў у сейфе. Прыгнаў "таёту" на дачу.

Але настрой не ўзнімаўся, раздражнёнасць не праходзіла. Гэта трывожыла. Арыядне сярдзіта сказаў:

— Каб адсюль — ні кроку! За плот носа не высоўвай. Уся твая дарога — ад катэджа да лазні, да басейна.

— Замуруй мяне.

— І замурую!

Праз тры дні пачаў "замуроўваць". Нічога нават жонцы не сказаў, а да дачы пачалі прыходзіць грузавікі з цэглай — адзін за адным. За дзень навезлі гару цэглы. У двор. На вуліцу. Суседзі чуць праязджалі. Чартыхаліся, праклiналі "праклятага капіталіста", здзіўляючыся, што яшчэ ён намерыўся будаваць?

А праз дзень з'явілася вялікая брыгада муляраў — чалавек дванаццаць, пайшлі машыны з растворам. І вакол двайнога участка Галаванава катэджа і лазні пачалі ўзводзіць высачэзны — у два метры, калі не вышэй, — цагляны плот.

Бліжэйшы сусед Іпаліт Пятровіч — кладку пачалі ад яго участка — быў не проста здзіўлены — ашаломлены.

— Глянь, Міла, глянь! Што яны робяць? Навошта яму такі плот? Ад каго ён адгараджваецца? Ад людзей? Ад сонца? Божа мой! Я замок не маю за што купіць, а ён — столькі цэглы!.. На вялікі дом хапіла б! А ты кажаш: не знаеш, што такое рынак. Гэта калі ўсюды будуць такія агароджы.

— Ад каго?

— Ад нас з табой. Ад нас!

— Я пайду ў іх красці?

— А хто цябе ведае! Чэрня злая. А мы з табою чэрня. Якую п'есу я напішу! Дарэмна ты адмовілася ад яго мільёнаў.

Ты ж дзякаваў мне.

— Я дзякую... я дзякаваў, што ты такая... Міла! Ты высокая! А я.... я нізкі. Але чорт з ім, няхай быў бы нізкі, уніжаны, ушчэмлены, залежны... раб не божы, раб зямны... абы была б пастаноўка. Можа, гэта мая апошняя песня. Курлыкнуў бы і заняў бы сваё месца ў жураўліным кліне.... Але не.. тое, пустое, месца не для мяне! Для Расула, для Івана ці Васіля...

— Любы мой стары дуралей! У кожнага — сваё месца. Богам назначанае. І ніхто яго не можа заняць. А плот... плот такі мне падабаецца.

— Падабаецца?

— Прызнаюся. Мне брыдка глядзець праз буйныя ячэйкі сеткі на іх жыццё. А так я не буду іх бачыць... Я не хачу іх бачыць! І не хачу, каб яны глядзелі на мяне. Гэтая Антаніна як стане каля сеткі, гадзіну можа мянташыць. Працаваць не дае. А мне трэба закатаць вуньколькі банак. Я любіла шумных іудзеяў Левіных, хоць Давід быў хітруган. І не люблю ціхіх хрысціян Галаванаў, у Антаніны у спальні іконы вісяць. Няхай даруе мне Усявышні парушэнне запавета. Не ворагі яны мне, але і сястрой іх я не жадаю быць.

— Мудрая ты ў мяне.

— Якая там мудрацъ у старой бабы? Я злая. Сёння адхвастала рушнікам Косцю. Нядобра. Хлопцу шаснаццаць гадоў.

— Уяўляю, як ён плакаў.

— Рагатаў, паганец. Але пагразіў, што больш на дачу не прыедзе. І я перажываю. Яны і так рэдка пачалі ездзіць, дарослыя ўнукі.

— Табе мала малых?

— Мне трэба ўсе.

— Чаго захацела! Не прагнічай. Дык, кажаш, плот табе падабаецца? Цікава, што скажа іх філосаф?

— Не ўхваліць.

— Да пэўна ж. Ты здзіўляешся межам у грамадстве. Мяжа раздзяліла сям'ю.

— Антаніна перажывае.

— За каго?

— За сына, канешне. Яны падзялілі сваю любоў незвычайна: бацька аддае яе дачцы, маці — сыну.

Галаван не сказаў сваім — навошта цэгла. А калі муляры пачалі ўзводзіць агароджу, Арыядна ўвечары непрыстойна рагатала бацьку ў твар.

— Гэта ты вырашыў такім чынам замураваць нас з маці?

— І замурую, — змрочна адказаў ён.

— Маці не пералезе. А мне — раз плюнуць. Мне праз паўмесяца на заняткі.

— Сама машыну не павядзеш. Будзеш ездзіць з Якавам.

— О, божа! Гэта ж здзек. Хаця б маладзейшы. Трухлявы пень. Ад яго плесянню ваніць.

Шафёр Якаў — стары, поўны чалавек з адышкай, пенсійнага ўзросту. Але Галаван не памяняў бы яго на якога маладога. Класны вадзіцель, механік. Да педантычнасці акуратны чалавек, паслухмяны. Безадказны. Трэба працаваць уначы, у выхадны — калі ласка. Хоць гаспадар не перагружаў яго, бо сам вадзіў машыну. На дачу, дзе машына начавала, Якаў не ездзіў на аўтобусе, чакаў гаспадара ў офісе.

Да здарэння з Арыяднай Георгій Яўменавіч толькі сам меў дазвол на нашэнне зброі. Пасля выпадку, не сказаўшы міліцыі пра выкраданне дачкі, з дапамогай Круглінскага, якога падкармліваў, аформіў, па кантракту, Якава сваім целаахоўнікам і атрымаў "вальтэра" і яму. І памяняў абавязкі: вазіць Арыядну і берагчы, як зрэнку вока.

Маці не казала, што часам Арыша знікае на дзве — тры гадзіны — гуляе па лесе, нягледзячы на строгую забарону бацькі.

Падгледзела, што Арыша сустракаецца з сваім каштаваным. Дачцы слова не сказала. "А калі гэта каханне?" Да кахання мела павагу. І ўвогуле маці лічыла, што замыканнем дзяўчыну не ўсцеражэш, не дзіця малое.

Георгій Яўменавіч, атрымліваючы ўвечары справаздачу, чым займалася на працягу дня пустэльніца, заставаўся задаволены, што яго непаседа, упартая каза зрабілася такой паслухмянай, такой цацай.

●

Арыядна, хоць і стогнучы раніцою, аднак акуратна ездзіла на заняткі ў свой лінгвістычны універсітэт, дзе вучылася на факультэце французскай мовы.

Якаў скардзіўся Галавану:

— Ох, і рабацёнку вы мне далі. Паўдня млею ля універсітэта. Сумота.

— За тое ў касцях не ламота. Спіш, дзед? А спаць табе нельга. Ты — целаахоўнік.

— Хто ўсцеражэ такое цэла? Ад яго жарам пыхкае.

— Ты глядзі! Нават ты ўчуяў жар. А хочаш, каб я прыставіў да яе маладзейшага.

Арыядна ў сваю чаргу абуралася.

— Ну, і цэрбера ты мне даў. Такія лысыя еўнухі гарэмы сцераглі. У магазін не дае заглянуць.

— А што табе трэба ў магазінах? Чаго табе не хапае?

— Я жанчына. І ў мяне цікаўнасць. Прынцэсы ходзяць па магазінах.

—Я цябе сам буду суправаджаць у магазіны, мая прынцэса. Ты ва ўласны заглянi. Гаспадыня!

— Ты думаеш, увесь крымінал толькі і заняты тым, як бы ўкрасці тваю дачку?

— Я магу ўсім рызыкаваць. Толькі не табой. Хопіць з мяне аднае кражы. Я жыць хачу.

— Мама не баіцца.

— Баюся. Але чалавека можна схаваць толькі ў турме. А на волі ён — птушка.

Арыядна смяялася і абнімала маці.

— Чуў, татунь? Птушка! Я хачу быць птушкай!

І птушку ўкралі зноў.

# НАВАГОДНІ РЫМЭЙК

***Перад Новым годам кінастудыя "Хрыстмас інтэрнейшнал" атрымала процьму заказаў на фільмы з навагодняй тэматыкай. Кожная прафесійная студыя ведае выйсце з такога становішча і заказвае сцэнарыі-рымэйкі — пераробкі даўно вядомых сюжэтаў. У якасці зыходнага матэрыялу некалькім вядомым беларускім пісьменнікам быў прапанаваны сюжэт старога мульціка: Дзед Мароз са Снягуркаю вязуць дзецям падарункі, а злосны Воўк адбірае іх...***

***Вось якія сцэнарыі навагодніх фільмаў атрымаліся ў пісьменнікаў.***

## ПЛЮХА

Плюха ўпершыню адчуў сябе чалавекам, калі адзінокая суседка папрасіла яго быць Дзедам Марозам. Хто б мог падумаць — сама прыкульгікала, віна пляшку прынесла... Прыйдзі, маўляў, ды прыйдзі, з Новым годам павіншуй.

За пляшку Плюха ішоў да любой... Вось і на гэты раз прычапіў кудзельную бараду, закінуў за плечы мех з падарункамі і пацёгся.

Ля суседчынай хаты стаяў незнаёмы мужчына ў ватніку і спартовых штанах. Плюха збіраўся ўжо пастукацца ў дзверы, але пачуў:

— Пастой, мужычок...

Незнаёмец падышоў бліжэй. Плюха паглядзеў у яго кругла-бліскучыя звярыныя вочы і сцяўся:

"Гэта ж суседчын мужык Хведзька Воўк, турэмшчык!"

Раніцай на падворку ляжаў расшкуматаны пусты мех і рэшткі кудзельнай барады...

## МОКРЫЯ ЗАВІРУХІ

Баба Марозіха ўзнялася на слабкія ногі. Завіруха на дварэ. А трэба ехаць у горад, да ўнукаў, везці падарункі... Распрастала мех, новы, адлежалы ў шафе. Пачала пакавацца... У шыбу ейнае хаты пастукалі... Баба Воўчыха, суседка... У хаце бабы Воўчыхі гразка, у ботах не перайсці, але ж колькі свіней гадуе! Чаго прыйшла ў самую пільніцу?

— Марозіха, га, Марозіха, а гусі твае пасталі на вуліцы, белымі клубкамі качаюцца... Плот паваліўся... У цялушкі капыта задралася...

Ужо пад вечар, ушчэнт урабіўшыся, села Марозіха пад абразы... Паглядзела на недапакаваны мех... Не, гаспадарка важней. Не будзе Марозіха квеліць сваю больку. Не паедзе да гарадскіх дзяцей. Самі прыедуць, калі трэба будзе.

На вуліцы, як стары млын часу, грукатала мокрая завіруха.

## ЯК Я БЫЎ ДЗЕДАМ МАРОЗАМ

Чаго толькі са мной ні здаралася пад Новы год! Неяк у часы юнацтва студэнцкага ваганцкага прапанавалі мне на вечарыне недазволенай Дзедам Марозам сіваносаносным пабыць. Снягурку далі — вабнаклубую, блакітнавокую.

Не паспелі мы дайсці да адраса належнага, не паспеў я Снягурцы сваёй вабнаклубай пра Парыж ды Акропаль распавесці, спыніў нас пагонаносны ды важнатвары, прадставіўся ветліва:

— Маёр Воўк! Вашы дакументы, маладыя людзі!

Распавёў нехта, аказваецца, міліцыянтам лычкапагонным пра вечарыну недазволеную. Канфіскавалі ў нас са Снягуркаю мяшок падаруначны, і саміх прыхапіць хацелі.

Але расказаў я ім, аднапрафесійцам мужным, пра Парыж манмартраўскі, Акропаль мармуровы, Рым дэмакратычны ды Нью-Йорк супердэмакратычны, і адпусцілі нас са Снягуркаю міліцыянты паэталюбныя.

І што ў мяшку тым падаруначным было, мусіць, адна пані Гвяздоўская цяпер ведае...

## СОН МІЖ ВАЎКОЎ

Д. М. нервова пазіраў на гадзіннік. Цяжкі мех з падарункамі адцягваў плечы. Таксі спазнялася.

— Сядай, падвязу!

Меладычны голас гучаў з чорнага "Фольксвагена". Д. М. добра ведаў, што машына належыць ягонаму калегу па канторы Б*. Але на гэты раз у Б*, які сядзеў за рулём, былі доўгія валасы, мяккая, белая бабская скура, падмаляваныя яркай чырвонай памадай вусны...

"Гэта не Б*.., — пакутліва думаў Д. М., які ўжо сядзеў у машыне. "Гэта... жанчына!!!"

А машына імкліва везла яго...

"У лес? Навошта? Няўжо я сплю?" — ліхаманкава думаў Д. М., а ўслых спытаў:

— Хто ты?

Машына затармазіла ў самым гушчары. Незнаёмка павярнулася. Гожасць яе твару няўлоўна пераходзіла ў пачварнасць. І пальцы на руках былі задужа доўгія ды кастлявыя... А зубы!..

— Я — Ваўчыха, налётчыца! Чуў, мабыць?

Банду Ваўчыхі-налётчыцы ведалі ўсе. Д. М. хуценька выскачыў з машыны праз вакно, пакінуўшы там мяшок з падарункамі. А пасля доўга тужліва пазіраў у той бок, дзе знікала машына. Крыкнуў услед адно толькі слова:

— Навошта?

З машыны даляцела:

— Казёл!..

## МОЙ РАДАВОД АД ДЗЕДА МАРОЗА

Мая знаёмая паштарка Надзя Ваўковіч параіла мне напярэдадні Новага года:

— Журналаў не данеслі? А вы ў Дзеда Мароза папытайцеся. Многа іх цяпер ходзіт. Вот і варуют із ящыкав журналы па-біларуску.

Вярнуўся я дахаты, справіў рэквіем па нясвіжскім сале, а заадно па пляшцы "Белавежскай", і задумаўся. А ці не дабрацца і сапраўды да таго гада Дзеда Мароза? Пашукацьму яго ў нетрах Серабранкі ды глыбінях стагоддзяў!

Вышукі далі нечаканы вынік. Я зразумеў: Дзед Мароз хаваецца ў маім радаводзе, у калене прыкладна трыццаць трэцім ці сорак сёмым. І выходзіць, вяду я свой род праменька ад Дзеда Мароза...

А калі я ўжо збіраўся выконваць стары Дзед-Марозаўска-крывіцкі звычай — віншаваць суседзяў па лесвічнай пляцоўцы, — прыйшла мая Снягурка.

— Ты куды гэта сабраўся? А часопісы з пошты прынёс?..

...Незалежнасць — гэта калі ты бярэш пляшку "Белавежскай" і ідзеш да суседа, і ніхто не пасылае цябе ўжо трэці раз на дзень на пошту да Надзі Ваўковіч па неданесеныя часопісы...

## ДЗЕД МАРОЗ

У дзверы пазванілі.

Адчыніла жанчына ў шаўковым халаціку ў буйныя ружы.

Пад халацікам не было нічога.

На лесвічнай пляцоўцы стаяў Дзед Мароз. Ён зайшоў у вітальню, скінуў з плячэй цяжкі мех і ўладна сказаў жанчыне:

— Нагніся.

Яна пакорліва нагнулася.

Тады Дзед Мароз дастаў з мяшка прыгожую дыядэму і надзеў жанчыне на галаву.

— Гарачае прывітанне ад пана Ваўкалака з Амстэрдама. Заказ выкананы.

Дзед Мароз знік.

Жанчына яшчэ доўга стаяла, сагнуўшыся, у вітальні і думала: снілася ёй усё гэта ці не?

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Камедыя сканала з Макаёнкам? Андрэй Ягоравіч смяяўся б з гэтых ёнкаў. Так, жорсткі час, разгул ідыятызму, ды самы раз сістэме ставіць клізму. Узгадаваная раскошнай тэмай, квітнее сатырычная паэма. Усё бярэ на ўзбраенне нацыя, ёсць анекдот, карыкатура, анімацыя, камедыя, далёкая ад скону, жартуюць з намі Крапіва і Макаёнак. І Несцерэнка ад смеху плюшчыць вейкі... Скідалі троны Уленшпігелі і Швейкі.

●

— Вучыцеся, — клічуць нас дарадцы-самазванцы, — выбіраць прэзідэнта, як у дэмакратычнай Францыі — на шмат гадоў.

— А дзе гарантыі, — пытаемся ў дарадцаў, — што выберам Шырака, а не "Луя" Чатырнаццатага, і ён па прыкладзе таго караля не аб'явіць, што дзяржава — гэта я?

●

Кіраўнік пазайздросціў акцёру: — Вы дайшлі да вяршынь так скора. А мне пры маім жабрацтве ніяк туды не забрацца. — Нашто ж вам мастацтва акцёрскае? — А як жа яно без прытворства? Не рабі я ўсё артыстычна, ураз заслужыў бы імпічмент.

●

Паводле С. Маршака. Зямля ляжала, цемраю ахутана. "Хай будзе ясна!" — і з'явіўся Ньютан. Не дрэмле Д'ябал, вылез недзе збоку, Эйнштэйн з'явіўся — зноў усё у змроку. Не іначай Д'яблу нешта памагло. Калі вучэнне — змрок, дык што тады святло?

●

Зацята працавалі адвакаты — услед за вязнямі дамоў вярнулі катаў. Забыта ўсё, ні страху, ні дакору. Ізноў у карнікі вярбуюць валанцёраў. Не скажаш, што прэстыжная работа, але ўжо камусьці ў ахвоту.

●

Ці вандроўнік беларус? Вандроўнік. Хапае нас на захадзе і поўдні. Але найбольш на поўначы і ўсходзе, хоць нас туды і везлі не па згодзе. Ты — з Беларусі, чую па гаворцы, адкуль, зямляк — з Камчаткі ці з Нью-Йорка?

●

О ВКЛ — чароўная краіна, літвіны, наш патрачаны назоў! Ступаю па нябачных каляінах, па вуліцах і плошчах без дамоў... Ад бібліятэкі на метро дадому — і зноў я ў краіне невядомай.

●

Была зямлячка яшчэ як уладкаванаю — рабіла ў Германіі путанаю. Прывезла сумку, поўную даляраў, купіла дом паблізу ад бульвара. Машына ёсць, ёсць нейкая заначка, адно што п'е без просыпу зямлячка.

●

Жанчына, што збірае недакуркі... Маркотна, але што гуляць у жмуркі, няма ім, браце, як дапамагчы — жанчыны кураць зараз болей за мужчын.

●

Дыскусія, рэзкая па тоне, змахвала на спрэчку тэнара з барытонам. Зразумець апанентаў было немагчыма, але на звон перамагаў барытон.

●

Сын наследуе бацьку? Не было вызначэння надзейнага — шчасце гэта ці няшчасце, ідэйна ці безыдэйна. Пра рабочых гаварылі адназначна: "працоўная дынастыя", пра інтэлігенцыю кялейна: "непажаданая сямейнасць". Яшчэ вялікі Ленін назваў інтэлігенцыю дрэнню. Яно і сённяшнія "власти" касавурацьу: "інтэлігенцкая дынастыя?"

●

Верабей сеў на плот. — Папаўся! — выскачыў аднекуль кот. — Не кратай птушаня! — абазвалася шчаня. — Кар-кар, якая абарона — высунулася варона. — Не "кар", а я на сядзібе гаспадар! — Расце сабака, — застракатала сарока.

●

Расце міліцыя, яе пара яшчэ не апетая паэтамі. Па колькасці міліцыянтаў на аднаго жыхара мы апярэдзілі планету. Колькасць злачынцаў на міліцыянта? А вы далучыце да злачынцаў дэманстрантаў.

●

Зязюля з насценнага гадзінніка — якая ёмістая метафара. Зязюля патомства не знае, дзетак сваіх не гадуе. Нам прапаноўваюць падобнае — ролю механічнай птушкі. Сядзі сабе ў дамочку, адно спраўна кукуй. Не трэба нам гэткай долі, за ўсё даражэй воля, лёс бязродных істотаў — ці наш гэта лёс?

●

З латышскага гумару: "Спадарства, надпіс на дзвярах "Цягнуць на сябе" — не лозунг!"




Мал. Я. Царкова

Мал. М. Рудкоўскага

Мал. А. Папова




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** **Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Мікола ГІЛЬ** — ***намеснік галоўнага рэдактара*** **Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — ***намеснік галоўнага рэдактара,*** **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — ***адказны сакратар***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4822
Нумар падпісаны 30.12.1996 г.
Заказ 8160/Г

П 123456789101112
М 123456789101112